ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 5 № 5




МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1939



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 5
Май 1939 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13.
Тэлефоны рэдакцыі: нам. рэдактара—камутатар
20.000, даб. 271; агульны—24—884.



# Перэтворым у жыццё рашэнні XVIII з'езда ВКП(б)

XVIII з'езд Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) увойдзе ў гісторыю нашай партыі, у гісторыю барацьбы совецкага народа за трыумф комунізма, як адна з самых яркіх і выдатных падзей.

У гераічную гісторыю партыі Леніна—Сталіна ўпісана новая хвалюючая старонка, у якой практычна распрацавана грандыёзная праграма завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Таварыш Сталін у сваім геніяльным дакладзе на з'ездзе з выключнай яснасцю і паўнатой падвёў вынікі вялікаму шляху, які прайшлі наша партыя, наша краіна за годы двух сталінскіх пяцігодак, распрацаваў новыя тэарэтычныя палажэнні аб соцыялістычнай дзяржаве і інтэлігенцыі і вызначыў шлях нашага далейшага руху ўперад, да ззяючых вяршынь комунізма. Скарбніца марксізма-ленінізма абагацілася новым каштоўным укладам, партыя атрымала новую магутную тэарэтычную зброю.

XVIII з'езд ВКП(б) з'явіўся магутнай дэманстрацыяй пасяховага адзінства партыі, несакрушымай згуртаванасці большэвіцкіх радоў.

З'езд аднадушна адобрыў палітычную лінію і практычную работу ЦК ВКП(б) і прапанаваў усім партарганізацыям кіравацца пастаўленымі ў дакладзе таварыша Сталіна палажэннямі і задачамі, як баявой праграмай дзеяння.

З'езд аднадушна зацвердзіў трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР, праграму яе далейшага ўздыму, росквіту культуры, росту народнага добрабыту.

Атрыманыя совецкім народам сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма з'яўляюцца трыумфам большэвіцкай партыі і яе ленінска-сталінскага кіраўніцтва, трыумфам вялікага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Разграміўшы трацкісцка-бухарынскую і буржуазна-нацыяналістычную банду шпіёнаў, шкоднікаў і забойц, партыя ўмацавала сілу і магутнасць совецкага ладу, сілу і магутнасць краіны перамогшага соцыялізма.

Даклад таварыша Сталіна натхняе ўсіх рабочых, калгаснікаў, совецкую інтэлігенцыю, кожнага працоўнага нашай краіны на новыя гераічныя справы.

У трэцюю сталінскую пяцігодку совецкі народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, закасаўшы рукавы, практычна змагаецца за вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР: **дагнаць і перагнаць таксама і ў эканамічных адносінах найбольш развітыя капіталістычныя краіны Еўропы і Злучаныя Штаты Амерыкі.**

«Вырашыўшы гэтую задачу, мы зробім СССР самай перадавой краінай у свеце ва ўсіх адносінах. Не толькі ў палітычных

адносінах, чаго мы дасягнулі ўжо даўно, не толькі па ўзроўню тэхнікі вытворчасці, чаго мы таксама ўжо дасягнулі. Мы паставім гэтым СССР на першае месца ў свеце і ў эканамічных адносінах. Тады, і толькі тады, па-сапраўднаму раскрыецца значэнне новай эпохі ў развіцці СССР, эпохі пераходу ад грамадства сацыялістычнага да грамадства комуністычнага» **(Молатаў).**

Грандыёзна праграма Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, велічны яе мэты і задачы.

План трэцяй сталінскай пяцігодкі забяспечвае велізарны ўздым усіх галін народнай гаспадаркі. Прамысловая прадукцыя павялічыцца амаль у два разы. Народны прыбытак узрасце з 96 мільярдаў да 174 мільярдаў рублёў, г. зн. у 1,8 раза. Прырост прамысловай прадукцыі складзе 88,5 мільярда рублёў, гэта значыць перавысіць прырост прадукцыі першых двух пяцігодак, разам узятых.

Аб велізарным размаху будаўніцтва красамоўна гаворыць ужо тое, што размер капіталаўкладанняў у трэцяй пяцігодцы перавысіць агульную суму капіталаўкладанняў за першую і другую пяцігодкі. К канцу трэцяй пяцігодкі мы павінны сабраць ураджай зернавых, прыкладна, у 8 мільярдаў пудоў.

Трэцяя пяцігодка—пяцігодка машынабудаўніцтва, пяцігодка спецыяльных высокаякасных сталей, пяцігодка хіміі—яшчэ больш умацуе абароназдольнасць нашай краіны, зробіць нашу непераможную Чырвоную Армію яшчэ больш магутнай.

У дакладзе тав. Молатава і рашэннях з'езда аб трэцяй сталінскай пяцігодцы ясна вызначаны грандыёзныя перспектывы далейшага ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі, матэрыяльнага і культурнага дабрабыту працоўных, умацавання магутнасці і абароназдольнасці нашай сацыялістычнай радзімы.

План трэцяй сталінскай пяцігодкі будзе пераможна ўвасоблен у жыццё. Рэальнасць нашых планаў—гэта жывыя людзі, гэта шматмільённая армія рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі, цесна згуртаваных вакол сталінскага Цэнтральнага Камітэта і гатовых аддаць усе свае сілы на карысць радзімы, для перамогі вялікай справы комунізма. Рэальнасць нашых планаў—гэта выдатныя кадры партыйных і непартыйных большэвікоў, якія з'яўляюцца залатым фондам партыі і дзяржавы; гэта—спалучэнне старых і маладых кадраў у адным агульным аркестры кіруючай партыйнай і дзяржаўнай работы. Рэальнасць нашых планаў—гэта мудрае выпрабаванае кіраўніцтва Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі, узначаленага вялікім Сталіным.

Веліч перамог сацыялізма глыбока адлюстроўвае даклад тав. Жданава, рэзалюцыя з'езда па дакладу і прыняты з'ездам новы статут ВКП(б), прасякнуты сталінскімі клопатамі аб чалавеку, аб арганізацыйнай магутнасці нашай партыі.

У сувязі з карэннымі зменамі ў эканоміцы і сацыяльнай структуры нашай краіны, перад тварам вялікіх сусветна-гістарычных задач партыя адточвае сваю арганізацыйную зброю, робіць яе яшчэ больш гібкай і моцнай.

У новы статут ВКП(б) унесен рад змен, неабходнасць якіх з усёй чоткасцю абгрунтаваў у сваім дакладзе тав. Жданаў.

Новы статут ВКП(б) устанаўляе аднолькавыя ўмовы прыёму ў партыю для рабочых, сялян і інтэлігентаў.

Наша совецкая інтэлігенцыя—гэта сыны і дочкі рабочых і сялян, гэта соль зямлі совецкай, гэта сапраўды народная інтэлігенцыя, якая верай і праўдай служыць свайму свабоднаму гераічнаму совецкаму народу. Гэта новая армія работнікаў разумовай працы налічвае ў сваіх радах 9 мільёнаў 591 тысячу чалавек, а з улікам сямей складае 13—14 проц. насельніцтва СССР.

Прыём на аднолькавых умовах палягчае ўступленне ў партыю лепшых людзей краіны соцыялізма. Аднак адмена катэгорый ні ў якім разе не азначае якога-небудзь аслаблення выпрабаванага ленінска-сталінскага прынцыпу строга індывідуальнага адбору. У партыю прымаюцца толькі лепшыя, перадавыя людзі, да канца адданыя соцыялістычнай радзіме і вялікай справе партыі Леніна—Сталіна.

Новы Статут ВКП(б) прысвойвае партыйным арганізацыям вытворчага тыпу функцыі кантролю. Наркамацкія партарганізацыі ў сілу асобых умоў не карыстаюцца функцыямі кантролю, але абавязаны сігналізаваць аб недахопах у рабоце ўстаноў, наркамата і яго паасобных работнікаў і матэрыялы са сваімі меркаваннямі накіроўваць у ЦК ВКП(б) і кіраўнікам наркамата.

Новы раздзел статута «Партыя і комсамол» абавязвае забяспечыць карэннае палепшанне партыйнага кіраўніцтва комсамольскімі арганізацыямі, павышэнне іх ролі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы.

Статут ВКП(б) надае сталінскай праграме далейшага ўмацавання партыі такія арганізацыйныя формы, якія забяспечаць яе выкананне, і ўказвае шляхі далейшай дзейнасці нашых партыйных арганізацый, кіруючых парторганаў, кожнага члена партыі ў новай абстаноўцы.

Статут ВКП(б) яшчэ вышэй узнімае званне члена вялікай партыі Леніна—Сталіна, робіць яшчэ больш гібкімі арганізацыйныя формы работы партыйных арганізацый у новых умовах, узбройвае партыю на паспяховае выкананне плана трэцяй пяцігодкі, на вырашэнне вялікай задачы завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Перад партыйнымі арганізацыямі і кожным комуністам стаіць зараз пачэсная і разам з тым выключна адказная задача—несці ў масы гістарычныя рашэнні XVIII з'езда ВКП(б) і весці нястомную барацьбу за ператварэнне іх у жыццё.

Непраўзыйдзены па глыбіні і мудрасці даклад таварыша Сталіна, даклад тав. Молатава аб велічным плане трэцяй пяцігодкі, даклад тав. Жданава, які адточвае арганізацыйную зброю нашай партыі, бліскучыя прамовы сталінскіх саратнікаў тт. Варашылава, Л. Кагановіча, Андрэева, Мікаяна, Калініна, гістарычныя рашэнні з'езда з'яўляюцца для мільёнаў большэвікоў, для ўсяго совецкага народа шырока разгорнутым стратэгічным планам далейшай барацьбы за комунізм.

Народы нашай краіны, вывучаючы гэтыя дакументы, з любоўю і інтарэсам будуць унікаць у кожнае слова, у кожную лічбу. І гэта зусім натуральна, бо справа партыі Леніна—Сталіна, у якой няма іншай мэты акрамя клопатаў аб добрабыце працоўных, стала справай усяго совецкага народа. За ажыццяўленне рашэнняў з'езда будуць змагацца мільёны рабочых, калгаснікаў, совецкіх інтэлігентаў—уся краіна.

Армія большэвіцкіх агітатараў і прапагандыстаў павінна дапамагчы кожнаму партыйнаму і непартыйнаму большэвіку яшчэ глыбей усвядоміць шляхі і перспектывы развіцця нашай соцыялістычнай

краіны, усвоіць задачы нашай далейшай барацьбы, ролю і месца ў ёй кожнага працоўнага.

Цэнтральная задача ўнутранай палітыкі нашай партыі: у бліжэйшыя 10—15 год перагнаць і ў эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. Партыйныя арганізацыі павінны на канкрэтных прыкладах растлумачыць працоўным усю яе веліч.

> «Толькі ў тым выпадку,—указвае тав. Сталін,—калі перагонім эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны, мы можам разлічваць, што наша краіна будзе поўнасцю насычана прадметамі спажывання, у нас будзе багацце прадуктаў, і мы атрымаем магчымасць зрабіць пераход ад першай фазы комунізма да другой яго фазы».

Ключ да вырашэння гэтай сталінскай задачы—у далейшым росце тэхнічнага ўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі, у росце нашых кадраў, у новым, нябачаным уздыме соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху, у яшчэ большым умацаванні працоўнай дысцыпліны.

Нашы большэвіцкія прапагандысты і агітатары на канкрэтных прыкладах і фактах разгорнуць перад працоўнымі грандыёзную карціну перамогі соцыялізма ў нашай краіне, напамінаючы аднак аб тым, што нашы поспехі не павінны ўскружыць нам галаву.

Таварыш Сталін на XVIII партз'ездзе яшчэ раз папярэдзіў нас аб тым, што мы павінны:

> «Не забываць аб капіталістычным акружэнні, памятаць, што замежная разведка будзе засылаць у нашу краіну шпіёнаў, забойцаў, шкоднікаў. Памятаць аб гэтым і ўмацоўваць нашу соцыялістычную разведку, сістэматычна дапамагаючы ёй граміць і карчаваць ворагаў народа».

Для Совецкай Беларусі—фарпоста СССР на заходніх рубяжах—гэтае ўказанне правадыра мае асаблівае значэнне.

Працоўным Совецкай Беларусі добра вядомы воўчыя павадкі ворагаў. Ім добра памятны крывавыя справы полчышчаў германскага імперыялізма і белапольскіх легіёнаў, падтрыманых французскімі і англійскімі інтэрвентамі. Але фашысцкія падпальшчыкі вайны не засцігнуць нас знянацку. Няхай агрэсары запомняць назаўсёды словы маршала Совецкага Саюза—Клімента Ефрэмавіча Варашылава:

> «Наш народ любіць мір, цэніць яго вялікія блага і змагаецца за мір ва ўсім свеце. Але ён умее і ваяваць. І не толькі ўмее, але і любіць ваяваць. І ў выпадку, калі зарваўшыяся агрэсары прымусяць совецкі народ узяцца за зброю, ён будзе біцца з той-жа страсцю і ўменнем, з якімі ён біў сваіх ворагаў семнаццаць год таму назад, з якімі будуе цяпер сваё новае соцыялістычнае жыццё, і не складзе зброі да поўнай і канчатковай перамогі».

Беларускі народ у брацкай дружбе з усімі народамі нашай краіны ўшчэнт разаб'е любога ворага на яго-ж уласнай тэрыторыі, калі ён пасмее сунуцца да нас.

Рашэнне XVIII з'езда партыі аб стварэнні ваенных аддзелаў у райкомах, гаркомах, абкомах і ЦК нацкомпартый выклікала прыметны зрух у масавай ваенна-абароннай рабоце.

У гарадах і раёнах БССР праводзяцца зараз специяльныя пленумы

гаркомаў і райкомаў партыі і партсходы, прысвечаныя пытанням масава-абароннай работы. Аднак большэвіцкі парадак у рабоце асоавіяхімаўскіх арганізацый, ПВХО і Чырвонага крыжа ўсё яшчэ не наведзен.

Задача партыйных арганізацый—выкараніць з дапамогай асоавіяхімаўскага актыва парочныя метады, расхлябанасць і арганізацыйную распушчанасць, якія цэлыя годы насаджаліся ворагамі народа, шпіёнамі і дыверсантамі фашысцкіх разведак, стварыць моцную асоавіяхімаўскую арганізацыю, рашуча палепшыць партыйнае кіраўніцтва масава-абароннай работай. Трэба абавязкова дабіцца, каб кожны комуніст і комсамолец актыўна ўдзельнічаў ва ўмацаванні абароназдольнасці нашай краіны, у масавай абароннай рабоце. Кожны большэвік і ў першую чаргу з партыйнага актыва павінен у дасканаласці аўладаць хоць-бы адной ваеннай спецыяльнасцю, паказваючы прыклад беспартыйным.

У прапагандзе рашэнняў XVIII з'езда партыі і ў барацьбе за няўхільнае ператварэнне іх у жыццё значнае месца павінна заняць совецкая інтэлігенцыя. Тав. Молатаў у сваім дакладзе падкрэсліў, што цяпер, пасля канчатковага ўмацавання палітычных і эканамічных пазіцый соцыялістычнага грамадства ў СССР, рашаюць справу кадры, якія асвоілі тэхніку вытворчасці, рашаюць справу совецкія культурныя сілы, якія ўзначальваюць масы працоўных у іх вялікай барацьбе за поўную перамогу комунізма.

Краіна адзначае гістарычны даклад таварыша Сталіна і рашэнні XVIII з'езда партыі новым палітычным і вытворчым уздымам.

Кожны дзень прыносіць нам усё новыя і новыя весткі аб поспехах, перамогах і рэкордах, атрыманых у соцыялістычным спаборніцтве імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

Шырыцца спаборніцтва на будаўнічых работах у Магілеве.

Каменшчык тав. Валюжынец (першы будучастак) укладвае ў дзень да 2.200 цаглін пры норме 900. Каменшчыкі браты Тюканавы штодзённа выконваюць норму на 180 проц., па дзве нормы дае тав. Хацькоў.

Соцыялістычнае спаборніцтва разгарнулася на торфзаводзе Міхановічы, які адным з першых пачаў сезон. Брыгады тт. Усава і Гаўрылькова ў першыя дні выканалі свае нормы на 105—110 проц., а зараз даюць па 170 проц. Замест 38 тыс. яны здабываюць па 65 тыс. і больш цаглін торфу. Рэкорды выпрацоўкі дае комсамолец Нікалай Грабер, які выконвае сваё зменнае заданне на 420 проц. Іван Паўленка павысіў сваю выпрацоўку да 390 проц. Іван Канапельнік і Нікалай Рыбнікаў даюць па 318—376 процантаў. У сярэднім завод здабывае ў дзень па 300 тон торфу замест 260 па плану.

Калектыў станкабудаўнічага завода імя Кірава ў Віцебску ўзяў на сябе абавязацельствы: да 12 снежня—другой гадавіны дня выбараў у Вярхоўны Совет СССР—датэрмінова выканаць гадавую праграму і даць краіне звыш плана 200 высокаякасных станкоў. Соцспаборніцтвам ахоплена ўжо 70 проц. рабочых, служачых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Завод сістэматычна выконвае сваю праграму на 105—110 проц.

Чыгуначнікі Віцебскага аддзялення маюць не мала дасягненняў у спаборніцтве. 40 брыгад грузчыкаў з'яўляюцца суцэльна стахаnаўскімі і выконваюць нормы ад 200 да 395 процантаў.

Электразваршчык аўтаматна-арматурнага цэха Віцебскага паравознага дэпо тав. Гайковіч выконвае заданне на 435 проц., слесар

тав. Нейдлін дае тры нормы, машыністы тт. Семенчук і Самсонаў зэканомілі за сакавік 12.976 кілаграмаў паліва і амаль удвая павялічылі міжпрамывачны прабег. Аўтакантрольны пункт вагоннага дэпо, перавыконваючы свае заданні ў тры, у тры з паловай разы, 16 красавіка выпусціў з сярэдняга рамонту 20-тонную платформу за дзве гадзіны 20 мінут пры норме ў 72 гадзіны.

Калектывы заводаў імя Варашылава і Кірава ў Менску, Гомсельмаша, трубаліцейнага ў Магілеве, уключыўшыся ў соцспаборніцтва, выконваюць і перавыконваюць свае планы.

У калгасе «Чырвоны бераг» (Пішчалаўскі сельсовет Аршанскага раёна) да 1939 года не было звенняў, і калгаснікі працавалі скопам. Пасля прамовы тав. Андрэева на XVIII з'ездзе партыі калгас перабудаваў сваю работу. У кожнай брыгадзе арганізаваны звенні, за якімі замацаваны пэўныя ўчасткі і планы работы на ўвесь год. Уключыўшыся ў соцспаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, калгаснікі па-стаханаўску змагаюцца за высокі сталінскі ўраджай. Пётр Салтанаў, Даніла Станавы, Залман Хасман, Змітро Сінькоўскі ўзорвалі за дзень па 1,20 гектара пры норме 0,8 га. Фёдар Латышаў баранаваў па 12 га замест 5. У калгасе няма ні аднаго чалавека, які не выковае вытворчых норм.

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін паставіў перад нашымі соцыялістычнымі калгасамі задачу аб водпуску рабочай сілы для ўсё растучай прамысловасці.

> «Цяпер ужо гутарка ідзе не аб тым,—гаварыў таварыш Сталін,—каб прыстроіць як-небудзь у прамысловасці і ўзяць з міласці на работу беспрацоўных і бяздомных сялян, якія адбіліся ад вёскі і жывуць пад страхам голаду. Такіх сялян даўно ўжо няма ў нашай краіне. І гэта, вядома, добра, бо яно сведчыць аб заможнасці нашай вёскі. Цяпер гутарка можа ісці толькі аб тым, каб прапанаваць калгасам уважыць нашу просьбу і адпускаць нам для растучай прамысловасці штогодна хоць-бы каля паўтара мільёна маладых калгаснікаў. Калгасы, стаўшыя ўжо заможнымі, павінны мець на ўвазе, што без такой дапамогі з іх боку вельмі трудна будзе расшыраць далей нашу прамысловасць, а без расшырэння прамысловасці—не зможам задавальняць растучы попыт сялян на тавары масавага спажывання. Калгасы маюць поўную магчымасць задаволіць гэтую нашу просьбу, бо багацце тэхнікі ў калгасах аслабаняе частку работнікаў у вёсцы, а гэтыя работнікі, пераведзеныя ў прамысловасць, маглі-б прынесці велізарную карысць усёй нашай народнай гаспадарцы».

Калгасныя масы нашай краіны горача адгукнуліся на гэты заклік таварыша Сталіна.

Калгас «Пролетарый» (Прапойскі раён, Магілеўская вобласць), правільна расставіўшы сілы, палепшыўшы арганізацыю працы, паспяхова справіўся з усімі работамі і ўжо ў першым квартале 1939 года паслаў на прамысловыя прадпрыемствы 37 калгаснікаў.

Калгас «Чырвоны бераг» (Хлеўнянскі сельсовет, Кармянскі раён) вылучыў для работы ў прамысловасці 10 калгаснікаў. З Літвінаўскага сельсовета паехалі працаваць на гарадскія прадпрыемствы 23 калгаснікі. З Кармянскага раёна ў вугальную прамысловасць накіраваліся 700 калгаснікаў.

Гэтаму прыкладу павінны паследаваць усе калгасы. Абавязак нашай прамысловасці—умела паставіць справу вярбоўкі, забяспечыць

новаму набору неабходныя ўмовы, каб замацаваць яго на пастаяннай рабоце.

Партыйныя, комсамольскія, профсаюзныя і гаспадарчыя арганізацыі павінны штодзенна клапаціцца аб палепшанні ўмоў працы рабочых, аб росце заработнай платы, па-большэвіцку кіраваць соцыялістычным спаборніцтвам, арганізуючы дапамогу перадавых адстаючым, нацэліць кожнага рабочага, калгасніка, інтэлігента на выкананне і перавыкананне плана трэцяй сталінскай пяцігодкі.

Рашэнні XVIII з'езда ВКП(б),—пуцяводная зорка, ідэйны сцяг і ў той-жа час практычная праграма далейшай барацьбы за комунізм. Совецкі народ увасобіць яе ў жыццё, і велічны будынак соцыялізма яшчэ больш умацуецца.

Пад кіраўніцтвам сталінскага Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), на чале з вялікім кормчым соцыялізма, геніем чалавецтва—мудрым Сталіным, наша вялікая партыя большэвікоў, наш вялікі гераічны народ, наша магутнейшая краіна пераможна ідзе ленінска-сталінскім шляхам да заветнай мэты—комунізма.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна народы нашай краіны ў барацьбе з ворагамі заваявалі соцыялізм, пад сцягам партыі Леніна—Сталіна яны пабудуюць комунізм.

Д. Мануільскі

# Сталін і сусветны комуністычны рух

## (Да дваццацігоддзя Комінтэрна)

XVIII з'езд ВКП(б) мае буйнейшае палітычнае значэнне не толькі для працоўных нашай краіны, але і для ўсяго міжнароднага пролетарыята і працоўных капіталістычных краін. Кожнае выступленне таварыша Сталіна—гэта падзея гістарычнага значэння. Захапляючы глыбінёй марксісцкага аналіза, сілай несакрушальнай логікі і мэтаімкнёнасці, яснасцю палітычнай перспектывы, даклад таварыша Сталіна на XVIII з'ездзе партыі знямянуе сабой новую паласу развіцця СССР—паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. Мільёны людзей працы на зямным шары аддаюць сабе адчот у тым, што значыць для далейшых лёсаў чалавецтва вырашэнне такой грандыёзнай задачы. А большэвікі, наперакор усім падкопам ворагаў, гэту задачу пад геніяльным кіраўніцтвам таварыша Сталіна рашаюць паспяхова і вырашаць абавязкова.

Па-новаму паставіў таварыш Сталін на XVIII з'ездзе партыі пытанне аб соцыялістычнай дзяржаве, аб дзяржаве пры комунізме ва ўмовах капіталістычнага акружэння, рушыўшы ўперад па недаследаваных шляхах тэорыю і тактыку соцыялістычнай рэволюцыі. Гэты сталінскі ўклад у марксісцка-ленінскае вучэнне аб дзяржаве, дае асноўны напрамак рабоце па перагляду старой і выпрацоўцы новай праграмы ВКП(б) і паслужыць крыніцай уздыму тэарэтычнай марксісцка-ленінскай мыслі ва ўсім свеце. Даклад таварыша Сталіна будзе мець велізарнае значэнне ў праграмных і тактычных пытаннях усяго сусветнага рабочага руху, усяго навуковага соцыялізма.

Па-новаму паставіў таварыш Сталін пытанне аб ролі соцыялістычнай інтэлігенцыі, даўшы комуністам капіталістычных краін магутную ідэалагічную зброю для падрыву ўплыву буржуазіі на інтэлігенцыю. Даклад таварыша Сталіна дае рабочаму класу і працоўным усяго свету кіруючую ніць для разумення цяперашняй крайне напружанай міжнароднай абстаноўкі, для разумення таго, куды вядзе справу сусветная рэакцыя і якімі сродкамі і шляхамі працоўныя капіталістычных краін могуць сарваць яе зладзейскія планы і паскорыць справу свайго вызвалення.

У вучэнні Леніна—Сталіна комуністы заўсёды шукалі адказу на пякучыя пытанні іх барацьбы. Гэта вялікае вучэнне было іх пуцяводнаю зоркай пры самых складаных і цяжкіх абставінах. І зараз у дакладзе таварыша Сталіна армія комуністаў усіх краін знаходзіць адказ на хвалюючыя іх пытанні. Даклад таварыша Сталіна ўзбройвае кому-



ністаў прадбачаннем падзей, робіць іх гатовымі да ўсякіх нечаканасцей, да магчымых крутых паваротаў класавай барацьбы.

Гістарычны XVIII з'езд ВКП(б) супаў з дваццацігоддзем Комуністычнага Інтэрнацыянала. Комуністы ўсіх краін выкарыстаюць гэту гадавіну для таго, каб праглядзець—у святле вучэння Леніна—Сталіна—шлях, пройдзены за гэтыя 20 год сусветным комуністычным рухам, усямерна ўзняць тэарэтычны ўзровень компартый, яшчэ больш адтачыць сваю ідэйна-палітычную зброю для надыходзячых боек.

* * *

Комуністычны Інтэрнацыянал з'яўляецца наследнікам і прадаўжальнікам справы I Інтэрнацыянала, **Інтэрнацыянала Маркса—Энгельса.**

I Інтэрнацыянал узнік на глебе марксізма эпохі даманапалістычнага капіталізма, на глебе рабочага руху ў перыяд, калі барацьба за соцыялістычную рэволюцыю, а тым больш за пабудову соцыялізма, не стаяла і не магла стаяць перад рабочым класам, як непасрэдная практычная задача.

III Комуністычны Інтэрнацыянал—гэта **Інтэрнацыянал Леніна—Сталіна.**

Паміж Марксам і Энгельсам, з аднаго боку, і Леніным і Сталіным—з другога, ляжыць цэлая паласа панавання апартунізма, раз'ядаўшага рады II Інтэрнацыянала. Ленінска-Сталінскі Комуністычны Інтэрнацыянал вырас са шматгадовай прынцыповай барацьбы, якую вялі Ленін і Сталін на чале большэвікоў супроць апартуністычнага скажэння і фальсіфікацыі марксізма лідэрамі II Інтэрнацыянала, супроць здрадніцтва яго партый у час сусветнай імперыялістычнай вайны.

Комінтэрн нарадзіўся ў агні барацьбы пролетарскага авангарда супроць імперыялістычнай вайны 1914—1918 гг., у навальніцах Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і грамадзянскай вайны, на хвалі пасляваеннага рэволюцыйнага ўздыму і рэволюцый у радзе еўрапейскіх краін. Комінтэрн узнік на аснове вучэння Леніна—Сталіна, дапаўняючага, развіваючага марксізм у адпаведнасці з новымі ўмовамі класавай барацьбы пролетарыята,—вучэння, якое знайшло матэрыяльнае ўвасабленне ў замацаванай вялікай Сталінскай Канстытуцыяй **перамозе соцыялізма,** у растучай магутнасці першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы.

Комінтэрн узнік і развіваўся на глебе ленінскай тэорыі імперыялізма, ленінска-сталінскай тэорыі і тактыкі пролетарскай рэволюцыі, дыктатуры пролетарыята і совецкай улады, як яе формы. Комінтэрн рос на аснове ленінска-сталінскага вучэння аб рухаючых сілах рэволюцыі, аб саюзніках пролетарыята, аб ролі і значэнні для соцыялістычнай рэволюцыі вызваленчай барацьбы прыгнечаных нацый і зняволеных імперыялізмам каланіяльных народаў.

Вучэнне Леніна—Сталіна—адзінае цэльнае вучэнне. Яго нельга расшчапляць па кавалачках: адна частка вучэння—для пролетарыята капіталістычных краін, другая—для рабочага класа совецкай краіны. Наша барацьба за соцыялізм ёсць састаўная частка агульнай барацьбы працоўных усяго свету за іх вызваленне ад ярма капіталістычнай эксплаатацыі, а барацьба працоўных капіталістычных краін, прыгнечаных народаў калоній ёсць неад'емная частка нашай барацьбы за пабудову комуністычнага грамадства. Вучэнне марксізма-ленінізма, развітае і дапоўненае таварышом Сталіным у ходзе вялікіх бітваў рабочага класа і працоўных СССР за соцыялізм, ёсць набытак усяго су-

светнага рабочага класа, усяго сусветнага комунізма. «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)»—гэта класічны ўзор творчага марксізма, які ўзбагачае і паглыбляе вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна ў святле пабудовы соцыялізма ў СССР.

Зыходзячы з вучэння Леніна аб няроўнамернасці развіцця капіталізма ў імперыялістычную эпоху і з ленінскага палажэння аб немагчымасці адначасовай перамогі соцыялізма ва ўсіх краінах, аб магчымасці яго перамогі ў адной краіне, таварыш Сталін распрацаваў стройную тэорыю пабудовы соцыялізма ў асобна ўзятай краіне—тэорыю, кожнае звяно якой з'яўляецца каштоўнейшым укладам у скарбніцу марксізма-ленінізма. Непасрэдна выцякаючае з ленінскага кааператыўнага плана сталінскае вучэнне аб шляхах і спосабах пераходу мільёнаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак на рэйкі соцыялізма забяспечыла вырашэнне асноўнай праблемы пабудовы соцыялізма, над якой дзесяцігоддзямі ламалі галаву марксісты ўсіх краін.

Бліскучая дыялектычная пастаноўка таварышом Сталіным пытання аб нэпе, яго вучэнне аб шляхах ліквідацыі класаў, тэарэтычнае асвятленне таварышом Сталіным асноўных пытанняў соцыялістычнай эканомікі, як, напрыклад, соцыялістычнай індустрыялізацыі, роля грошай і совецкага гандлю пры соцыялізме, аблягчае міжнароднаму пралетарыяту барацьбу за соцыялістычную рэволюцыю. Сталінская тэорыя развіцця пролетарскай дыктатуры ва ўсенародную соцыялістычную дэмакратыю, на аснове ўсямернага ўмацавання совецкай дзяржавы, паказвае адзіна правільны шлях да вызвалення ўсяго працоўнага чалавецтва—шлях соцыялістычнай рэволюцыі.

Вось той гранітны тэарэтычны фундамент, на якім рос, мацнеў і развіваўся Комуністычны Інтэрнацыянал.

* * *

Першыя годы Комінтэрна—гэта перыяд рэволюцыйнага крызіса і націску мас на капіталізм. У гэтыя годы Комінтэрнам непасрэдна кіруе Ленін. Ён вядзе непрымірымую барацьбу супроць соцыял-дэмакратыі, у прыватнасці супроць цэнтрыстаў—Каўцкага і Отто Бауэра, стараўшыхся пад выглядам абароны буржуазнай дэмакратыі перагарадзіць дарогу пролетарскай рэволюцыі, дапамагчы буржуазіі выкарабкацца з таго тупіка, куды яе загналі імперыялістычная вайна і супярэчнасці капіталізма, якія незвычайна абвастрыліся ў выніку вайны. Яшчэ не паспеўшаму арганізацыйна і палітычна ўзмацнець, маладому комуністычнаму руху пагражала смяротная небяспека быць захлёснутым соцыял-дэмакратычнай стыхіяй. Супроць гэтай небяспекі Ленін высоўвае свае знамянітыя 21 умову прыёму ў Комінтэрн, дапамагаючы маладым компартыям адстаяць чыстату сваіх радоў ад напłыву чуждых комунізму элементаў.

У той-жа час у маладым комуністычным руху сталі праяўляцца ўсякія анархісцкія, дробнабуржуазныя хістанні. Гэтыя хістанні былі асабліва небяспечны тым, што яны пагражалі ізаляваць комуністаў ад мас якраз у момант, калі трэба было весці масы на штурм капіталізма. Ленін сваёй бязлітаснай крытыкай не пакідае каменя на камені ад гэтага ультралевага рэбячаства. Ён дае ў рукі комуністаў усіх краін выдатную зброю: класічную кнігу большэвіцкай тактыкі—«Дзіцячая хвароба «левізны» у комунізме»,—якая прадстаўляе разам з паследуючымі работамі таварыша Сталіна асноўны тактычны капітал комуністычнага руху.

Вялікая рэволюцыйная хваля 1918—1923 гг. у Еўропе была адбіта правячымі класамі. Буржуазіі ўдалося пры падтрымцы соцыял-дэмакратыі адкупіцца ад рэволюцыйнага штурму мас частковымі рэформамі. Буржуазіі ўдалося гэта таму, што компартыі былі яшчэ надта слабы, каб павесці рабочы клас і працоўных на пераможнае звяржэнне капіталізма. У гэты час не стала Леніна. ВКП(б) і Комуністычны Інтэрнацыянал страцілі Леніна ў перыяд складаны і цяжкі і для совецкай краіны, разбуранай імперыялістычнай і грамадзянскай вайной і інтэрвенцыяй, і для рабіўшага першыя крокі комуністычнага руху капіталістычных краін.

Іменна ў той перыяд злачынейская банда шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў пад маскай унутрыпартыйнай апазіцыі пачынае шалёную атаку на сталінскае кіраўніцтва ВКП(б), на ленінска-сталінскую тэорыю пабудовы соцыялізма ў асобнай краіне, стараючыся сарваць справу соцыялістычнага будаўніцтва. Унутры Комінтэрна гэта банда павяла падрыўную работу, кавала змову за змовай. Шлях суровай і ўпартай барацьбы прайшоў Комінтэрн у тыя годы—шлях барацьбы супроць ворагаў, прабаваўшых узарваць яго звонку і знутры, рабіўшых усё для таго, каб ізаляваць комуністычны рух ад шырокіх мас капіталістычных краін, перашкодзіць яго большэвізацыі, збіць яго з ленінска-сталінскай дарогі, дэзарганізаваць, разлажыць, загубіць яго. Усе гэтыя троцкія, зіноўевы, бухарыны, заклятыя ворагі працоўных, прэзрэнныя халопы фашысцкіх катаў, агідныя здраднікі справе соцыялізма, накіроўваючы свае здрадніцкія ўдары супроць партыі Леніна—Сталіна, ставілі стаўку на раскол у радах сусветнага комуністычнага руху, на процістаўленне секцый Комінтэрна ў капіталістычных краінах Усесаюзнай Комуністычнай партыі, яны ставілі стаўку на развязванне ўнутры гэтых секцый паліцэйскай «фракцыйнай» барацьбы, на развал рэволюцыйнага большэвіцкага авангарда.

Калі наперакор усім падкопам ворагаў, Комінтэрн не збіўся з правільнай большэвіцкай дарогі, то перш за ўсё таму, што таварыш Сталін і пад яго кіраўніцтвам ВКП(б) выкрылі да канца, вывелі на чыстую ваду ўсіх гэтых шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў, разбілі іх нагалаву, расчысцілі шлях для будаўніцтва і перамогі соцыялізма, для яго далейшага магутнага росту і тым самым умацавалі пазіцыі міжнароднага рабочага класа і сусветнага комуністычнага руху. Калі секцыі Комінтэрна не збіліся на крутых паваротах з правільнага большэвіцкага шляху, то перш за ўсё таму, што пасля смерці Леніна яны знаходзілі ў таварыша Сталіна—у яго дакладах, артыкулах, выступленнях—непраўзыйдзены па сіле аналіз становішча, правільную ацэнку суадносін класавых сіл, яснасць перспектывы, пацвярджаемай усім далейшым ходам падзей. Секцыі Комінтэрна моцна трымалі сцяг комунізма таму, што комуністы вучыліся ў сваіх вялікіх правадыроў—Леніна і Сталіна, як трэба будаваць, ачышчаць ад скверны, цэментаваць сапраўдную большэвіцкую партыю, мацаваць яе сувязі з масамі.

Барацьба за пераатварэнне Комінтэрна ў сапраўды сусветную маналітную партыю комунізма, здольную на справе кіраваць усімі формамі барацьбы пролетарыята і працоўных, праходзіць чырвонай ніццю праз усю дваццацігадовую гісторыю Комінтэрна. Маналітны Комуністычны Інтэрнацыянал—гэта замацаваная ў арганізацыйнай форме ідэя інтэрнацыянальнай пролетарскай салідарнасці, на якой таварыш Сталін нястомна выхоўвае ўсіх працоўных. Але такі маналітны Інтэрнацыянал мяркуе адзінства тэарэтычных асноў, адзінства вучэння, на якім ён базіруецца, адзінства арганізацыйных прынцыпаў, на якіх

пабудаваны яго секцыі, адзінства тактычных прынцыпаў, адзінства ўсяго комуністычнага руху. Такі Інтэрнацыянал мяркуе адзіную, абавязковую для ўсіх дысцыпліну. Такі Інтэрнацыянал не можа быць абасобленай сектай,—ён павінен быць звязан з масамі рабочага класа. Аб'ядноўваючы найшырэйшыя слаі рабочых, ён павінен прыцягнуць на бок пралетарыята і іншыя слаі працоўных. Такі Інтэрнацыянал не можа быць Інтэрнацыяналам толькі «цывілізаваных» краін. Гэта Інтэрнацыянал усіх краін, усіх рас, усіх кантынгентаў. Гэта на справе **сусветны Інтэрнацыянал.**

Што трэба было рабіць у годы адліву рэволюцыйнай хвалі, каб дабіцца такой маналітнасці Комуністычнага Інтэрнацыянала? У 1924—1925 гг. таварыш Сталін дае адказ на гэта пытанне. Ён па-ленінску паказвае комуністам, «што рабіць»: трэба перш за ўсё не пакладаючы рук працаваць над тым, каб **унядрыцца ў масы.** Але як унядрыцца ў масы? Таварыш Сталін дае адказ і на гэта пытанне. Ён паказвае не толькі, што рабіць, але і як рабіць. Ён паказвае, што ў сучасных капіталістычных краінах асноўная дарога ў масы ляжыць **цераз прof-саюзы.** Таму задача, якая стаіць у першую чаргу перад комуністамі, гаворыць таварыш Сталін,

> «... заключаецца ў тым, каб самкнуць комуністычныя партыі Захада з профсаюзамі. Гэта задача заключаецца ў тым, каб развіць і давесці да канца кампанію аб адзінстве профруху, абавязкова і безумоўна ўвайсці ўсім комуністам у профсаюзы, павесці там сістэматычную работу па аб'яднанню рабочых у адзіны фронт супроць капітала і стварыць, такім чынам, умовы, якія даюць магчымасць комуністычным партыям аперціся на профсаюзы». (Зборнік «Ленін і Сталін», том III, стар. 11).

З глыбокім разуменнем асаблівасцей рабочага руху Захада таварыш Сталін цярпліва растлумачвае комуністам, чаму іменна ў сучасных капіталістычных краінах работа комуністаў у профсаюзах набывае такое важнае значэнне. У нямногіх словах ён дае **галоўнае і асноўнае,** што адзначае развіццё рабочага руху Захада ад рабочага руху нашай краіны. Таварыш Сталін падкрэслівае, што профсаюзы ў Расіі склаліся пасля партыі і вакол партыі рабочага класа, кіраваўшай не толькі палітычнай, але і эканамічнай барацьбой рабочых.

> «Зусім у іншай абстаноўцы развіваліся профсаюзы на захадзе Еўропы. Па-першае, яны ўзніклі і ўзмацнелі там задоўга да паяўлення партыі рабочага класа. Па-другое, не профсаюзы развіліся там вакол партыі рабочага класа, а, наадварот, самі партыі рабочага класа вышлі з профсаюзаў. Па-трэцяе, паколькі эканамічная галіна барацьбы, самая блізкая для рабочага класа, ужо была, так сказаць, заваёвана профсаюзамі, то партыям прышлося заняцца, галоўным чынам, парламенцкай палітычнай барацьбой, што не магло не адбіцца на характары іх работы і ўдзельнай іх вазе ў вачах рабочага класа. І іменна таму, што партыі ўзніклі там пасля профсаюзаў, іменна таму, што профсаюзы нарадзіліся задоўга да партый, і яны ўласна і складалі асноўныя крэпасці пралетарыята ў яго барацьбе з капіталам,—іменна таму партыі, як самастойныя сілы, якія не апіраліся на профсаюзы, аказаліся адсунутымі на задні план.
>
> Але з гэтага следуе, што калі комуністычныя партыі хочуць стаць сапраўды масавай сілай, здольнай рушыць уперад рэволюцыю, яны павінны самкнуцца з профсаюзамі і аперціся на іх.

Не ўлічваць гэтай асаблівасці становішча на Захадзе—гэта значыць напэўна пагубіць справу комуністычнага руху». (Зборнік «Ленін і Сталін», т. III, стар. 12).

Усё развіццё сусветнага комуністычнага руху за дваццаць год паказала, наколькі быў праў таварыш Сталін. Там, дзе комуністы ператварылі ў жыццё гэтыя мудрыя мыслі, там, дзе яны, закасаўшы рукавы, па-большэвіцку ўзяліся за ажыццяўленне гэтай задачы, там компартыі вышлі на шырокую дарогу масавага руху, заваявалі ўплыў не толькі сярод рабочага класа, але і сярод іншых слаёў працоўных і тым самым сталі сур'ёзным палітычным фактарам у жыцці сваёй краіны і свайго народа. Але для таго, каб комуністы маглі заваяваць уплыў у профсаюзах, глыбока ўнядрыцца ў масы, кіраваць іх штодзённай барацьбой, нястомна рыхтаваць масы да рашаючых баёў, компартыі павінны перабудаваць перш за ўсё самых сябе на рэволюцыйны лад, старанна ачысціцца ад соцыял-дэмакратычнай спадчыны мінулага, **яны павінны стаць сапраўднымі большэвіцкімі партыямі.** Без ажыццяўлення гэтай задачы—дарэмна гаварыць аб рэволюцыі. І таварыш Сталін з уласцівай яму праматой ставіць ва ўпор гэту задачу перад комуністамі капіталістычных краін. Абвяргаючы механічнае капіраванне компартыямі капіталістычных краін тактыкі, метадаў, форм работы ВКП(б), компартыі краіны перамогшага пролетарыята, таварыш Сталін задачу большэвізацыі выводзіць зноў-такі з асобых умоў развіцця компартый Захада:

«Компартыі на Захадзе,—растлумачвае ён,—развіваюцца ў своеасаблівых умовах. Па-першае, яны неаднародны па саставу, бо яны ўтварыліся з былых соцыял-дэмакратаў, якія прайшлі старую школу, і з маладых членаў партыі, якія не маюць яшчэ дастатковай рэволюцыйнай загартаванасці. Па-другое, кадры там не чыста большэвіцкія, бо на адказных пастах стаяць выхадцы з іншых партый, не паспеўшыя яшчэ парваць канчаткова з соцыял-дэмакратычнымі перажыткамі. Па-трэцяе, яны маюць перад сабой такога вопытнага праціўніка, як прайшоўшая агонь і медныя трубы соцыял-дэмакратыя, усё яшчэ прадстаўляючая велізарную палітычную сілу ў радах рабочага класа. Нарэшце, яны маюць супроць сябе такога магутнага ворага, як еўрапейская буржуазія з яе выпрабаваным дзяржаўным апаратам, з яе усесільнай прэсай. Думаць, што такія компартыі здольны апракінуць «з сёння на заўтра» еўрапейскі буржуазны лад,—значыць жорстка заблуджацца. Таму чарговая задача заключаецца ў тым, каб зрабіць компартыі Захада сапраўды большэвіцкімі, выкаваць у іх сапраўдныя рэволюцыйныя кадры, здольныя перабудаваць усю партыйную практыку ў духу рэволюцыйнага выхавання мас, у духу падрыхтоўкі рэволюцыі». (І. Сталін, «Да міжнароднага становішча». Журнал «Большевик», № 11, 1924 г., стар 15).

І гэта цвярозая ацэнка, даная таварышом Сталіным становішчу сусветнага комуністычнага руху, ацэнка, аснаваная на правільным учоце сіл рабочага класа і сіл буржуазіі, на ўчоце гістарычных тэмпаў фарміравання компартый, дала комуністам тое асноўнае звяно, ухапіўшыся за якое яны маглі выцягнуць увесь ланцуг задач, якія стаяць перад імі. І тысячы рук узяліся моцна за гэту важнейшую справу. Але не драмаў і класавы вораг. Яго агентура, якая прабралася ў рады комуністычнага руху, накіроўвала ўсе намаганні да таго, каб сарваць ажыццяўленне гэтай задачы.

Яны выступалі адкрыта супроць большэвізацыі компартый—цягнулі іх назад, да социял-дэмакратыі, другія—пад выглядам большэвізацыі—стараліся штурхаць партыі на шлях авантурызма, навязаць ім метады камандавання, падхлёствання руху мас—метады, чуждыя большэвізму, запазычаныя ў класавага ворага, адштурхоўваючыя рабочых ад компартыі. Таварыш Сталін ускрывае гнусныя замыслы ворагаў. Ён дапамог комуністам пазбегнуць памылак пры правядзенні большэвізацыі компартый. Ён паказвае, у чым заключаецца сутнасць большэвізацыі, яе галоўны палітычны змест, дае сусветнаму комуністычнаму руху свае 12 умоў большэвізацыі—дакумент выключнай сілы, яснасці, пераканання, які назаўсёды застанецца лепшай зброяй у ідэйна-палітычным арсенале Комінтэрна:

> «Каб правесці большэвізацыю,—вучыць нас таварыш Сталін,—неабходна дабіцца, па крайняй меры, некаторых асноўных умоў, без якіх немагчыма наогул большэвізацыя компартый.
>
> 1) Неабходна, каб партыя разглядала сябе не як прыдатак парламенцкага выбарчага механізма, як па сутнасці справы сябе разглядае соцыял-дэмакратыя, і не як бясплатны прыдатак прафесіянальных саюзаў, як аб гэтым цвярдзяць часам некаторыя анарха-сіндыкалісцкія элементы,—а як **вышэйшую** форму класавага аб'яднання пролетарыята, закліканую **кіраваць** усімі астатнімі формамі пролетарскіх арганізацый, ад профсаюзаў да парламенцкай фракцыі.
>
> 2) Неабходна, каб партыя, асабліва яе кіруючыя элементы, поўнасцю авалодалі рэволюцыйнай тэорыяй марксізма, неразрыўна звязанай з рэволюцыйнай практыкай.
>
> 3) Неабходна, каб партыя выпрацоўвала лозунгі і дырэктывы не на аснове завучаных формул і гістарычных паралелей, а ў выніку стараннага аналіза канкрэтных умоў рэволюцыйнага руху, унутраных і міжнародных, пры абавязковым учоце вопыту рэволюцый усіх краін.
>
> 4) Неабходна, каб партыя правярала правільнасць гэтых лозунгаў і дырэктыў у агні рэволюцыйнай барацьбы мас.
>
> 5) Неабходна, каб уся работа партыі, асабліва калі соцыялдэмакратычныя традыцыі яшчэ не зжыты ў ёй, была перабудавана на новы, рэволюцыйны лад, разлічаны на тое, каб кожны крок партыі і кожнае яе выступленне натуральна вялі да рэволюцыянізавання мас, да падрыхтоўкі і выхавання шырокіх мас рабочага класа ў духу рэволюцыі.
>
> 6) Неабходна, каб партыя ў сваёй рабоце ўмела спалучаць вышэйшую прынцыповасць (не змешваць з сектанцтвам!) з максімумам сувязей і кантакта з масамі (не змешваць з хвасцізмам!), без чаго немагчыма для партыі не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў іх, не толькі весці масы і ўзнімаць іх да ўзроўню партыі, але і прыслухоўвацца да голасу мас і ўгадваць іх набалеўшыя патрэбы.
>
> 7) Неабходна, каб партыя ўмела спалучаць у сваёй рабоце непрымірымую рэволюцыйнасць (не змешваць з рэволюцыйным авантурызмам!) з максімумам гібкасці і манеўраздольнасці (не змешваць з прыспасабленцтвам!), без чаго немагчыма для партыі авалодаць усімі формамі барацьбы і арганізацыі, звязаць штодзённыя інтарэсы пролетарыята з карэннымі інтарэсамі про-

летарскай рэволюцыі і спалучаць у сваёй рабоце легальную барацьбу з барацьбой нелегальнай.

8) Неабходна, каб партыя не скрывала сваіх памылак, каб яна не баялася крытыкі, каб яна ўмела паляпшаць і выхоўваць свае кадры на сваіх уласных памылках.

9) Неабходна, каб партыя ўмела адбіраць у асноўную кіруючую групу лепшыя элементы перадавых байцоў, дастаткова адданыя для таго, каб быць сапраўднымі выразнікамі імкненняў рэволюцыйнага пролетарыята, і дастаткова вопытныя для таго, каб стаць сапраўднымі правадырамі пролетарскай рэволюцыі, здольнымі прымяняць тактыку і стратэгію ленінізма.

10) Неабходна, каб партыя сістэматычна паляпшала соцыяльны склад сваіх арганізацый і ачышчала сябе ад разлагаючых апартуністычных элементаў, маючы на ўвазе, як мэту, дасягненне максімальнай маналітнасці.

11) Неабходна, каб партыя выпрацавала жалезную пролетарскую дысцыпліну, вырасшую на аснове ідэйнай спаянасці, яснасці мэт руху, адзінства практычных дзеянняў і свядомых адносін да задач партыі, з боку шырокіх партыйных мас.

12) Неабходна, каб партыя сістэматычна правярала выкананне сваіх уласных рашэнняў і дырэктыў, без чаго гэтыя апошнія рыскуюць ператварыцца ў пустыя абяцанкі, здольныя толькі падарваць да яе давер'е шырокіх пролетарскіх мас.

Без гэтых і падобных ім умоў большэвізацыя ёсць гук пусты». («Правда» ад 3/II 1925 г.—«Таварыш Сталін аб перспектывах ГКП і аб большэвізацыі»).

Кожнае палажэнне гэтага дакумента—гэта найглыбейшая мысль, якая кідае сноп святла і на цяперашнія задачы секцый Комінтэрна.

Гэты дакумент вывучалі, вывучаюць і будуць вывучаць і прадумваць комуністы ўсіх краін. У ім яны чэрпаюць і будуць чэрпаць магутны стымул да работы творчай комуністычнай мыслі над самымі вострымі пытаннямі нашага руху.

Што значыла на справе прымяніць установкі таварыша Сталіна аб большэвізацыі? Па-першае, гэта значыла своечасова ўскрыць і выкрыць апартуністычныя ўхілы ў комуністычным руху, не даць ім разрасціся ў раз'ядаючую язву. Гэта значыла выхаваць і загартаваць на барацьбе з ухіламі партыйныя кадры, узняць і завастрыць большэвіцкую пільнасць компартый. Неацанімую дапамогу аказвае таварыш Сталін комуністам усіх краін сваімі выступленнямі ў камісіях па кітайскаму, нямецкаму, польскаму, югаслаўскаму пытаннях, дзе ён з неўмалімай логікай ускрывае карэнні ўсякай палітычнай памылкі, паказвае, куды вядзе яна, клапатліва вучыць маладыя комуністычныя кадры правільнай стратэгіі і тактыцы большэвізма. Па-другое, прымяненне на справе ўстановак таварыша Сталіна аб большэвізацыі меркавала ліквідацыю беспрынцыпнай фракцыйнай барацьбы, раздзіраўшай рад секцый Комуністычнага Інтэрнацыянала. Таварыш Сталін з усёй рэзкасцю выступае супроць гэтай беспрынцыпнай фракцыйнай барацьбы, якая з'яўлялася буйнай перашкодай ва ўтварэнні маналітных секцый Комінтэрна, вучыць комуністаў высокай партыйнай прынцыповасці, вучыць іх ставіць інтарэсы партыі, інтарэсы справы рабочага класа найвышэй за ўсё.

Таварыш Сталін растлумачвае, што, калі большэвікі і меншавікі знаходзіліся яшчэ **ў адной агульнай партыі**, арганізацыя большэвікоў

ва фракцыю—у той час—была законна і неабходна ў інтарэсах барацьбы з апартунізмам, у інтарэсах поўнага разрыву з ім і стварэння сваёй уласнай комуністычнай партыі. Але пасля таго, як ужо створаны компартыі, утвораны секцыі Комуністычнага Інтэрнацыянала, фракцыйнасць недапушчальна, злачынна і шкодна.

«У чым заключаецца шкоднасць фракцыйнасці ў **радах компартый?**—гаворыць таварыш Сталін.—**Перш за ўсё** ў тым, што фракцыйнасць аслабляе пачуцце партыйнасці, прытупляе рэвалюцыйнае чуццё і асляпляе дзеячоў партыі да таго, што яны вымушаны ў сваім фракцыйным захапленні ставіць інтарэсы фракцыі вышэй інтарэсаў партыі, вышэй інтарэсаў Комінтэрна, вышэй інтарэсаў рабочага класа...

**Па-другое,** у тым, што фракцыйнасць перашкаджае выхоўваць партыю ў духу прынцыповай палітыкі, яна перашкаджае выхоўваць кадры ў духу чэснай, пролетарскай, непадкупнай рэволюцыйнасці, свабоднай ад гнілой дыпламатыі і беспрынцыпнага камбінатарства...

**Па-трэцяе,** у тым, што фракцыйнасць, аслабляючы волю партыі да адзінства і падрываючы железную дысцыпліну партыі, стварае ў партыі такі спецыфічны фракцыйны рэжым, пры якім усё ўнутранае жыццё ў партыі аказваецца дэканспірыраваным перад тварам класавых ворагаў, а сама партыя становіцца перад небяспекай быць ператворанай у цацку ў руках агентаў буржуазіі...». (І. Сталін. «Аб правых фракцыянерах у амерыканскай компартыі», Дзяржвыдат, 1930 г., стр. 27—30).

Дастаткова ўчытацца сёння ў гэтыя спакойныя і мудрыя словы, каб бачыць, колькі тут сталінскага ўмення дакапацца да сутнасці справы, убачыць тое, што ўскальзае ад нашага вока, колькі тут празарлівасці, пацверджанай потым, праз рад год, фактамі і падзеямі. З асаблівай настойлівасцю таварыш Сталін перасцерагае комуністаў, каб у пылу фракцыйнай распры яны не сталі цацкай у руках агентаў класавага ворага. І калі-б комуністы тады прадумалі гэтыя словы да канца, вынеслі з іх усе неабходныя ўрокі, можна было-б своечасова вывесці на чыстую ваду не аднаго дыверсанта, шпіёна і правакатара, якія стараліся штучным насаджэннем фракцыйнай барацьбы разлажыць міжнародны комуністычны рух.

* * *

У годы частковай капіталістычнай стабілізацыі лідэры II Інтэрнацыянала, маючы на ўвазе фашысцкі паход супроць марксізма, разгортваюць цынічную антымарксісцкую кампанію. На чале гэтай кампаніі стаяць лідэры германскай соцыял-дэмакратыі.

У 1928—1929 гг. подлыя рэстаўратары капіталізма ўзнялі галаву і ў СССР: яны патрабавалі «расшырэння» нэпа, здачы камандных вышынь савецкай эканомікі замежнаму капіталу, яны патрабавалі свабоды дзеяння спекулянтаў у горадзе, кулакоў у вёсцы. Яны пераклікаліся з Гільфердынгамі—апалагетамі «арганізаванага капіталізма», якія даказвалі, што капіталізм перастае быць анархічным, што ён у далейшым будзе развівацца без крызісаў, без войн, без класавай барацьбы, гарманічным шляхам. Амерыканская легенда «аб вечным працвітанні» жывіла тады ўсякага роду контррэволюцыйныя тэорыйкі аб працяглым характары капіталістычнай стабілізацыі. Але разлікі

ворагаў правaліліся. Вялікая Совецкая краіна ішла слаўнай сталінскай дарогай. ВКП(б) пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна разгортвала магутнае соцыялістычнае наступленне на капіталістычныя элементы, змятаючы з дарогі поўзаючую на бруху перад замежным капіталам агентуру класавага ворага.

У сваіх выступленнях таварыш Сталін падкрэслівае гнілы, хісткі, частковы і адносны характар капіталістычнай стабілізацыі. На XV з'ездзе ВКП(б) у 1927 г., гэта значыць за два годы да таго, як разразіўся самы жорсткі ў гісторыі сусветны эканамічны крызіс, у момант, калі ўсе «свяцілы» буржуазнай эканамічнай навуківаспявалі наступленне новай «бяскрызіснай эры» капіталізма, таварыш Сталін майстэрскі ўскрывае супярэчнасці капіталістычнай стабілізацыі, гаворыць аб немінучасці насоўваючагася самага глыбокага і самага вострага крызіса сусветнага капіталізма:

> «...З самой стабілізацыі, з таго, што вытворчасць расце, з таго, што гандаль расце, з таго, што тэхнічны прагрэс і вытворчыя магчымасці ўзрастаюць, у той час як сусветны рынак, межы гэтага рынку і сферы ўплыву паасобных імперыялістычных груп застаюцца больш ці менш стабільнымі,—іменна з гэтага вырастае самы глыбокі і самы востры крызіс сусветнага капіталізма, чрэваты новымі войнамі і пагражаючы існаванню якой-бы то ні было стабілізацыі.
>
> З частковай стабілізацыі вырастае ўзмацненне крызіса капіталізма, нарастаючы крызіс развальвае стабілізацыю—такава дыялектыка развіцця капіталізма ў даны гістарычны момант». (І. Сталін. Палітычная справаздача Цэнтральнага Камітэта XV з'езду ВКП(б).

На такіх прагнозах, якія з'яўляюцца бліскучымі ўзорамі прымянення марксісцкай дыялектыкі, вучыліся, вучацца і будуць вучыцца комуністы вялікаму сталінскаму майстэрству прадбачання падзей. Гэтыя ўстаноўкі таварыш Сталін развіў у праграмнай камісіі VI Кангрэса Комінтэрна, даўшы сакрушальны адпор прэзрэнным спробам ворагаў працягнуць кантрабандным шляхам у праграму Комінтэрна тэорыю «арганізаванага капіталізма».

Гэтыя ўстаноўкі таварыша Сталіна былі пуцяводнай ніццю, якая дапамагла комуністам усіх краін нашчупаць правільныя тактычныя рашэнні ў складаных умовах класавай барацьбы.

Глыбокі зацяжны эканамічны крызіс 1929—1933 гг., які разгарнуўся на фоне агульнага крызіса капіталізма і ў сваю чаргу надзвычай паглыбіў і абвастрыў яго, патрос да аснавання ўсю капіталістычную сістэму. Крызіс прынёс мільёнам працоўных капіталістычных краін беспрацоўе, разарэнне, галечу, узняў вялікую хвалю нездаволенасці мас ва ўсім капіталістычным свеце. Запалоханая гэтым ростам нездаволенасці працоўных, буржуазія пачала шукаць выхад з крызіса ва ўзмацненні эксплаатацыі, рэакцыі, а ў краінах, якія з'яўляюцца найбольш слабымі звеннямі капіталістычнай сістэмы,—ва ўстанаўленні фашысцкай дыктатуры. Буржуазія пачала шукаць выхад у падрыхтоўваемых ёю грабежніцкіх войнах. У 1933 г. фашызм прышоў да ўлады ў Германіі, затым у Аўстрыі і іншых краінах. Сваёй злачыннай палітыкай «меншага зла» рэакцыйныя соцыял-дэмакратычныя правадыры адкрылі фронт фашызму, уносілі смуту і замяшанасць у рады рабочага класа, даказвалі што фашызм—гэта «дыктатура дробнай буржуазіі», што гэта—«новы тып дзяржавы, у якой трэба вучыцца»:

яны бачылі ў фашызме «звышнатуральную сілу», але не бачылі ў ім слабасці буржуазіі. У гэты момант таварыш Сталін дае глыбокае, гранічна дакладнае вызначэнне фашызма як **адкрытай тэрарыстычнай дыктатуры найбольш рэакцыйных, найбольш шавіністычных, найбольш імперыялістычных элементаў фінансавага капітала,** і гэтае вызначэнне лягло ў аснову рашэнняў XIII Пленума ВККІ і VII Кангрэса Комінтэрна. З асобаю сілай таварыш Сталін падкрэслівае, што ўстанаўленне фашысцкай дыктатуры ў Германіі было не толькі вынікам слабасці рабочага класа, але і праяўленнем слабасці буржуазіі, якая аказалася не ў сілах уладарыць старымі метадамі парламентарызма і знайсці выхад са становішча ў мірнай знешняй палітыцы.

Ідэйна ўзброеныя сталінскімі ўстаноўкамі, комуністы бяруцца за арганізацыю адпору фашызму. Наступленне капітала, фашызма, пагроза імперыялістычнай вайны актывізавалі масы, ахопленыя абурэннем супроць капітулянцкай палітыкі германскай і аўстрыйскай соцыял-дэмакратыі. Велізарныя соцыялістычныя перамогі СССР рэвалюцыянізуюць масы, узнімаюць у іх веру ў свае сілы. Сярод працоўных мас расце цяга да адзінства, умацоўваецца іх воля да барацьбы. Яны ўсё больш падхватваюць лозунгі комуністаў аб адзінстве дзеянняў. Ва ўсім свеце ўзнімаецца магутны антыфашысцкі рух, у асаблівасці ва Францыі, у Іспаніі, у ЗША, у радзе іншых краін. VII Кангрэс, выражаючы настрой мас, улічваючы канкрэтны вопыт французскай компартыі ў справе аб'яднання сіл працоўных для барацьбы супроць фашызма, высунуў тактыку адзінага рабочага і народнага фронта.

VII Кангрэс меў вельмі вялікае значэнне ў жыцці сусветнага комуністычнага руху. Яго правільныя большэвіцкія рашэнні дапамаглі компартыям перамагчы сектанцкія перажыткі і прарвацца к масам, узняць антыфашысцкі рух на больш высокую ступень, надаць барацьбе працоўных магутны размах.

На якіх ідэйна-палітычных асновах базіраваў VII Кангрэс тактыку адзінага рабочага фронта? Ён базіраваў гэту тактыку на пазіцыі Леніна, на той барацьбе, якую вёў Ленін у радах Комінтэрна за ўстанаўленне адзінага рабочага фронта. Ён базіраваў яе на вядомым пісьме таварыша Сталіна ад 1922 г. у Выканком Комінтэрна, дзе таварыш Сталін паставіў перад сусветным комуністычным рухам ва ўвесь рост задачу барацьбы за адзіны рабочы фронт. Ён базіраваў яе на тым падыходзе да соцыял-дэмакратычных рабочых, якому вучыў таварыш Сталін комуністаў капіталістычных краін,—на падыходзе ўдумчывым, цярплівым, прасякнутым імкненнем знайсці

> «...агульную мову з братамі, якія заблудзіліся, аказаліся ў лагеры соцыял-дэмакратаў, **дапамагчы** ім выбрацца з нетраў соцыял-дэмакратызма, **палегчыць** ім пераход на бок комунізма». (І. Сталін. Прамова ў Германскай камісіі пленума ВККІ, журнал «Коммунистический Интернационал», № 3, 1926 г., стар. 105).

Дзейнічаючы ў такой гістарычна канкрэтнай абстаноўцы, калі стварылася ў радзе краін магчымасць устанаўлення саюза рабочага класа, сялянства, дробнага гарадскога люду для барацьбы супроць наступлення капітала, фашызма і вайны, VII Кангрэс базіраваў тактыку народнага фронта на асноўных тактычных прынцыпах ленінізма, сфармуляваных таварышом Сталіным:

> «... а) прынцып абавязковага ўліку нацыянальна-асаблівага і нацыянальна-спецыфічнага ў кожнай асобнай краіне пры



выпрацоўцы кіруючых указанняў Комінтэрна для рабочага руху гэтых краін,

б) прынцып абавязковага выкарыстання компартыяй кожнай краіны малейшай магчымасці забяспечыць пролетарыяту масавага саюзніка, хоць-бы і часовага, хісткага, нетрывалага, ненадзейнага,

в) прынцып абавязковага ўліку той ісціны, што для палітычнага выхавання мільённых мас недастаткова адной толькі прапаганды і агітацыі, што для гэтага неабходны ўласны палітычны вопыт саміх мас». (І. Сталін. «Заметкі на сучасныя тэмы». Дзяржвыдат, 1927 г., стар. 19).

Тактыка народнага фронта і была той тактыкай, якая дапамагла і дапамагае пролетарыяту прыцягнуць на свой бок саюзнікаў, якая спрыяла і будзе спрыяць палітычнаму выхаванню мас на іх уласным вопыце.

VII Кангрэс асноўваў тактыку народнага фронта таксама на той ацэнцы ролі і значэння **сярэдніх слаёў,** якую даваў таварыш Сталін. Яшчэ ў 1923 г. таварыш Сталін звярнуў увагу комуністаў на неабходнасць заваявання або па крайняй меры нейтралізацыі сярэдніх слаёў.

«Несумненна,—пісаў ён,—што пытанне аб сярэдніх слаях прадстаўляе адно з асноўных пытанняў рабочай рэволюцыі. Сярэднія слаі, г. зн. сялянства, дробны гарадскі працоўны люд. Сюды-ж трэба аднесці прыгнечаныя нацыянальнасці, якія складаюцца на дзевяць дзесятых з сярэдніх слаёў. Гэта, як бачыце, тыя самыя слаі, якія па свайму эканамічнаму становішчу стаяць паміж пролетарыятам і класам капіталістаў. Удзельная вага гэтых слаёў вызначаецца двума акалічнасцямі: па-першае, гэтыя слаі прадстаўляюць большасць або, ва ўсякім выпадку, значную меншасць насельніцтва існуючых дзяржаў; па-другое, яны з'яўляюцца тымі сур'ёзнымі рэзервамі, сярод якіх клас капіталістаў набірае сваю армію супроць пролетарыята. Пролетарыят не можа ўтрымаць уладу без спачування, падтрымкі сярэдніх слаёў і перш за ўсё сялянства, асабліва ў такой краіне, як наш саюз рэспублік. Пролетарыят не можа нават марыць сур'ёзна аб узяцці ўлады, калі гэтыя слаі па крайняй меры не нейтралізаваны, калі гэтыя слаі не паспелі яшчэ адарвацца ад класа капіталістаў, калі яны ўсё яшчэ складаюць у сваёй масе армію капітала». (І. Сталін. «Аб Кастрычніцкай рэволюцыі». Партвыдат, 1932 г., стар. 49).

Нарэшце VII Кангрэс сваю тактыку нацыянальнага фронта для каланіяльных і залежных краін асноўваў на ўліку нацыянальна-спецыфічных асаблівасцей гэтых краін, асаблівасцей, якія заключаюцца ў тым, што імперыялістычны гнёт у такіх краінах давіць не толькі на працоўных, але і закранае нацыянальную буржуазію, якая на пэўнай стадыі і на пэўны тэрмін можа падтрымаць вызваленчую барацьбу рабочых, сялян і гарадской беднаты.

* *
*

Апошнія годы, у асаблівасці апошнія месяцы, характарызуюцца шалёным наступленнем фашысцкіх дзяржаў, у першую чаргу Германіі, на слабыя народы. Полымя другой імперыялістычнай вайны ахоплі-

вае адну краіну за другой. Гонячы свае ўласныя народы, як жывёлу на ўбой, фашысцкія правіцелі занявольваюць чужыя народы, здзекваюцца над іх свяшчэнным правам самім вызначаць свой лёс, пераўтвараюць раней незалежныя краіны ў суцэльныя турмы і концлагеры. За рухаючыміся фашысцкімі арміямі паўзуць подлыя фашысцка-трацкісцкія шакалы, водзяць носам, вынюхваюць, чуюць пах чалавечага мяса і крыві, паўзуць і выюць. Яны выюць аб тым, што заняволеная Чэхаславакія—такая-ж імперыялістычная дзяржава, як Германія. Яны выюць, што паміж рэспубліканскім урадам Іспаніі і бандытам Франко няма розніцы, што рабочым, моў, усёроўна, хто выйдзе пераможцам у Іспаніі. Яны выюць аб тым, што кітайскаму народу няма чаго супраціўляцца ўтаржэнню японскага драпежніка, бо кітайцаў усёроўна закабаляць іншыя. Ім уторыць усё капітулянцкае атрэб'е, якое выпаўзла з капіталістычных падваротняў, якое прабуе дэмаралізаваць і абяззброіць масы перад тварам наступаючага фашысцкага агрэсара. Многія соцыял-дэмакратычныя лідэры, якія зняславілі сябе ў часе імперыялістычнай вайны 1914—1918 гг. сваім соцыял-шавіністычным здрадніцтвам, прабуюць эксплаатаваць цяпер пазіцыю большэвікоў у вайне 1914—1918 гг., каб даказаць, што паколькі «усе дзяржавы, моў, імперыялістычныя», то рабочы клас цяпер не зацікаўлен у адпоры фашысцкай агрэсіі.

Каб пасеяць смуту ў радах рабочага руху, гэтыя агенты фашызма свядома скажаюць факты. Яны старанна ўмоўчваюць аб тым, што становішча зараз іншае, чым у часе першай сусветнай імперыялістычнай вайны, што зараз свет расколат на лагер соцыялізма і лагер капіталізма, што зараз ёсць неагрэсіўныя дзяржавы і агрэсіўныя фашысцкія дзяржавы, якія пачалі ўжо гвалтоўны перадзел свету. У гэтай абстаноўцы ясная, чоткая, цвёрдая пазіцыя компартый па пытаннях вайны, аснаваная на ленінска-сталінскім вучэнні **аб справядлівых і несправядлівых войнах,** развітая ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», становіцца вузлавым пытаннем усяго сусветнага рабочага руху. Гэта вучэнне таварыша Сталіна дазваляе комуністам высока трымаць сцяг міжнароднай пролетарскай салідарнасці, рушыць уперад справу вызвалення працоўных і зняволеных народаў, заняць месца перадавых барацьбітоў у радах усяго прагрэсіўнага чалавецтва.

* * *

Цяжка ў газетным артыкуле ахапіць хоць-бы ў малой меры тое неабсяжнае багацце тэорыі, стратэгіі і тактыкі, якое далі Ленін і Сталін міжнароднаму комуністычнаму руху. Важнейшая задача секцый Комінтэрна—узняць на яшчэ большую вышыню вялікае вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, узняць ленінска-сталінскае выхаванне партыйных работнікаў—усваенне кіруючымі кадрамі вучэння Леніна—Сталіна, каб зрабіць з яго кіраўніцтва к дзеянню. Рашэнне гэтай задачы рушыць намнога ўперад справу фарміравання такіх моцных большэвіцкіх кадраў, якія пры самых складаных, заблытаных становішчах, у атмасферы, насычанай порахам, знойдуць самастойна правільны выхад.

Задача гэта велізарна. Да гэтай задачы павінна быць цяпер прыкавана ўвага ўсяго Комуністычнага Інтэрнацыянала.

Задача кіруючых кадраў секцый Комінтэрна і работнікаў ВККІ заключаецца сёння ў тым, каб на аснове данага на XVIII з'ездзе

ВКП(б) таварышом Сталіным глыбокага аналіза ўсяго становішча зрабіць старанна прадуманыя, добра ўзважаныя вывады аб тым, як лепш прымяніць на справе рашэнні VII Кангрэса ў новай абстаноўцы, як лепш аб'яднаць рабочых, сялян, дробны гарадскі люд, зняволеныя нацыі для барацьбы супроць фашысцкай агрэсіі і разгортваючайся другой імперыялістычнай вайны.

Задача компартый зараз заключаецца ў тым, каб зліць яшчэ больш усе свае мыслі, волю, пачуцці, усю сваю істоту з вялікім вучэннем Леніна—Сталіна, якое дапамагае комуністам пазбегнуць палітычных памылак, запальвае рэволюцыйным энтузіязмам, магутным пафасам барацьбы, напаўняе іх несакрушальнай упэўненасцю ў перамозе комунізма.

І зараз, калі шалее здыхаючы капіталістычны свет, калі фашысцкія гвалтаўнікі, робячы нечуваны разбой, прабуюць тэрарызаваць народы, бяссмертнае вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна дае працоўным усіх краін ясную, бадзёрую большэвіцкую перспектыву. Нас, комуністаў, не абмануць ні грукатам японскіх бомб у Кітаі, ні шумам рухаючыхся матарызаваных нямецкіх часцей у Клайпедзе, ні «пераможнымі» рэляцыямі ката іспанскага народа Франко. Мы асязаем, мы адчуваем і ведаем—таму што мы ленінцы-сталінцы,—якія глыбокія зрухі адбываюцца зараз у свядомасці народаў Еўропы. Ды ці адной Еўропы? Мы ведаем, на якую накаленую класавымі, нацыянальнымі канфліктамі глебу падае семя комунізма, семя вялікага вучэння Леніна—Сталіна. І гэта семя ўзойдзе буйнымі расткамі.

Фашысцкая буржуазія і яе пасобнікі сеюць вецер, яны пажнуць буру. Яны немінуча пажнуць гэтую буру таму, што расце, квітнее і няўхільна мацнее магутная краіна соцыялізма, таму, што мільёны абяздоленых капіталістычнага свету змыкаюцца і будуць усё мацней змыкацца, наперакор усім перашкодам, з бацькаўшчынай працоўных усіх краін. У СССР яны бачаць апору іх барацьбы, у вялікім Сталіне—сваю надзею, у яго геніяльным вадзіцельстве—гарантыю перамогі.

---

**В. Бедзін.**

Заг. Аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б

# Барацьба супроць рэлігіі—барацьба за комунізм

Рашэнні XVIII з'езда ВКП(б), указанні любімага правадыра народаў таварыша Сталіна ў яго гістарычным дакладзе на з'ездзе мабілізуюць многамільённы совецкі народ на далейшую барацьбу за паспяховае выкананне плана Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, за ажыццяўленне сусветна-гістарычнай задачы завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Адна з важнейшых задач гэтага перыяда—далейшы рост комуністычнай свядомасці рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Соцыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух, якія ў дні падрыхтоўкі і работ XVIII з'езда нашай партыі выліліся ў небывалы ўздым працоўнага энтузіязма, ахопліваюць усё новыя і новыя слаі працоўных. У соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі ўключыліся мільёны працоўных нашай краіны, занятых ва ўсіх галінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі, што безумоўна з'яўляецца паказчыкам поспехаў большэвіцкай партыі ў галіне комуністычнага выхавання.

Але аднаго гэтага недастаткова. У гістарычнай рабоце па будаўніцтву комунізма ў СССР рашаючае значэнне набывае справа комуністычнага выхавання працоўных, задача ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей, адным з якіх з'яўляецца рэлігія. Соцыяльныя карэнні рэлігіі ў нас знішчаны разам з ліквідацыяй эксплаатататарскіх класаў. Дзякуючы мудраму кіраўніцтву партыі Леніна—Сталіна, працоўныя ўзбройваюцца матэрыялістычным разуменнем законаў развіцця прыроды і грамадства. Рэлігія стала перажыткам капіталізма ў свядомасці людзей, пазбаўленым соцыяльных карэнняў у эканоміцы нашай краіны.

Але злачыннай лёгкадумнасцю было-б меркаваць, што гэтым самым ужо знята пытанне аб неабходнасці барацьбы з рэлігіяй. Наяўнасць рэлігійных перажыткаў сярод адсталых слаёў працоўных сведчыць аб тым, што трэба не згортваць, а ўсямерна ўзмацняць антырэлігійную работу, зрабіць яе неад'емнаю часткай партыйнай прапаганды. Лепшая пастаноўка справы прапаганды і агітацыі сярод шырокіх мас працоўных, вывучэнне даклада тав. Сталіна, матэрыялаў і рашэнняў XVIII з'езда партыі—пярвейшы абавязак усіх партарганізацый, кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва. На адной шостай частцы зямнога

шара Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя разбіла капіталізм, адабрала ў буржуазіі сродкі вытворчасці і ператварыла фабрыкі, заводы, зямлю, чыгункі, банкі ва ўласнасць усяго народа, у грамадскую ўласнасць. Гэта быў нябачаны ў гісторыі чалавецтва ўдар па эксплаататарах, а разам з тым па ідэалагічнай зброі эксплаататараў—рэлігійнаму мракабессю.

У нашай краіне пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ўпершыню ў гісторыі чалавецтва створан грамадскі лад, пры якім рэлігія адмірае. Знішчэнне эксплаатацыі чалавека чалавекам, планавая сацыялістычная гаспадарка, велізарны ўздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных, поспехі культурнай рэвалюцыі, далучэнне найшырэйшых мас працоўных да навукі, авалоданне складанай перадавой тэхнікай, уцягненне мільёнаў працоўных у актыўную грамадскую дзейнасць і будаўніцтва сацыялістычнага грамадства—усё гэта наносіць рэлігійным перажыткам удар за ўдарам і стварае ўмовы для велізарнага росту атэізма (бязбожжа).

Героіка сацыялістычнага будаўніцтва перавыхоўвае працоўных, развівае і ўмацоўвае ў іх пачуцце дзяржаўнасці, дысцыплінаванасці, выпрацоўвае новы, комуністычны быт, стварае сапраўды новы характар чалавека, вольнага ад перажыткаў мінулага. Але ні ў якай меры нельга пераўмяншаць цяжкасці выканання гэтай вялікай задачы.

Марксізм-ленінізм вучыць, што пераробка свядомасці людзей ідзе заўсёды больш марудна, чым пераробка іх эканамічнага жыцця. Таварыш Сталін гаворыць, што свядомасць людзей у яе развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча. У прыватнасці і рэлігійныя погляды больш жывучы, чым парадзіўшыя іх умовы. У многіх веруючых рэлігійнасць трымаецца на прыхільнасці да старых традыцый, абрадаў, звычак. Уродлівыя перажыткі старога—кража, хлусня, п'янства, двудушнасць, зайздрасць, лакейства, прагнасць, себялюбства, імкненне урваць у дзяржавы пабольш і даць ёй паменш, рэшткі рэлігійных забабонаў, нацыяналізм і шавінізм — усе гэтыя перажыткі з'яўляюцца тармозячай сілай у будаўніцтве сацыялізма, яны жывучы, і з імі трэба ўпарта і настойліва змагацца.

Шырока і ўмела пастаўленая антырэлігійная прапаганда павінна дапамагчы выканаць гістарычную задачу поўнага і канчатковага пераадалення перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей.

Велізарны рост атэізма ў нашай краіне і падрыў уплыву рэлігійных арганізацый тлумачыцца не якімі-небудзь мерамі забароны рэлігіі. Такія меры заўсёды адвяргаліся большэвіцкай партыяй як няправільныя і шкодныя. Рост атэізма ў нас выцякае з тых змяненняў, якія адбываюцца ў свядомасці совецкага народа ў выніку сусветна-гістарычных перамог у СССР.

Ажыццяўленне прынятай XVIII з'ездам ВКП(б) велічнай праграмы работ па завяршэнню будаўніцтва бяскласавага сацыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад сацыялізма да комунізма забяспечыць яшчэ больш грандыёзныя перамогі. Гістарычны даклад таварыша Сталіна і рашэнні з'езда партыі ўзброілі ўвесь совецкі народ на ажыццяўленне гэтай задачы.

Найвялікшыя геніі чалавецтва Маркс, Энгельс, Ленін і Сталін нястомна падкрэслівалі, што рэлігія адурманьвае эксплаатуемых і служыць эксплаататарам прыкрыццём для самага наглага грабяжу.

Мы ведаем, што Маркс лічыў рэлігію «опіумам для народа». Энгельс лічыў яе фантастычным адлюстраваннем у галовах людзей

грамадскіх адносін. Ленін яшчэ ў 1905 годзе ў артыкуле «Соцыялізм і рэлігія» характарызаваў рэлігію як «род духоўнай сівухі».

Рэлігійныя арганізацыі заўсёды падтрымлівалі эксплаататарскі лад. Агульнавядома, што руская царква (ды ці адна толькі руская!) прапаведавала: «бога бойцеся, цара паважайце». Ва ўсім свеце эксплаататараў ажыццёўлен саюз царквы і дзяржавы.

Пры дапамозе рэлігіі эксплаататары прабуюць прымірыць ката з яго афярай, пана з рабом. Рэлігія дапамагае зацямніць класавую свядомасць мас, замаскіраваць і засланіць страшэннае бяздонне паміж інтарэсамі эксплаатуемых і эксплаататараў. Рэлігія раіць прыгнечаным цярпець, заклікае іх да пакорлівасці: «рабы да павінуюцца пану свайму».

Такі класавы сэнс рэлігіі. Не дзіўна, што ў імя бога і рэлігіі былі забіты мільёны людзей, сотні і тысячы спалены на кастрах, скалечаны катамі, замучаны ў засценках. Царква і дзяржава, поп і феадал, манах і кат, духоўная рацць і буржуа—усе яны дзейнічаюць заадно. Тэкстамі з бібліі, евангелля, карана і іншых «свяшчэнных кніг» рэлігія падмацоўвае сваю пропаведзь рабства, галечы і цемры.

Совецкі народ, які вызваліўся ад гнёту капіталістаў і памешчыкаў, які заваяваў заможнае і шчаслівае жыццё, паспяхова ачышчаецца ад перажыткаў буржуазнага грамадства, у тым ліку і ад рэлігійных забабонаў. Уплыў царквы падае ўсё больш не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы.

Таварыш Сталін яшчэ на XVII з'ездзе нашай партыі гаварыў:

> «Старая вёска з яе царквой на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, папа, кулака на першым плане, з яе поўразваленымі хатамі сялян на заднім плане — пачынае знікаць» *).

Рэлігійныя забабоны паспяхова перамагаюцца побач з усімі іншымі перажыткамі капіталізма.

Рэакцыйнае духавенства заўсёды стаяла на службе ворагаў народа. Пасля перамогі вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі царкоўнікі ярасна апалчыліся на яе. За зброю ўзяліся самі манахі і папы, арганізуючы «ісусавы палкі», «палкі багародзіцы».

У годы грамадзянскай вайны Каледзін, Красноў, Дзенікін, Калчак і інш. белагвардзейцы—каты працоўных—былі аб'яўлены духавенствам «абаронцамі веры і рэлігіі». Белых генералаў, катаў народа, папы аб'явілі «пасланнікамі самога бога».

Па даносах папоў у япона-белагвардзейскіх засценках пасля лютых катаванняў загінулі сотні адданых народу рэволюцыйных рабочых і сялян.

На нашай заходняй мяжы каталіцкая рэлігійная арганізацыя з'яўлялася агентурай польскай буржуазіі. Яна стварала антысовецкія групы, распаўсюджвала паклёпніцкія чуткі, выконвала шпіёнскія заданні.

Варта ўспомніць галодныя 1921—1922 годы. Тады ўсе праваслаўныя цэрквы, узначаленыя патрыярхам Тіханам, запрацівіліся із'яццю царксўных каштоўнасцей для дапамогі галадаючаму насельніцтву. Варта ўспомніць таксама паводзіны украінскай аўтакефальнай

*) „Пытанні ленінізма", стар. 571.

царквы, якая служыла прыкрыццём для петлюраўцаў, трацкістаў і ўсёй фашысцкай зграі ў іх барацьбе супроць совецкай улады.

Калі працоўныя Совецкага Саюза разбілі ў грамадзянскай вайне ўсіх і ўсякіх інтэрвентаў і перайшлі да мірнага соцыялістычнага будаўніцтва, царкоўныя абшчыны і сектанцкія арганізацыі павялі сістэматычную контррэволюцыйную, падрыўную, здрадніцкую работу. Імкнучыся падарваць гаспадарчую магутнасць Совецкага Саюза, папы, сектанты, муллы агітавалі сялян не засяваць палей, настрайвалі супроць продразвёрсткі, продпадаткаў, хлебанарыхтовак і т. д. Царкоўнікі самі гнаілі і псавалі ў ямах хлебныя лішкі, утойваючы іх ад совецкай дзяржавы.

Калектывізацыю духавенства сустрэла з лютаю злобай. Яно пускала ў ход самыя ўтончаныя способы барацьбы, каб толькі падарваць і разваліць калгасы, дыскрэдытаваць калектывізацыю ў вачах адсталых сялян. Царкоўнікі павялі ў вёсцы шалёную антысовецкую, контррэволюцыйную прапаганду.

У гарадах і сёлах духавенства дапамагала белагвардзейцам расправаўляцца з рабочымі, у цэрквах распаўсюджвала антысовецкую літаратуру, скалачвала банды з кулацкіх сынкоў і іншых цёмных элементаў для нападу на рэволюцыйныя камітэты, камітэты беднаты, партызанскія атрады.

Рэлігія, як перажытак мінулага, шырока выкарыстоўваецца капіталістычным акружэннем для барацьбы супроць першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы.

Рэлігія—вораг навукі.

Сталінская Канстытуцыя прадастаўляе ўсім грамадзянам СССР права на асвету. Але «...усякая рэлігія ёсць нешта процілеглае навуцы» **(Сталін).** Рэлігійныя забабоны перашкаджаюць многім веруючым працоўным поўнасцю рэалізаваць свае права на асвету. Папы і прапаведнікі-сектанты ўнушаюць веруючаму чалавеку мысль аб шкоднасці і бескарыснасці навукі.

За годы рэволюцыі жанчына ў нашай краіне заняла пачэснае месца ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Сталінская Канстытуцыя забяспечвае жанчыне роўныя з мужчынай правы ў гаспадарчым, дзяржаўным, культурным і грамадска-палітычным жыцці. Рэлігія-ж імкнецца перашкодзіць фактычнаму ўраўненню жанчыны ў правах з мужчынай.

Сталінская Канстытуцыя ўзаконьвае роўнапраўе грамадзян СССР незалежна ад нацыянальнасці і расы. Рэлігія-ж перашкаджае веруючым працоўным ажыццяўляць гэту найвялікшую заваёву вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі. У руках эксплаататарскіх класаў царскай Расіі рэлігія служыла выпрабаванай зброяй для распальвання нацыянальнай розні, арганізацыі яўрэйскіх пагромаў і т. д. Зараз рэлігія ўзмоцнена прабуе выкарыстаць буржуазна-нацыяналістычныя элементы, каб проціпаставіць адны нацыянальнасці другім, адны групы веруючых—другім.

Свяшчэнным абавязкам кожнага грамадзяніна СССР з'яўляецца праца. У нашай соцыялістычнай дзяржаве праца карыстаецца велізарнай пашанай. Любоўю і славай авеяны ў нас ударнікі, стаханаўцы, героі працы. Рэлігія-ж прывучае веруючага чалавека да мыслі, што праца—самая цяжкая і ганебная павіннасць чалавека. Рэлігія вучыць веруючых глядзець на працу, як на паднявольны занятак, як «на праклянцце і кару за грахі». Яшчэ і зараз наглядаюцца факты, калі

пад уплывам папоўскай агітацыі веруючыя іншы раз зрываюць працоўную дысцыпліну, не выходзяць на работу ў дні рэлігійных свят, наносячы значную шкоду совецкай дзяржаве.

«Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР»,—гаворыць Канстытуцыя. Рэлігія-ж перашкаджае некаторым веруючым працоўным выконваць гэты свяшчэнны абавязак. Папы і сектанцкія прапаведнікі двудушна прапаведуюць любоў да ворагаў і непраціўленне злу. Практычна гэта азначае непраціўленне фашысцкім агрэсарам, калі-б яны ўздумалі напасці на нас, непраціўленне японскім самураям, калі яны спрабавалі нарушыць совецкія граніцы ў раёне возера Хасан. Гэтая пропаведзь сектантаў з абурэннем адвяргаецца совецкім народам, які горача любіць сваю радзіму і гатоў па першаму закліку совецкага ўрада грудзьмі ўстаць на яе абарону.

Рэлігійныя перажыткі далёка не так бяскрыўдны, як гэта можа здацца на першы погляд. Рэлігія варожа комунізму. Яна прапаведуе антынавуковыя погляды, аслабляе волю працоўных у класавай барацьбе, усыпляе іх рэволюцыйную пільнасць, перашкаджае ім стаць свядомымі будаўнікамі комуністычнага грамадства.

Вось чаму царкоўнікі і сектанты асабліва актывізаваліся ў часе выбарчых кампаній у Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Рэлігійныя арганізацыі вялі антысовецкую агітацыю супроць блока комуністаў і беспартыйных, заклікалі веруючых высоўваць кандыдатамі служыцеляў культа або актыўных царкоўнікаў, прабавалі адцягнуць веруючых ад удзелу ў галасаванні.

Вораг выкрутлівы і прыстасоўваецца да абстаноўкі. У радзе месц папы і сектанты прапанавалі свае паслугі ў якасці агітатараў; папоўскія і сектанцкія арганізацыі браліся нават за «растлумачэнне» Сталінскай Канстытуцыі і Выбарчага закона.

У Баркалабаўскім сельсовеце Быхаўскага раёна ў выніку патурання мясцовых арганізацый сектанты абнаглелі да такой ступені, што вывешвалі свае лозунгі супроць выбараў.

У Дзямехаўскім сельсовеце Рэчыцкага раёна жонка папа падкупіла дзяцей з тым, каб яны ўгаварвалі сваіх бацькоў не хадзіць на прадвыбарчыя сходы.

У Магілеве манах, які прыехаў з Кіева-Пячэрскай лаўры, арганізаваў з групы дзяцей 14—15 год «братоў ва хрысце», якіх спрабаваў выкарыстаць для агітацыі супроць кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных.

Але ўся гэта варожая работа была біта. Сталінскі блок комуністаў і беспартыйных атрымаў бліскучую перамогу, якая з'яўляецца перамогай усёй нашай ленінска-сталінскай партыі.

Царкоўнікі вядуць барацьбу супроць гаспадарча-палітычных кампаній. У вёсцы Барсуках Рэчыцкага раёна па хадайніцтву калгаснікаў і аднаасобнікаў была закрыта царква. Але царкоўнікі і манашкі пры патуранні сельсовета і прамой садзейнасці былога старшыні калгаса Кучарава арганізавалі 10 падпольных малельняў у дамах кулацкіх элементаў і членаў царкоўнага совета, дзе і праводзілі антысовецкую контррэволюцыйную работу. У выніку Н-Барсукоўскі сельсовет пачаў адставаць у выкананні гаспадарча-палітычных кампаній.

Рэлігійная прапаганда ставіць таксама мэтай апарочыць стаханаўскі рух. У калгасе «Гігант» Рэчыцкага раёна царкоўнікі «высунулі» стаханаўкай дачку высланага кулака Хадоркіну Хадору, муж якой таксама рэпрэсіраван, у той час, калі яна за месяц выпрацавала

толькі 8 працадзён. Гэтая варожая вылазка выклікала законнае абурэнне калгаснікаў.

Многія царкоўныя і сектанцкія арганізацыі непасрэдна звязаны з замежнымі разведкамі.

У цэлым радзе раёнаў і абласцей Саюза, у тым ліку і ў БССР, былі выкрыты тэрарыстычныя, дыверсійныя арганізацыі папоў, якія арудавалі сумесна з нацыянал-фашыстамі і права-трацкісцкімі агентамі фашызма.

Вораг народа Бухарын раіў буржуазным нацыяналістам распальваць рэлігійны фанатызм і ўцягваць духавенства ў контррэвалюцыйныя арганізацыі. У асобе царкоўных і сектанцкіх арганізацый капіталістычнае акружэнне і варожыя соцыялізму элементы бачаць сваю апору, якая марыць аб звароце да капіталізма. Многія з гэтых арганізацый разлічваюць на замежную буржуазію, на германскі фашызм. Сумесна з прэзрэннымі агентамі фашызма—трацкістамі, бухарынцамі і буржуазнымі нацыяналістамі—яны ставілі сваёй мэтай зважэнне совецкага ладу і аднаўленне ў нашай краіне крывавага фашысцкага рэжыма.

Але комуністычная партыя, вялікі Сталін гэтага не дапусцілі. Наша слаўная совецкая разведка ўскрыла і ліквідавала асіныя гнёзды гэтых ворагаў народа. Рабочыя і сяляне актыўна дапамагалі і дапамагаюць раскрываць злачынныя справы фашысцкіх шпіёнаў, у тым ліку шпіёнаў, апранутых у царкоўныя расы.

Поспехі нашай краіны на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, рост культурнасці шырокіх працоўных мас наносяць царкве асабліва адчувальныя ўдары. Рэлігійная база з кожным годам слабее. Духавенства бачыць, што яно губляе глебу пад нагамі.

Характэрна, што на базе барацьбы з совецкаю ўладай адбылося аб'яднанне ўсіх унутры-царкоўных вучэнняў. Праваслаўная царква аб'ядналася з сектантамі, баптыстамі, стараабрадцамі, якія дзейнічалі ўкупе з трацкістамі, бухарынцамі і буржуазнымі нацыяналістамі.

У сваёй контррэволюцыйнай рабоце папы шырока выкарыстоўвалі манашаствуючыя элементы. Яны пасылалі па вёсках манашак для антысовецкай агітацыі, распаўсюджання ўсялякіх правакацыйных чутак: аб «антыхрысце», аб вайне і т. д.

Царкоўнікі хацелі ператварыць квітнеючую Совецкую Беларусь у калонію германа-японскага фашызма. Але гэта ім не ўдалося і ніколі не ўдасца.

Калі была ўведзена ў жыццё новая Сталінская Канстытуцыя, царкоўнікі павялі кампанію за адкрыццё закрытых раней цэркваў, пачалі збіраць сродкі на рамонт і аднаўленне іх, складалі нават «тэзісы» для пропаведзей і гутарак аб Канстытуцыі. Артыкул 124 Сталінскай Канстытуцыі аб свабодзе сумлення яны разглядалі як паварот партыі і совецкай улады ў бок прызнання рэлігіі, стараліся запэўніць, што быццам новая Канстытуцыя прызнала працоўнымі ўсіх служыцеляў рэлігійнага культу. Дзе-ні-дзе папы і сектанты патрабавалі для сябе работы «па сумяшчэнню».

Наша партыя ў сваёй праграме абвясціла свабоду сумлення яшчэ ў перыяд падпольнай дзейнасці, але разам з тым ставіла патрабаванне аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы. Гэтае патрабаванне было ажыццёўлена толькі ў выніку перамогі Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Наша Сталінская Канстытуцыя ў 124 артыкуле гаворыць:

«У мэтах забеспячэння за грамадзянамі свабоды совесці

царква ў СССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода адпраўлення рэлігійных культаў і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі».

Але хіба гэта значыць, што мы хоць у малейшай меры змянілі нашу ацэнку царквы, рэлігіі і яе служыцеляў? Хіба гэта значыць, што мы павінны змякчыць антырэлігійную прапаганду, аслабіць яе? Вядома, не. Мы не адмовіліся і не збіраемся адмаўляцца ад антырэлігійнай прапаганды, свабода якой забяспечваецца за ўсімі грамадзянамі СССР. Нашы адносіны да рэлігіі, царквы і служыцеляў культа застаюцца ранейшымі. Мы і ў далейшым не спынім антырэлігійнай прапаганды.

В. І. Ленін у вядомым артыкуле «Соцыялізм і рэлігія» гаварыў:

> «У адносінах да партыі соцыялістычнага пралетарыята рэлігія не ёсць прыватная справа. Партыя наша ёсць саюз свядомых, перадавых барацьбітоў за вызваленне рабочага класа. Такі саюз не можа і не павінен абыякава адносіцца да несвядомасці, цемры або мракабесніцтва ў выглядзе рэлігійных вераванняў...
>
> Наша праграма ўся пабудавана на навуковым і, прытым, іменна матэрыялістычным светапоглядзе. Растлумачэнне нашай праграмы неабходна ўключае таму і растлумачэнне сапраўдных гістарычных і эканамічных карэнняў рэлігійнага туману. Наша прапаганда неабходна ўключае і прапаганду атэізма» *).

З указанняў Владзіміра Ільіча абсалютна ясна выцякае выключная важнасць настойлівай і сістэматычнай антырэлігійнай прапаганды ў шырокіх масах працоўных.

Ворагі народа, якія прабраліся да кіраўніцтва беларускай арганізацыяй Саюза Ваяўнічых Бязбожнікаў, усяляк згортвалі антырэлігійную прапаганду, арыентавалі нізавыя ячэйкі на скажэнні і перагібы ў антырэлігійнай прапагандзе, каб затрудніць веруючым адыход ад рэлігіі.

Ворагі народа, прыкрываючыся рознымі «тэорыямі», развальвалі работу СВБ, прапаведуючы, што «арганізацыя СВБ зараз не можа быць жыццездольнай», што «працоўныя заняты зараз больш важнымі пытаннямі». З-за адсутнасці належнага партыйнага кіраўніцтва антырэлігійнай прапагандай вельмі марудна ліквідуюцца вынікі шкодніцтва на гэтым вострым участку барацьбы з перажыткамі капіталізма ў свядомасці працоўных.

У выніку варожага кіраўніцтва значная частка актыва адышла ад антырэлігійнай работы. Рэспубліканскі Совет СВБ бюракратычнымі метадамі ажыццяўляў кіраўніцтва і пераключыўся выключна на штатны апарат. Новыя кадры, здольныя паставіць справу антырэлігійнай прапаганды так, як гэтага патрабуе партыя, не выхоўваліся. Антырэлігійная работа ва многіх гарадах і раёнах БССР знаходзіцца яшчэ і зараз у вельмі нездавальняючым становішчы. Рэспубліканскія, абласныя і раённыя оргбюро СВБ, якія ствараліся на працягу 1937—38 гг., амаль ніякай практычнай антырэлігійнай работы не праводзілі. Не атрымліваючы ад партыйных арганізацый неабходнага штодзённага кіраўніцтва і дапамогі, оргбюро СВБ развальваліся.

Створанае ў кастрычніку 1938 г. рэспубліканскае оргбюро СВБ, перад якім ЦК КП(б)Б паставіў задачу— аднавіць СВБ і разгарнуць

*) Ленін, т. VIII, стар. 421.

антырэлігійную работу, з работай не справілася. Многія члены оргбюро не ўніклі нават у яе сутнасць і да апошняга часу, як відаць, не разумеюць сваёй адказнасці за гэты важнейшы ўчастак.

Рэспубліканскае оргбюро СВБ не разгарнула патрэбнай работы па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва на антырэлігійным фронце, не забяспечвала неабходнага кіраўніцтва абласнымі, гарадскімі і раённымі оргбюро СВБ.

Толькі ў апошні час, пасля ўмяшання ЦК КП(б)Б і ў сувязі з правядзеннем справаздачна-выбарчай кампаніі і склікannем Усебеларускага з'езда СВБ, у радзе раёнаў пачалі аднаўляцца арганізацыі СВБ. Яны ўжо аформлены ва ўсіх пяці абласцях і 95 раёнах. Праведзены справаздачы і выбары, раённыя, абласныя канферэнцыі і Усебеларускі з'езд СВБ. Выбраны раённыя, гарадскія, абласныя і рэспубліканскія советы СВБ.

Паасобныя гарадскія і раённыя арганізацыі за час справаздачна-выбарчай кампаніі выраслі амаль удвая. Магілеўская гарадская арганізацыя вырасла на 44 новыя ячэйкі і зараз налічвае пяць тысяч членаў саюза ў 103 ячэйках. Дрыбінская раённая арганізацыя павялічылася на 10 ячэек і налічвае зараз 736 членаў саюза ў 36 ячэйках. У Нараўлянскім раёне да справаздачна-выбарчай кампаніі было толькі дзве ячэйкі, зараз арганізавана 12. У Лагойскім раёне было 16 ячэек, зараз — 23. У Гомельскай гарадской арганізацыі было 22 ячэйкі з 1.700 членамі саюза, а зараз 40 з 2.540 членамі. У Варашылаўскім раёне было 3 ячэйкі, зараз—47. Такі-ж рост наглядаецца ў радзе іншых гарадоў і раёнаў.

У перыяд справаздачна-выбарчай кампаніі была праведзена вялікая масава-палітычная работа. У Магілеве прачытана 256 лекцый і дакладаў, у Мсціслаўлі—139. У калгасе «Чырвоная зорка» (Алексінскі сельсовет, Сенненскага раёна) ячэйка СВБ амаль кожны тыдзень праводзіць лекцыі і даклады на антырэлігійныя і агульна-палітычныя тэмы. Вялікую работу праводзіць ячэйка СВБ завода Гомсельмаш, якая налічвае 470 членаў, ячэйка Дортранса г. Менска, 1-й менскай школы і інш.

У радзе месц справаздачна-выбарчая кампанія прайшла выключна дрэнна. Арганізацыйна-масавая работа не праводзілася, у радзе выпадкаў парушаўся статут СВБ: дэлегатамі на раённыя і абласныя канферэнцыі пасылаліся не члены СВБ, часта дэлегаты не выбіраліся, а назначаліся партыйнымі, совецкімі і гаспадарчымі арганізацыямі. Такіх фактаў асабліва многа ў Палескай вобласці, у Ельскім, Жыткавіцкім, Лельчыцкім, Петрыкаўскім, Брагінскім і інш. раёнах.

Раённыя канферэнцыі ва многіх выпадках праходзілі пры наяўнасці ў раёне 4—5 аформленых ячэек. У Менскім раёне, пры наяўнасці чатырох ячэек, адбылася раённая канферэнцыя СВБ, на якой прысутнічала толькі 19 чалавек. У Слуцкім раёне на канферэнцыі прысутнічала 18 дэлегатаў. У Віцебскім раёне канферэнцыя праведзена, хоць у раёне не было ні адной аформленай пярвічнай арганізацыі СВБ.

Многія раёны абмежаваліся стварэннем ячэек у раённых цэнтрах і не вялі ніякай работы ў калгасах. У радзе раёнаў калгасныя ячэйкі налічваюцца адзінкамі (у Горацкім з 14 ячэек толькі адна калгасная, у Кіраўскім—2, у Халопеніцкім—3 і т. д.).

Паасобныя кіраўнікі партыйных арганізацый не толькі не ўзначалілі, але часта перашкаджалі правядзенню гэтай важнейшай работы. Сакратар Магілеўскага сельрайкома тав. Сіроткін забараніў дэлега-

там ісці на абласную канферэнцыю, матывіруючы тым, што ў гэты дзень адбудуцца партсходы. І толькі пасля ўмяшання абкома дэлегаты-комуністы былі адпушчаны на канферэнцыю. У Слуцкім раёне ў СВБ уцягнута ўсяго 210 чалавек. На раённую канферэнцыю быў выбран толькі 21 дэлегат, а з'явілася на канферэнцыю 18 чалавек. З гэтага прадстаўніцтва і абралі райсовет. Не ўзначалілі і не праводзяць антырэлігійнай работы Дрысенскі, Ушацкі, Старобінскі, Капаткевіцкі, Камарынскі, Чырвонаслабодскі і рад іншых райкомаў.

Адной з лепшых у Беларусі лічыцца Магілеўская гарадская арганізацыя СВБ. Яна рыхтуе новыя кадры бязбожнікаў, добра паставіла ўчот арганізацыі і яго актыва. За бягучы год па Магілеву праведзена 2.500 дакладаў, лекцый і бясед на антырэлігійныя тэмы. У ячэйках арганізавана работа гурткоў СВБ.

Нядрэнна разгортвае работу і Добрушскі райсовет СВБ (старшыня тав. Власенка). Тут расце актыў. Да сістэматычнай антырэлігійнай работы прыцягнуты настаўнікі—таварышы Букінін, Кузьменкоў, Шармакоў, Самусік. На Добрушскай папяровай фабрыцы «Герой працы» рэгулярна выходзіць насценная антырэлігійная газета.

Трэба адзначыць, што там, дзе кіраўнікі з'яўляюцца энтузіястамі сваёй справы, антырэлігійная работа пастаўлена добра. Узяць хоцьбы ячэйку СВБ завода Гомсельмаш, якая мае 470 членаў саюза. Вялікая штодзённая антырэлігійная работа сярод рабочых завода забяспечвае рост ячэйкі.

У калгасе «Чырвоная зорка» (Алексінскі сельсовет, Сенненскага раёна) ячэйкай кіруе тав. Падольскі. Ён уцягнуў у ячэйку больш паловы калгаснікаў, арганізуе для іх антырэлігійныя лекцыі, бяседы.

Нядрэнна працуе ячэйка СВБ у 1-ай менскай школе. Сакратар ячэйкі тав. Гладкая арганізавала антырэлігійную выстаўку, праводзіць вялікую работу сярод вучняў і іх бацькоў.

Ячэйка СВБ Дортранса (гор. Менск) арганізавала антырэлігійную бібліятэку-перасоўку. Ячэйка СВБ картаграфічнай фабрыкі праводзіць вялікую работу ў падшэфным калгасе.

У Васілевіцкім раёне Палескай вобласці старшыня РС СВБ тав. Ганчароў стварыў лектарскую групу, якая за апошнія месяцы правяла 16 лекцый у калгасах і сельсоветах.

У Лельчыцкім раёне гэтай-жа вобласці за апошні час прачытана 4 лекцыі ў раённым цэнтры, у калгасах праведзена 48 бясед і 18 вечароў мастацкай самадзейнасці.

У Бялыніцкім раёне Магілеўскай вобласці лектарская група складаецца з 7 чалавек, якія за 1939 год прачыталі 55 лекцый у калгасах і 3 у раённым цэнтры. Бюро райкома партыі аказвае штодзённую дапамогу райсовету СВБ.

Ва многіх гарадах і раёнах новастворанымя гарадскія і раённыя советы СВБ праяўляюць мала ініцыятывы. Да іх адносяцца Кагановіцкі, Менскі сельскі, Хоцімскі, Горацкі, Крычаўскі райсоветы, Барысаўскі, Віцебскі горсоветы і інш., дзе райкомы і гаркомы партыі яшчэ не ўдзяляюць неабходнай увагі справе антырэлігійнай прапаганды.

У Кагановіцкім раёне г. Менска антырэлігійная работа яшчэ не разгорнута. Ні разу не збіраўся пленум раённага совета. Старшыня райсовета СВБ тав. Ганчароў (ён-жа трэці сакратар райкома партыі) работай СВБ не цікавіцца. Калі інструктар ЦС СВБ заявіў аб нездавальняючай пастаноўцы антырэлігійнай работы ў раёне, Ганчароў на гэта адказаў: «Што вы мне дурыце галаву з вашымі бязбожнікамі. Мяне выбралі старшынёю райсовета выпадкова. Я не маю часу зай-

мацца антырэлігійнай прапагандай». Тав. Ганчароў не хоча арганізаваць антырэлігійную прапаганду. Атрымаўшы больш 200 білетаў на антырэлігійную лекцыю, якую чытаў выкліканы з Масквы тав. Логінаў, ён пратрымаў іх у сябе, чым пазбавіў актыў магчымасці паслухаць кваліфікаваную лекцыю.

Сакратар Мехаўскага райкома партыі тав. Казілоўка на пытанне інструктара Цэнтральнага Совета СВБ, як арганізавана антырэлігійная работа, адказаў: «Навошта вы зварачаецеся да мяне з такімі недарэчнымі пытаннямі».

Заг. аддзелам прапаганды і агітацыі Барысаўскага гаркома партыі тав. Крупецкі на заўвагу інструктара ЦС СВБ аб тым, што нездавальняючая пастаноўка антырэлігійнай работы ў горадзе нецярпіма, адказаў: «Давай не блытаць маю работу з гэтай», г. зн. партыйную прапаганду з антырэлігійнай.

Яўна недаацэньвае антырэлігійную прапаганду Віцебскі гарком партыі. Толькі на 20 прадпрыемствах Віцебска з 100 арганізаваны ячэйкі, якія ахватваюць каля 2.000 членаў. На такіх буйных прадпрыемствах, як фабрыка «Кім» з 8.000 рабочых, ячэйка складаецца ўсяго з 100 чалавек. На швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі», дзе працуе 5.000 рабочых, арганізавана ячэйка з 157 чалавек, і то не ў цэхах, а пры кіраўніцтве фабрыкі, на базе збыту і т. д. На фабрыцы імя К. Цэткін, дзе 1.600 рабочых і дзе непасрэдна працуе старшыня горсовета СВБ тав. Крупенін, ячэйка СВБ з 14 членаў была арганізавана толькі 14 сакавіка г. г. На фабрыках імя Кагановіча і «Профінтэрн», на заводах імя Кірава, «Комінтэрн» і іншых буйных прадпрыемствах зусім няма ячэек СВБ. У бюджэтах фабрык і заводаў па спецыяльнаму артыкулу адпушчана на антырэлігійную прапаганду ад 300 да 600 руб., што складае ў кожным раёне вялікую суму грошай, аднак гэтыя сродкі ўсё яшчэ не выкарыстоўваюцца па прызначэнню.

У Талачынскім раёне ўзровень антырэлігійнай прапаганды вельмі нізкі. Усяго па раёну арганізавана 4 ячэйкі, прычым ні адной у калгасах. Дубровенскі раён таксама недастаткова разгарнуў работу, хоць і засмечан рознымі рэлігійнымі сектамі.

У 23 арганізацыях Віцебскага сельскага раёна створаны ініцыятыўныя групы, але ячэйкі СВБ не аформлены. Тым не менш раённая канферэнцыя была праведзена.

Што з'яўляецца прычынай падобных фактаў?

Галоўная прычына—перапавелічэнне поспехаў антырэлігійнай прапаганды, свайго роду «галавакружэнне ад поспехаў».

Другая прычына—палітычная бесклапотнасць, калі людзі стараюцца запэўніць сябе і іншых у тым, што «веруючых засталося вельмі мала». Гэта няверна. Веруючых у совецкай дзяржаве яшчэ многа, асабліва ў вёсцы і ў першую чаргу там, дзе антырэлігійная прапаганда ў загоне.

Трэцяя прычына—апартуністычнае ўяўленне, што рэлігійнымі «засталіся адны старыкі». Гэта таксама няверна. Назіранні і факты сведчаць аб тым, што сярод веруючых не мала дзяцей і моладзі комсамольскага ўзросту, якая яшчэ канчаткова не вызвалілася ад дурману рэлігіі.

Чацвертая прычына—апартуністычная ўпэўненасць часткі работнікаў культурнага і палітычнага фронту, што дастаткова дабіцца тых ці іншых поспехаў у галіне гаспадарчага і культурнага будаў-

ніцтва, каб рэлігія сама па сабе адмерла. Гэта шкодная пропаведзь заклікае да пасіўнага сузірання работы рэлігійных арганізацый.

І, нарэшце,—страта густу да масавай палітыка-выхаваўчай работы, аб чым гаварыў таварыш Сталін у сваім дакладзе на Лютаўска-сакавіцкім пленуме Цэнтральнага Камітэта нашай партыі.

У антырэлігійнай рабоце вельмі слаба ўдзельнічаюць комсамольскія арганізацыі, забываючы, што ў праграме комсамола запісана:

> «ВЛКСМ цярпліва растлумачвае моладзі шкоднасць рэлігійных забабонаў, арганізуючы з гэтаю мэтай спецыяльныя гурткі і лекцыі па антырэлігійнай прапагандзе».

Забылі аб антырэлігійнай прапагандзе і профсаюзныя арганізацыі, хоць XVI партыйны з'езд даў яснае ўказанне, што «профсаюзы павінны... правільна арганізаваць і ўзмацніць антырэлігійную прапаганду».

Зусім не займаецца антырэлігійнай прапагандай палітасветаддзел Наркомасветы БССР, на абавязку якога ляжыць арганізацыя палітасветработы ў дамах соцкультуры, клубах і хатах-чытальнях. Абыякава адносіцца ён таксама і да арганізацыі антырэлігійнага музея ў Менску. Адзіны музей у Гомелі з «маятнікам Фуко» не мае магчымасці нармальна працаваць, бо частка яго занята складам, а другая заселена жыхарамі.

Не ўдзяляе дастатковай увагі антырэлігійнай прапагандзе рэспубліканскі, абласны і раённы друк, дрэнна выкарыстоўваецца радыё. Вопыт паасобных райсоветаў і ячэек СВБ, работа агітатараў-антырэлігійнікаў не асвятляецца. У газетах выключна мала спецыяльных артыкулаў, а па радыё не чуваць лекцый і дакладаў на антырэлігійныя тэмы. Хто-ж у гэтым вінават? Для адказу прывядзем такі факт. Калі дырэктар Гомельскага антырэлігійнага музея падрыхтаваў спецыяльна для перадачы па радыё даклад на тэму «Жанчына і рэлігія», кіраўнікі гомельскай радыёстанцыі патрабавалі ад лектара, каб ён заплаціў за перадачу. Так лекцыя і не была перадана.

Неабходна рашуча пакончыць з недаацэнкай важнасці антырэлігійнай прапаганды і палепшыць партыйнае кіраўніцтва Саюзам Ваяўнічых Бязбожнікаў. Поспех барацьбы з перажыткамі капіталізма ў свядомасці працоўных будзе залежаць ад правільнай пастаноўкі антырэлігійнай работы. У гэту справу павінны ўключыцца партыйныя і грамадскія арганізацыі, усе партыйныя і непартыйныя большэвікі.

Антырэлігійная прапаганда—неад'емная частка комуністычнага выхавання.

Тав. Молатаў на XVIII з'ездзе ВКП(б) указаў, што комуністычнае выхаванне працоўных—адна з важнейшых задач, якія стаяць зараз перад намі:

> «Ад поспехаў комуністычнага выхавання, у шырокім значэнні гэтага слова, комуністычнага выхавання, якое ахватвае ўсю масу працоўных і ўсю совецкую інтэлігенцыю,—перш за ўсё, ад нашых поспехаў у гэтай галіне, залежыць рашэнне ўсіх астатніх задач».

Советы Саюза Ваяўнічых Бязбожнікаў пад кіраўніцтвам партарганізацый павінны па-сапраўднаму ўзяцца за разгортванне антырэлігійнай прапаганды. Асаблівую ўвагу зараз неабходна звярнуць на актывізацыю радавых членаў СВБ. У Саюз Ваяўнічых Бязбожнікаў трэба прыцягваць людзей, парваўшых з рэлігіяй, адышоўшых ад

рэлігійных арганізацый. З імі трэба займацца, павышаць узровень іх свядомасці, уцягваць у прапаганду атэізма.

У гэтай адказнай рабоце абавязаны дапамагчы профсаюзныя арганізацыі. Яны павінны зразумець, што антырэлігійная прапаганда складае частку іх культурнай і палітыка-асветнай работы. Неабходна правесці рад дакладаў, лекцый і бясед на антырэлігійныя тэмы; аднавіць антырэлігійную прапаганду ў клубах, бібліятэках, хатах-чытальнях і чырвоных кутках. Трэба яшчэ вышэй узняць навуковы ўзровень антырэлігійнай прапаганды і ў той-жа час весці яе ў максімальна папулярнай, даступнай масам форме.

Пры дамах партасветы неабходна арганізаваць лекторыі, падабраўшы кваліфікаваных дакладчыкаў-антырэлігійнікаў па пэўнаму цыклу. У планы работы дамоў партасветы, гарадскіх і сельскіх клубаў неабходна ўнесці сістэматычнае правядзенне антырэлігійнай работы.

Асаблівае месца ў антырэлігійнай прапагандзе займае наш друк, радыё, кіно, тэатры.

Роля друку ў справе антырэлігійнай прапаганды выключна вялікая. Трэба дабіцца, каб усе нашы газеты, пачынаючы ад цэнтральных і канчаючы насценнымі, усебакова асвятлялі работу нашых арганізацый, паказвалі актывістаў-бязбожнікаў, бічавалі зрыўшчыкаў антырэлігійнай работы, змяшчалі кансультацыі па раду гістарычных пытанняў антырэлігійнай прапаганды і артыкулы, выкрываючыя антысовецкую дзейнасць царкоўнікаў.

Радыё, кіно і тэатр—гэтыя магутныя сродкі агітацыі і прапаганды—мала прыцягваліся да антырэлігійнай работы. Цэнтральны, абласныя і раённыя советы СВБ павінны практыкаваць сістэматычныя перадачы па радыё антырэлігійных лекцый і дакладаў. Цэнтральны Совет можа дабіцца, каб адпаведныя арганізацыі павялічылі выпуск кіно-фільмаў, кіно-журналаў, кіно-хронікі антырэлігійнага зместу, выдання антырэлігійных п'ес і пастаноўкі іх тэатрамі і драмгурткамі.

Цэнтральны камітэт ЛКСМБ, абласныя, раённыя камітэты і пярвічныя арганізацыі ЛКСМБ абавязаны неадкладна выканаць рашэнне ЦК ВЛКСМ аб выдзяленні пазаштатных інструктароў па антырэлігійнай рабоце і шырока разгарнуць яе сярод усіх комсамольцаў і несаюзнай моладзі. Кожная комсамольская арганізацыя павінна ўключыць у план сваёй работы пытанні антырэлігійнай прапаганды, арганізацыі ячэек, гурткоў і т. д. Неабходна ва ўсіх школах арганізаваць ячэйкі «юных бязбожнікаў», антырэлігійныя гурткі; выкладанне біялогіі, фізікі, хіміі і іншых дысцыплін глыбока насычаць антырэлігійнай прапагандай.

Абавязак школ—весці антырэлігійную работу таксама сярод бацькоў і дабіцца, каб яны не калечылі рэбят рэлігійнымі забабонамі.

Органы Наркомасветы і арганізацыі СВБ павінны дапамагчы настаўніцтву ў пастаноўцы школьнай і пазашкольнай антырэлігійнай работы, забяспечыўшы яго вучэбнымі прыладамі, праграмамі, наглядными антырэлігійнымі матэрыяламі.

Усю нашу прапагандысцкую работу неабходна сканцэнтраваць там, дзе мы маем большую колькасць веруючых грамадзян, асабліва ў сельскіх мясцовасцях, калгасах, соўгасах, МТС.

Задача антырэлігійнікаў—звязаць сваю работу з пытаннямі барацьбы за высокі і ўстойлівы ўраджай, за 5 кілаграмаў зярна на

працадзень. Гэта—мінімум, за які мы павінны змагацца, каб выканаць указанні таварыша Сталіна аб ураджаі ў 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

На канкрэтных прыкладах паспяховай барацьбы стаханаўцаў со-цыялістычных палёў за высокі ўраджай антырэлігійнікі павінны паказаць сілу навукі і тэхнікі, веліч социялістычнай працы, каб кожны працоўны зразумеў, што не «святая вадзіца», не малебны і надзея на бога, не загаворы і папоўскія заклінанні могуць узняць ураджайнасць социялістычных палёў, а толькі стаханаўская праца ў саюзе з навукай і тэхнікай.

Трэба заўсёды памятаць, што антырэлігійная работа ёсць частка нашай агульнай комуністычнай прапаганды і агітацыі, прапаганды вялікага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, што яе нельга адарваць ад задач, пастаўленых перад намі партыяй і совецкім урадам, што барацьба супроць рэлігіі ёсць барацьба за новыя перамогі социялізма.

Трэба заўсёды памятаць, што антырэлігійная прапаганда павінна дапамагчы нам не толькі выкрыць контррэволюцыйную сутнасць папоўскіх мракабесаў і перамагчы рэлігійныя забабоны, але і ўзброіць працоўных усеперамагаючай тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

За годы рэволюцыі нязмерна вырасла культура і заможнасць шырокіх народных мас, іх упэўненасць у заўтрашнім дні, што прывяло велізарныя масы людзей да разрыву з рэлігіяй. Такі масавы адыход ад рэлігіі і царквы адбываецца ўпершыню ў гісторыі. Гэта—вынік найвялікшых перамог социялістычнай радзімы, якая пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна ідзе ўперад і ўперад да вяршынь комунізма.

Рэлігія і комунізм непрымірымы. Рэлігія перашкаджае нашаму руху ўперад, таму неабходна ўсямерна ўзмацняць барацьбу з ёю. Наша задача—шырэй разгарнуць марксісцка-ленінскую антырэлігійную прапаганду, узняць вышэй нашу рэволюцыйную пільнасць, памятаючы, што барацьба з рэлігіяй—барацьба за комунізм.

Гісторыя ўсклала на нашу партыю найвялікшую задачу—пабудаваць комуністычнае грамадства. І мы ўпэўнены ў перамозе, бо няма такой сілы, якая здолела-б спыніць наш пераможны рух уперад. З пуцёўкай таварыша Сталіна, данай у яго гістарычным дакладзе на XVIII з'ездзе ВКП(б), большэвікі павядуць свой народ да новых перамог комунізма.

---

Г. Семёнаў

# Комсамол—верны памочнік партыі

XVIII з'езд ВКП(б)—буйнейшая падзея ў гісторыі нашай соцыялістычнай радзімы, у гісторыі ўсяго міжнароднага комуністычнага руху.

Геніяльны даклад тав. Сталіна на XVIII з'ездзе з'яўляецца каштоўнейшым укладам у скарбніцу марксізма-ленінізма, выдатным дакументам нашай эпохі, у якім падведзены вынікі гераічнай барацьбы працоўных Совецкага Саюза за пабудову соцыялізма і намечана праграма пераходу да комуністычнага грамадства.

Восемнаццаты з'езд ВКП(б) паставіў перад краінай новыя грандыёзныя задачы. Ва ўмовах, калі партыя завяршае будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і ажыццяўляе паступовы пераход ад соцыялізма да комунізма, нязмерна павышаецца роля партыі—адзіна кіруючай сілы нашага грамадства, перадавога атрада працоўных, павышаецца і роля комсамола, як актыўнага памочніка партыі ва ўсёй яе велізарнай, складанай рабоце.

Гераічны комсамол заўсёды следаваў за партыяй Леніна—Сталіна, пад яе кіраўніцтвам актыўна ўдзельнічаў ва ўзвядзенні велічнага будынка соцыялізма. Кіраўніцтва комуністычнай партыі заўсёды з'яўлялася крыніцай сілы комсамола, яго ідэйнага росту, яго выдатных спраў. Комсамол заўсёды быў і застанецца верным рэзервам і баявым памочнікам большэвіцкай партыі.

Рашэнні XVIII з'езда партыі адкрываюць неасяжныя прасторы для дзейнасці комсамольскіх арганізацый. Прыняты з'ездам статут ВКП(б) кладзе пачатак крутому павароту комсамольскіх арганізацый на шлях актыўнага ўдзелу ва ўсім дзяржаўным і гаспадарчым жыцці краіны.

У Статуце ВКП(б) гаворыцца:

> «ВЛКСМ з'яўляецца актыўным памочнікам партыі ва ўсім дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве. Комсамольскія арганізацыі павінны быць на справе актыўнымі праваднікамі партыйных дырэктыў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, асабліва там, дзе няма пярвічных партыйных арганізацый».

Гэта—яркае сведчанне велізарнага давер'я большэвіцкай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта Комуністычнаму Саюзу Моладзі. Комсамол абавязан апраўдаць гэта давер'е адданай работай, самаахвярнай барацьбой за справу Леніна—Сталіна, за справу комунізма. Комсамол павінен яшчэ з большай актыўнасцю дапамагаць партыі і ўраду ўмацоўваць соцыялістычную дзяржаву, ахоўваць соцыялістычную

ўласнасць, умацоўваць працоўную дысцыпліну, пашыраць стаханаўскі рух, узнімаць прадукцыйнасць працы.

> «Быць членам саюза моладзі значыць весці справу так, каб аддаваць сваю работу, свае сілы на агульную справу» *).

Краіна чакае ад комсамола новых вялікіх спраў, новага ўкладу творчай ініцыятывы ў Трэцюю сталінскую пяцігодку. І наша слаўная моладзь з усёй энергіяй узялася ўжо за гэту пачэсную работу. Кожны дзень прыносіць звесткі аб новым працоўным уздыме ў разгортванні соцспаборніцтва сярод моладзі.

Вытворчы задор, кіпучую энергію юных комсамольцаў можна бачыць і ў руху дзяўчат за авалоданне трактарам, і ў звароце моладзі Маскоўскага пражэктарнага завода.

З кожным днём шырыцца вытворчы ўздым сярод моладзі Савецкай Беларусі.

Комсамольцы Бабруйскага лесакамбіната смела змагаюцца за бесперабойную работу сваіх цэхаў. У белдрэўным цэху несвоечасова падавалі дэталі, інструмент быў няспраўны. Комсамолец Астахаў паставіў гэта пытанне перад кіраўніцтвам прадпрыемства і дабіўся ліквідацыі непаладак.

У калгасе «Палітаддзелец», Бешанковіцкага раёна, толькі адзін комуніст, але яму актыўна дапамагае комсамольская арганізацыя, якая па-дзелавому змагаецца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгаса.

У інструментальным цэху Гомельскага паравоза-рамонтнага завода маладзёжная брыгада імя XVIII з'езда ВКП(б) выканала план першай пяцідзёнкі красавіка на 142 проц. Кіруе брыгадай комсамолец тав. Прыходзька. Маладыя рабочыя брыгады безупынна павышаюць прадукцыйнасць працы: 4 красавіка стаханавец тав. Перапечын выканаў праграму на 165 проц., тав. Злотнікаў—на 140 проц. Знатны стаханавец паравозазборачнага цэха комсамолец тав. Рабкін, прымяніўшы сваё прыстасаванне для прыціркі флянцаў паравозных насосаў, даў небывалую на гэтым працэсе выпрацоўку: 4 і 5 красавіка выканаў план на 400 проц., тады як раней даваў не больш 170—200 проц. Малады інжынер завода тав. Бахметаў закончыў пракат станка для запрэсоўкі цыліндрычных утулак. Сваю работу ён прысвяціў спаборніцтву імені Трэцяй сталінскай пяцігодкі.

Брыгада трактарыстаў Боркавіцкай МТС—ордэнаносцы тт. Бохан і Быкава, уступіўшы паміж сабой у соцыялістычнае спаборніцтва, абавязаліся выпрацаваць на кожны калёсны трактар 1.500 гектараў, брыгада тав. Шамшур—900 гектараў, брыгада тав. Федасенкі—800 гектараў; высокаякасна і ў сціслыя тэрміны правесці сяўбу: зернавых за 7—8 дзён, бульбы—за 8—10 дзён; поўнасцю выканаць план радковай сяўбы. Кожная брыгада выканала з поспехам свае абавязацельствы і заслужана зацверджана кандыдатамі на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Пачэсна і адказна роля комсамола ў такой важнейшай справе, як выхаванне моладзі ў духу савецкага патрыятызма. Комсамол павінен быць душой масавай абароннай работы, нястомна клапаціцца аб падрыхтоўцы пакалення, вартага абараняць сваю краіну, аб умацаванні сваіх сувязей з любімай Чырвонай Арміяй. Комсамол выхаваў тысячы мужных герояў, слаўных патрыётаў нашай радзімы, бязмежна адданых партыі Леніна—Сталіна.

*) Ленін, т. XXX, стар. 415.

На ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва моладзь паказвае цуды сапраўды народнага гераізма. Яе энтузіязм з новаю сілай трэба распаліць зараз, калі краіна Советаў уступіла ў паласу пераходу ад соцыялізма да комунізма. А для гэтага комсамолу па-большэвіцку неабходна ўзяцца за ўзбраенне моладзі марксісцка-ленінскай тэорыяй.

VIII пленум Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ, які адбыўся 7—13 красавіка г. г., абмеркаваў важнейшыя пытанні перабудовы комсамольскай работы ў духу гістарычных рашэнняў XVIII партыйнага з'езда. Пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) распрацован і прынят баявы план практычных дзеянняў па выкананню комсамольскімі арганізацыямі пастаноў гістарычнага з'езда.

Пленум абавязаў усе комсамольскія арганізацыі, усіх членаў ВЛКСМ настойліва працаваць над паспяховым правядзеннем у жыццё пастаноў XVIII з'езда ВКП(б). Пленум патрабаваў ад усіх комсамольцаў і ў першую чаргу ад кіруючага актыва комсамола ўпартай барацьбы за аўладанне рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма, актыўнага перамагання перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—будаўнікоў комуністычнага грамадства, падрыхтоўкі ў радах комсамола новых кадраў работнікаў партыі і дзяржавы. Рашэнні пленума абавязваюць усіх комсамольцаў да шырокага разгортвання творчай ініцыятывы ва ўсіх галінах комуністычнага будаўніцтва, да павышэння рэволюцыйнай пільнасці, умацавання соцыялістычнай дзяржавы і ўсіх яе органаў, да бязлітаснай барацьбы з агентурай фашызма—трацкісцка-бухарынскімі шпіёнамі і дыверсантамі.

VIII пленум ЦК ВЛКСМ устанавіў шэфства комсамола над буйнейшымі будоўлямі трэцяй пяцігодкі, над рашаючымі ўчасткамі народнай гаспадаркі і абароннай работы. Гэта рашэнне вынесена на аснове шматлікіх прапаноў комсамольцаў. Стварэнне вялікага марскога і акіянскага флота СССР, будаўніцтва Палаца Советаў, Куйбышэўскага гідравузла, «Другога Баку», хутчэйшае развіццё Падмаскоўнага вугальнага басейна, будаўніцтва новай дарогі Акмолінск—Карталы—на ўсіх гэтых і іншых участках маладыя патрыёты абавязаны паказаць сапраўдныя ўзоры працоўнага гераізма.

Комсамол—вялікая сіла ў гаспадарчым і грамадскім жыцці вёскі, асабліва ў тых прадпрыемствах і калгасах, дзе няма пярвічных партыйных арганізацый. На яго ўскладаецца асобая адказнасць за правядзенне ў жыццё дырэктыў партыі і ўрада. Трэба толькі ўмела выкарыстоўваць гэтую сілу, навучыць комсамольцаў і, перш за ўсё, актыў па-партыйнаму падыходзіць да вырашэння любой задачы.

Работа многіх калгасных пярвічных арганізацый комсамола пастаўлена да гэтага часу нездавальняюча, на што ўказваў яшчэ VI пленум ЦК ВЛКСМ. У калгасах выключна слаба растуць рады комсамола. Ёсць каля тысячы такіх арганізацый, дзе колькасць комсамольцаў не перавышае 3—15 чалавек і зусім не расце. У мінулым годзе 24 пярвічныя комсамольскія арганізацыі нават развалiліся.

Трэба рашуча дабівацца, каб комсамольскія арганізацыі былі створаны ва ўсіх калгасах, каб яны раслі колькасна, каб райкомы, абкомы комсамола і пярвічныя партарганізацыі ўсямерна паляпшалі і ўмацоўвалі сваё кіраўніцтва комсамолам. ЦК ЛКСМБ, кожны райком і абком комсамола заўсёды павінны быць у курсе жыцця і штодзённай работы комсамольскіх арганізацый, сістэматычна дапамагаючы тым з іх, якія працуюць у калгасах, дзе няма партыйных арганізацый.

У трэцяй сталінскай пяцігодцы комсамолу трэба будзе правесці

вялікую работу па выкананню гістарычных задач, пастаўленых перад работнікамі соцыялістычнага земляробства таварышом Сталіным:

> «Разгарнуць далей уздым нашага земляробства і жывёлагадоўлі з тым, каб на працягу бліжэйшых 3—4 год дабіцца штогодняй вытворчасці зярна 8 мільярдаў пудоў з сярэдняй ураджайнасцю на гектар у 12—13 цэнтнераў, павялічыць вытворчасць па тэхнічных культурах на 30—35 процантаў у сярэднім, павялічыць пагалоўе авечак і свіней удвая, пагалоўе буйнай рагатай жывёлы—процантаў на 40, пагалоўе коней—процантаў на 35».

Большэвіцкае ажыццяўленне гэтых грандыёзных задач—справа гонару сельскага комсамола.

Комсамольскія арганізацыі калгасаў, МТС і соўгасаў павінны быць на справе актыўнымі праваднікамі партыйных дырэктыў на вёсцы, змагацца за высокі ўраджай, за ўсямернае развіццё жывёлагадоўлі, за заможнае і культурнае жыццё калгаснікаў.

У рашэнні VIII пленума ЦК ВЛКСМ падкрэслена адказнасць комсамольскіх арганізацый за выхаванне новых кадраў совецкай інтэлігенцыі. Асобая ўвага павінна быць звернута на палепшанне комсамольскай работы ў ВНУ, ВТНУ, тэхнікумах і навукова-даследчых інстытутах, на дапамогу настаўнікам у выхаванні і абучэнні дзяцей. Рашэнне пленума аб увядзенні пасады сакратара па рабоце сярод школьнай моладзі і піонераў паказвае, якая вялікая ўвага ўдзяляецца рабоце школьных комсамольскіх арганізацый.

> «Наша совецкая інтэлігенцыя,—гаворыць таварыш Сталін,—гэта—зусім новая інтэлігенцыя, звязаная ўсімі карэннямі з рабочым класам і сялянствам».

Нашы інтэлігенты—гэта ўчарашнія рабочыя, калгаснікі,—выхадцы з народа. Аб гэтым красамоўна гаворыць прыклад сяла Еўча, Камарынскага раёна. За апошнія годы з сялян гэтага сяла вышла 4 інжынеры, 5 тэхнікаў, 60 старэйшых, сярэдніх і малодшых камандзіраў Чырвонай Арміі, 4 лётчыкі, 2 ваенныя тэхнікі, 30 настаўнікаў, 25 трактарыстаў, 4 урачы, 5 фельчароў і 37 адказных работнікаў партыйнага і совецкага апарата.

Велізарна і ганарова роля совецкай інтэлігенцыі на сяле. Ёй прадастаўлена шырокае поле дзейнасці, неабмежаваныя магчымасці для прылажэння сваіх творчых сіл і здольнасцей.

У вёсцы Віркава, Клічаўскага раёна, працуе 10 чалавек маладой совецкай інтэлігенцыі: настаўнікі, медыцынскія, каапарацыйныя і іншыя работнікі. Яны праводзяць шырокую масавую работу, растлумачваюць калгаснікам рашэнні гістарычнага XVIII з'езда партыі. Але сярод іх саміх амаль ніякай работы не праводзіцца. Комсамольская арганізацыя рэдка збірае маладых інтэлігентаў, не цікавіцца іх культурна-бытавымі і палітычнымі запросамі.

Таварыш Сталін на XVIII з'ездзе ВКП(б) гаварыў, да чаго вядуць такія адносіны да інтэлігенцыі. Таварышы, якія недаацэньваюць ролі совецкай інтэлігенцыі, якія лічаць інтэлігентаў людзьмі «другога сорту», з часам «могуць дакаціцца да ўслаўлення адсталасці, невуцтва, цемры, мракабесся. Яно і зразумела. Тэарэтычныя вывіхі ніколі не вялі і не могуць весці к дабру».

Комсамольскія арганізацыі павінны цясней звязацца з маладой совецкай інтэлігенцыяй, цікавіцца яе інтарэсамі і запатрабаваннямі, вы-

хоўваць у духу любві і адданасці радзіме, у духу непрымірымай нянавісці да ворагаў народа. Неабходна рэгулярна праводзіць для моладзі даклады, лекцыі, кансультацыі па гісторыі партыі, пытаннях міжнародных і ўнутраных падзей, смялей прыцягваць маладых інтэлігентаў да актыўнай комсамольскай работы, вылучаць найбольш здольных і праверапых на кіруючыя пасады дзяржаўнай дзейнасці.

Следуючы ўказанням партыі, пленум прыняў пункт аб правах членаў ВЛКСМ. Кожны комсамолец мае права крытыкаваць на комсамольскіх сходах любога комсамольскага работніка, патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі выносяцца рашэнні аб дзейнасці або паводзінах комсамольца, звяртацца па любому пытанню ў абком, крайком і ЦК ЛКСМ саюзнай рэспублікі, аж да ЦК ВЛКСМ. Правільнае выкананне гэтага пункта пастановы пакладзе канец сваявольству ў вырашэнні лёсу комсамольца, умацуе дысцыпліну, унутрысаюзную дэмакратыю, забяспечыць шырокае разгортванне крытыкі і самакрытыкі.

Трэба пакончыць з практыкай выключэння з членаў ВЛКСМ за малаважныя праступкі. Аб комсамольцу трэба меркаваць перш за ўсё па яго справах, па яго адданасці радзіме, а не «па біялагічных» прызнаках. Вырашаючы пытанне аб прабыванні і выключэнні з радоў ВЛКСМ, комсамольскія арганізацыі абавязаны забяспечыць уважлівы і чулы падыход да кожнага комсамольца.

Адказнейшая задача комсамола—арганізаваць глыбокае вывучэнне рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б) сярод совецкай моладзі. Найлепшы метад прапаганды рашэнняў з'езда—самастойнае вывучэнне іх. Комсамольскі актыў набыў ужо не малы вопыт у гэтай справе за час вывучэння «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», трэба толькі дапамагчы нашай моладзі асвоіць метад самастойнага аўладання рэвалюцыйнай тэорыяй, шырока карыстаючыся лекцыямі, дакладамі, кансультацыямі.

У справе прапаганды рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б) вялікую ролю павінен адыграць комсамольскі друк. Яго пярвейшы абавязак—дапамагчы партыі растлумачыць маладым рабочым, калгаснікам, совецкай інтэлігенцыі і арганізаваць іх на барацьбу за выкананне грандыёзных планаў Трэцяй пяцігодкі, штодзённа дапамагаць комсамольцам у аўладанні большэвізмам, тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Ад комсамольскіх газет моладзь чакае высокакваліфікаваных артыкулаў па пытаннях тэорыі, аб Трэцім пяцігадовым плане, глыбокіх кансультацый, адказаў на пытанні чытачам, шырокага паказу вопыту прапаганды і агітацыі.

Вялікае значэнне набывае масавая агітацыя. Чытка матэрыялаў XVIII з'езда ВКП(б), даклады і гутаркі аб рашэннях з'езда, дыяграмы і картаграмы—усё гэта павінна знайсці сваё месца ў агульнай агітацыйнай рабоце комсамольскіх арганізацый. Сур'ёзную ўвагу трэба звярнуць на правядзенне гутарак і дакладаў аб XVIII з'ездзе ВКП(б) па тэмах, распрацаваных і рэкамендаваных ЦК ВЛКСМ і Аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б.

Магутным сродкам комуністычнага выхавання моладзі павінны стаць радыёвузлы, лекторыі, чырвоныя куткі, кіно, тэатры.

Комсамольскія арганізацыі пад кіраўніцтвам партыйных камітэтаў абавязаны паклапаціцца аб падборы добра падрыхтаваных кадраў агітатараў і чытчыкаў, каб забяспечыць высокі ідэйна-палітычны ўзровень усіх гутарак і дакладаў аб з'ездзе. Трэба смялей прыцягваць да гэтай работы мільённую армію социялістычнай інтэлігенцыі, якая

кроўна звязана з працоўнымі і гарыць жаданнем весці актыўную прапагандысцкую і агітацыйную работу. Партыйныя арганізацыі павінны аказваць у гэтай справе ўсямерную дапамогу комсамолу.

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб прапагандзе ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» узброіла кадры ленінска-сталінскага комсамола выдатным планам арганізацыі прапаганды марксізма-ленінізма.

Гістарычны даклад таварыша Сталіна на XVIII з'ездзе партыі ўзняў на небывалую вышыню справу аўладання марксісцка-ленінскай тэорыяй. Раздзелы даклада—«Партыйная прапаганда. Марксісцка-ленінскае выхаванне членаў партыі і партыйных кадраў» і «Некаторыя пытанні тэорыі» са сталінскай мудрасцю падкрэслілі ўсю важнасць і неабходнасць рэалізацыі лозунга аб аўладанні большэвізмам. Гэты лозунг любімага правадыра стаў жыццёвай справай кожнага комуніста, кожнага комсамольца, кожнага свядомага ўдзельніка будаўніцтва комунізма.

Рашэнні VIII пленума ЦК ВЛКСМ, распрацаваныя на аснове рашэнняў XVIII партз'езда, маюць вялікае значэнне для ўсёй работы комсамола. Яны яшчэ раз указваюць на недахопы ў прапагандысцкай рабоце комсамола.

Па дакладах Ленінградскага абкома і ЦК комсамола Беларусі пленум адзначыў, што многія кіруючыя работнікі яшчэ нават і не прыступалі да глыбокага вывучэння гісторыі партыі. Не ўсе кіруючыя комсамольскія работнікі зразумелі ўказанні партыі і ЦК ВЛКСМ аб тым, што глыбокае вывучэнне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» у першую чаргу неабходна самім кіруючым кадрам. Чаго варты такі кіраўнік, які на ўсіх сходах выступае з «бліскучымі» прамовамі аб неабходнасці авалодання большэвізмам, а сам над сабой не працуе.

Узор спалучэння практычнай работы з тэарэтычнай паказвае сакратар Жыткавіцкага райкома комсамола тав. Цукраў. Як кансультант райкома партыі, ён чытае лекцыі, удзельнічае ў тэарэтычных канферэнцыях і дае комсамольцам бліскучы прыклад таго, як знаходзіць час для самастойнай вучобы, як спалучаць дзяржаўныя справы з упартай работай над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню. Лекцыі і кансультацыі тав. Цукрава з вялікім інтарэсам наведваюць радавыя комсамольцы, раяцца з ім і атрымліваюць каштоўныя ўказанні.

Трэба зразумець, што без марксісцка-ленінскай адукацыі, без ведання законаў грамадскага развіцця, без глыбокага разумення генеральнай лініі нашага гістарычнага шляху нельга зрабіцца сапраўдным большэвіком, які вядзе за сабою масы.

Комсамольскія арганізацыі павінны рашуча палепшыць прапагандысцкую работу і ўсямерна павысіць ідэйна-палітычны ўзровень комсамольскай і совецкай моладзі. Толькі тады мы будзем мець «усе падставы лічыць дзевяць дзесятых усіх нашых пытанняў ужо вырашанымі» **(Сталін).**

Аддзел агітацыі і прапаганды ЦК ЛКСМБ правёў абласныя нарады, якія паказалі, што добрых вынікаў у прапагандысцкай рабоце дабіліся тыя комсамольскія арганізацыі, якія ўсебакова азнаёмілі комсамольцаў з пастановай ЦК ВКП(б) і ЦК ВЛКСМ.

У комсамольскай арганізацыі чыгуначнага вузла станцыі Асіпавічы 422 чалавекі, з іх 344 вывучаюць гісторыю партыі самастойна. Рэгулярна працуюць тры гурткі па гісторыі ВКП(б) і палітграмаце. За-

няткі праходзяць цікава і жыва. Слухачы задаволены работай гурткоў. Для комсамольцаў за апошнія тры месяцы прачытана 11 лекцый па гісторыі партыі і народаў СССР.

Сакратар калгаснай комсамольскай арганізацыі тав. Мартыновіч (Чашнікі) сам грунтоўна вывучае гісторыю ВКП(б), і ўсе комсамольцы ўжо вывучылі тры раздзелы падручніка.

Комсамолец Сумараў (Камарын) вывучае 5 раздзел. Ён прачытаў ленінскія работы «Што рабіць?», «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў», рэгулярна наведвае лекцыі, консультацыі, вядзе конспект, робіць выразкі з газет і т. п.

Ёсць рад комсамольскіх арганізацый, дзе пры вывучэнні рашэнняў ЦК ВЛКСМ дапушчаны сур'ёзныя памылкі. У калгасе «XVI партз'езд» (Глускі раён) на комсамольскім сходзе была вынесена пастанова: «Усім комсамольцам пераключыцца на вывучэнне гісторыі ВКП(б). Да 23 сакавіка вывучыць абавязкова ўсім першы і другі раздзелы «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Між тым у гэтай арганізацыі ёсць комсамольцы з асветай за 4—5 класаў.

У Лагойскім раёне комсамольцаў калгаснай школы арыентавалі на тое, каб самастойна вывучыць гісторыю ВКП(б), хоць многія з іх маюць асвету толькі за 2—3 класы і ніжэй.

У гэтых арганізацыях, відаць, забыліся або не зразумелі, што «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» разлічан перш за ўсё на кіруючы актыў, на совецкую інтэлігенцыю, г. зн. на людзей, якія могуць самастойна вывучаць гэтую выдатную працу марксізма-ленінізма.

Некаторыя комсамольскія работнікі не разумеюць, што асноўным метадам набыцця ведаў з'яўляецца крапатлівая, прасякнутая сапраўды рэволюцыйнай страсцю самастойная вучоба. Калі да рашэння ЦК ВКП(б) аб прапагандзе яны імкнуліся «ахапіць» усіх комсамольцаў гурткамі, то зараз імкнуцца або зусім ліквідаваць гурткавыя заняткі, нават там, дзе яны патрэбны, або ахапіць усіх тэарэтычнымі канферэнцыямі. Тэарэтычныя канферэнцыі толькі тады прыносяць карысць, калі яны забяспечаны добрымі кіраўнікамі, падрыхтаванай аудыторыяй і стаяць на высокім ідэйным узроўні.

Нашы комсамольскія газеты часта абмяжоўваюцца перадрукоўваннем тэарэтычных артыкулаў з цэнтральных газет і журналаў, зусім не клапоцячыся аб вырошчванні мясцовых кадраў, аб прыцягненні да работы кваліфікаваных прапагандыстаў, аб абагуленні вопыту лепшых арганізацый у справе прапаганды і самастойнай вучобы комсамольцаў.

Баявая задача комсамольскіх газет—сістэматычна асвятляць лепшы вопыт работы, наладзіць самую цесную сувязь з шырокімі масамі комсамольцаў і несаюзнай моладзі, памятаючы аб тым, што паспяхова справіцца з новымі задачамі газета зможа толькі тады, калі яна цесна звязана з масамі, калі з яе старонак гаворыць сама моладзь, комсамольцы.

Усю сваю арганізацыйную прапагандысцкую і агітацыйную работу комсамольскі друк павінен паставіць такім чынам, каб сапраўды пабольшэвіцку выхоўваць маладое пакаленне ў духу рэволюцыйнага марксізма-ленінізма, у духу беззаветнай адданасці партыі і радзіме, у духу глыбокай любві да нашага настаўніка, бацькі і друга—таварыша Сталіна.

У пастанове ЦК ВКП(б) аб арганізацыі прапаганды ўказана, што ва ўсіх комсамольскіх газетах ствараюцца аддзелы агітацыі і прапа-

ганды, каб «ліквідаваць недаацэнку значэння друку як важнейшай зброі марксізма-ленінізма і ўсесаюзнай трыбуны прапаганды». Таму першачарговая задача ўсіх комсамольскіх арганізацый—забяспечыць высокакваліфікаванымі работнікамі як свой апарат, так і аддзелы прапаганды і агітацыі комсамольскіх газет.

На III з'ездзе комсамола Ленін гаварыў комсамольцам: «Вы павінны быць першымі будаўнікамі комуністычнага грамадства сярод мільёнаў будаўнікоў, якімі павінны быць усякі малады чалавек, усякая маладая дзяўчына» *). Гэтаму завету вялікага настаўніка совецкая моладзь следавала на ўсім сваім гераічным шляху.

І няма сумнення, што комсамол, які ўпісаў гераічныя старонкі ў гісторыю першых двух пяцігодак, пакажа новыя слаўныя справы і ў Трэцяй сталінскай пяцігодцы. Няма сумнення, што комсамол пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна аддасць усе сілы, каб і трэці пяцігадовы план быў выканан і перавыканан, каб Совецкая краіна пераможна завяршыла гістарычны пераход ад соцыялізма да комунізма.

---

*) Ленін, т. XXX, стар. 409.

А. Рабчынскі

# Роля і задачы совецкай інтэлігенцыі ў святле рашэнняў XVIII з'езда партыі

Наша вялікая социялістычная радзіма ўступіла ў новую паласу свайго гістарычнага развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага социялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад социялізма да комунізма. Вякамі вынашваемая чалавецтвам мара аб будучым грамадстве без прыгнятальнікаў і прыгнечаных стала сапраўднасцю на адной шостай зямнога шара.

Гістарычнае значэнне рашэнняў XVIII з'езда большэвіцкай партыі заключаецца ў тым, што ён падвёў велічныя вынікі дасягненняў і перамог народаў СССР і распрацаваў умовы і праграму далейшага паступальнага руху да комунізма.

Для таго, каб смела і ўпэўнена ісці далей, уперад да новых перамог, трэба было глыбока прааналізаваць значэнне дасягнутых поспехаў, па-ленінску абагуліць каласальны вопыт праробленай работы, намеціць шляхі далейшага руху, стварыць план далейшай барацьбы. Гэта гіганцкая творчая задача была вырашана ў геніяльным дакладзе найвялікшага чалавека сучаснасці—таварыша Сталіна.

У дакладзе правадыра сусветнага пролетарыята ўвасобілася ўся мудрасць партыі, увесь палітычны вопыт рабочага класа; у ім сканцэнтраваліся самыя глыбокія тэарэтычныя, арганізацыйныя і гаспадарчыя пытанні, якія паўстаюць перад працоўнымі совецкай краіны ў новай паласе развіцця; у ім раскрыліся ўсе рухаючыя сілы гістарычнага працэса, вызначаны задачы далейшай барацьбы, шляхі і перспектывы далейшага развіцця, роля і месца ў гэтым развіцці кожнага атрада будаўнікоў социялізма; у ім з асаблівай сілай і яснасцю раскрылася значэнне совецкай социялістычнай дзяржавы, пастаяннага ўмацавання яго магутнасці; у ім з геніяльнай глыбінёй развіта новая тэорыя аб социялістычнай інтэлігенцыі.

Таварыш Сталін, падводзячы вынікі ўздыму матэрыяльнага і культурнага становішча працоўных, гаварыў:

> «З пункту гледжання культурнага развіцця народа справаздачны перыяд быў сапраўды перыядам культурнай рэволюцыі. Укараненне ў жыццё ўсеагульна-абавязковай першапачатковай асветы на мовах нацыянальнасцей СССР, рост колькасці школ і навучаючыхся ўсіх ступеней, рост колькасці выпускаемых вышэйшымі школамі спецыялістаў, стварэнне і ўмацаванне новай, совецкай інтэлігенцыі,—такая агульная карціна культурнага ўздыму народа...
>
> У рэзультаце ўсёй гэтай велізарнай культурнай работы нарадзілася і склалася ў нас шматлікая новая, совецкая інтэлігенцыя, якая вышла з радоў рабочага класа, сялянства, совецкіх

служачых, плоць ад плоці і кроў ад крыві нашага народа,— інтэлігенцыя, якая не ведае ярма эксплуатацыі, ненавідзіць эксплуатататараў і гатова служыць народам СССР верай і праўдай».

Наша совецкая інтэлігенцыя з'яўляецца соллю совецкай зямлі. Бурны працэс яе росту падрыхтован партыяй большэвікоў. Таварыш Сталін асабіста і нястомна клапоціцца аб вырошчванні новай, совецкай інтэлігенцыі. Совецкая інтэлігенцыя—гэта нашы кіруючыя партыйныя, совецкія і гаспадарчыя кадры, камандзіры Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, людзі навукі і тэхнікі, літаратуры, мастацтва, перадавікі-стаханаўцы нашай прамысловасці і соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, работнікі народнай асветы, вялікая армія совецкіх служачых. У асобе такога важнейшага атрада совецкай інтэлігенцыі, як работнікі нашага дзяржаўнага апарата, совецкі народ кіруе нашай краінай, штодзённа ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку совецкай дзяржавы.

Совецкі Саюз гранітным уцёсам узвышаецца сярод капіталістычных краін, ахопленых глыбокім эканамічным крызісам, жахлівым беспрацоўем, галечай і разарэннем народных мас. Над капіталістычным светам палыхае зарава другой імперыялістычнай вайны, у якой гінуць сотні тысяч працоўных, дзесяткі мільёнаў застаюцца без жылля і харчу. Фашысцкія варвары знішчаюць дзяржавы, здзекваюцца над цэлымі народамі, ператвараюць у прах велізарнейшыя каштоўнасці чалавечай культуры.

І толькі краіна соцыялізма, абаграваемая сталінскім сонцам, натхняемая сталінскім геніем і мудрасцю, упэўнена і няўхільна ідзе ўперад, дабіваючыся ўсё новых поспехаў і новых перамог.

Совецкі народ пажынае плады вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, плады соцыялізма. Яны ярка выражаны ў абвешчаных таварышом Сталіным лічбах аб уздыме матэрыяльнага добрабыту народных мас, у лічбах і фактах культурнага ўздыму совецкага народа. Ажыццёўлена ўсеагульна-абавязковая першапачатковая асвета на мовах нацыянальнасцей СССР. У 1938—39 годзе ў школах усіх ступеней навучаецца каля 34 мільёнаў чалавек. Калі-ж улічыць усе віды асветы, то колькасць навучаючыхся складзе каля 47,5 мільёна чалавек. За гэты перыяд пабудавана 20.607 новых школ. Вышэйшыя навучальныя ўстановы выпусцілі 476.600 маладых спецыялістаў (акрамя ваенных).

У 1937—38 гг. у вышэйшых навучальных установах СССР навучалася 550 тыс. чалавек, тады як у 23-х еўрапейскіх краінах з насельніцтвам больш 350 мільёнаў навучалася ў ВНУ каля 540 тысяч.

Кантынгент навучаючыхся, у параўнанні з 1914—1915 гг., скараціўся ва Францыі да 97,9 проц., у Англіі—да 86,6 проц., у Германіі—да 87 проц. Колькасць навучаючыхся ў ВНУ ў 1936—37 г. у Германіі скарацілася амаль удвая ў параўнанні з 1931—32 гг.

Удары крызіса ў капіталістычных краінах абрушваюцца і на інтэлігенцыю. Яна не знаходзіць прымянення для сваёй разумовай працы. Інжынеры, тэхнікі, паэты, кампазітары—людзі з вышэйшай адукацыяй вымушаны наймацца ў дворнікі, афіцыянты, гандляваць папяросамі, газетамі, абы толькі не памерці з голаду.

Усё гэта сведчыць аб рэзкім заняпадзе навукі ў так званых «дэмакратычных» краінах капіталістычнага свету, аб поўным разгроме яе і замене ілжэнавукай у краінах фашызма.

Толькі ў Савецкім Саюзе навуцы забяспечан велізарны росквіт і бязмежнае развіццё, бо шлях ёй ярка асвятляе рэвалюцыйная тэорыя марксізма-ленінізма.

СССР мае 2.265 навукова-даследчых устаноў, 700 вышэйшых школ. Толькі ў сістэме Акадэміі Навук працуе 4.100 навуковых супрацоўнікаў. Колькасць сапраўдных членаў Акадэміі Навук за годы савецкай улады падвоілася. На выбарах у члены Акадэміі Навук у бягучым годзе было вылучана 248 кандыдатаў у сапраўдныя члены і 542 у члены-карэспандэнты. За апошнія пяць год колькасць асоб, якія атрымліваюць сярэднюю асвету, узрасла на 220 проц., колькасць асоб, якія атрымліваюць вышэйшую адукацыю, узрасла на 131 проц. Створана свая, савецкая інтэлігенцыя, якая служыць народу і з'яўляецца актыўным удзельнікам будаўніцтва соцыялістычнага грамадства.

Магутны росквіт нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры народаў СССР з'яўляецца яркім выражэннем трыумфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, прыкладам чаго можа служыць наша Беларуская ССР.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь прадстаўляла забітую, нацыянальна прыгнечаную, цёмную краіну з адсталай сельскагаспадарчай тэхнікай і жабрацкімі ўраджаямі, з дробнай, галоўным чынам саматужнай, прамысловасцю і нізкай заработнай платай. Беларусь не мела ні адной вышэйшай навучальнай установы, ніводнага беларускага тэатра. Затое было пяць тысяч манаполек, тры тысячы цэркваў, 113 касцёлаў, 704 сінагогі.

Беларусы не мелі права на беларускую культуру. Ды і не да культуры было. Вясной зазвычай не было ўжо хлеба, і цэлыя вёскі харчаваліся мякінай, варылі мох, кару, лебяду і т. п. Ад той пары дзе-ні-дзе яшчэ захаваліся назвы вёсак: Махаеды, Караеды, Балацянікі, Саламянікі і т. п.

Пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі расцвіла Савецкая Беларусь.

Калгаснікі і калгасніцы авалодваюць навукай і тэхнікай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. За годы савецкай улады выхаваны выдатныя кадры сельскай інтэлігенцыі. Савецкая Беларусь мае Акадэмію Навук, 1.263 навуковых работнікаў, звыш тысячы аграномаў, 600 заатэхнікаў, 200 ветурачоў.

Побач са старэйшым пакаленнем мастакоў слова—Янкам Купалай, Якубам Коласам—беларуская літаратура прадстаўлена такімі імёнамі, як З. Бядуля, М. Лынькоў, К. Крапіва. Узнялася і расце цэлая плеяда маладых таленавітых пісьменнікаў: П. Броўка, П. Глебка, І. Шапавалаў, А. Куляшоў, Э. Агняцвет і інш. БССР мае 14 драматычных тэатраў, тэатр оперы і балета, філармонію, кансерваторыю. Выраслі такія мастакі сцэны, як народная артыстка рэспублікі тав. Александроўская, Владзімірскі, артысты Балоцін, Дзенісаў, Алексееў, Млодэк і інш.

За годы другой сталінскай пяцігодкі ў БССР, як і па ўсяму Савецкаму Саюзу, адбылася сапраўдная культурная рэвалюцыя. Закончана ўсеагульнае пачатковае навучанне. Колькасць навучаючыхся ў 5—7 класах падвоілася, а ў 8—10 класах павялічылася больш чым у 49 раз.

У рэспубліцы звыш 7.000 школ, дзе навучаецца больш мільёна дзяцей. У 41 навукова-даследчым інстытуце працуе каля 2.000 навуковых работнікаў. Студэнтаў у БССР у 75 раз больш, чым

у 1913 годзе. Толькі за апошнія годы з вышэйшых навучальных устаноў БССР выпушчана звыш 9.000 спецыялістаў розных кваліфікацый.

У 1939 годзе на народную асвету асігнавана звыш 400 мільёнаў рублёў. За дзве сталінскія пяцігодкі асігнаванні на народную асвету ў БССР павялічыліся ў 16 раз. У рэспубліцы звыш 35 тысяч настаўнікаў, тысячы ўрачоў і аграномаў, інжынераў і тэхнікаў, пісьменнікаў і паэтаў, мастакоў і скульптараў, артыстаў і музыкантаў. Гэта—новая савецкая соцыялістычная інтэлігенцыя, адданая інтарэсам народа, комуністычным ідэалам.

Поспехі культурнага будаўніцтва ў БССР становяцца асабліва выразнымі, калі прыглядзецца да таго, што адбываецца ў капіталістычных краінах, у прыватнасці ў панскай Польшчы. Выдаткі на ўтрыманне школ у Польшчы склалі ў 1937—38 годзе 72,5 працанта ў параўнанні з 1929—30 годам, а выдаткі на школьнае будаўніцтва—усяго 6,3 працанта. Яшчэ больш катастрафічна становішча ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. У Палескім ваяводстве непісьменных мужчын—31,1 працанта, жанчын—64,2 працанта. У Валынскім ваяводстве непісьменных мужчын—32,7 працанта, жанчын—62,4 працанта.

Савецкі Саюз—краіна перамогшага соцыялізма—з'яўляецца яркім прыкладам таго, што толькі пасля перамогі соцыялістычнай рэвалюцыі, пасля звяржэння эксплаататарскіх класаў пачынаецца сапраўдны росквіт навукі і культуры. Савецкі Саюз—гэта краіна, дзе народ, кіруемы такой партыяй, як партыя Леніна—Сталіна, узяў свой лёс ва ўласныя рукі і стварыў нябачаныя ў гісторыі чалавецтва ўмовы для ўсебаковага, неабмежаванага, самага шырокага развіцця навукі і магутнага ўздыму соцыялістычнай культуры.

Савецкі народ любіць і цэніць сваю інтэлігенцыю. Вучоныя, пісьменнікі, урачы, інжынеры, аграномы, артысты, мастакі—усе прадстаўнікі соцыялістычнай інтэлігенцыі карыстаюцца велізарнай пашанай і ўвагай савецкага народа. Многа акадэмікаў, прафесараў, мастакоў, пісьменнікаў, настаўнікаў, артыстаў, урачоў і іншых прадстаўнікоў навукі і культуры працоўныя паслалі сваімі дэпутатамі ў Вярхоўныя Советы СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік. Многія з іх узнагароджаны ордэнамі Саюза ССР. Першую Сесію нашага соцыялістычнага парламента—Вярхоўнага Совета СССР—адкрыў дэпутат—акадэмік Бах. Першую Сесію Вярхоўнага Совета БССР адкрыў дэпутат—прафесар Мелкіх.

Наша новая, савецкая соцыялістычная інтэлігенцыя—гэта армія ў 10 мільёнаў чалавек—выкавана і выпеставана вялікай партыяй Леніна—Сталіна. У краіне, якая пераможна ідзе да вяршынь комунізма, інтэлігенцыя заняла пачэснае месца.

Велізарную ролю адыгрывае інтэлігенцыя ў краіне соцыялізма. Таварыш Сталін неаднаразова ўказваў што ні адна дзяржава не магла і не можа абыйсціся без сваёй інтэлігенцыі, тым больш не можа абыйсціся без сваёй інтэлігенцыі соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян. Пад кіраўніцтвам бальшэвіцкай партыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, у краіне перамогшага соцыялізма створана свая, савецкая інтэлігенцыя, усімі сваімі карэннямі звязаная з рабочым класам і сялянствам, інтэлігенцыя, падобнай якой няма ні ў адной краіне свету.

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін даў найглыбейшы аналіз шляху, пройдзенага старой буржуазнай інтэлігенцыяй, і шляху, на

якім новая, народная інтэлігенцыя атрымлівала свае бліскучыя перамогі. Таварыш Сталін даў вычарпальную характарыстыку інтэлігенцыі, якую стваралі і ствараюць маёмныя класы па свайму вобразу і падабенству.

Інтэлігенцыя ў капіталістычных краінах складалася і складаецца з людзей маёмных класаў, выходзіць з іх нетраў, сваімі карэннямі звязана з маёмнымі класамі, служыла і служыць ім. Работа інтэлігенцыі ва ўмовах капіталізма,—пісаў Горкі,—«заўсёды зводзілася—галоўным чынам—да справы ўпрыгожання быцця буржуазіі, да справы ўцехі багатых у пошлых горасцях іх жыцця. Нянька капіталістаў—інтэлігенцыя, у большасці сваёй, займалася тым, што старанна штопала белымі ніткамі даўно зношанае, брудняватае, багата забруджанае крывёю працоўнага народа філасофскае і царкоўнае аблачэнне буржуазіі». Гэта інтэлігенцыя заражана ўсімі парокамі буржуазна-капіталістычнага грамадства. Таму зразумела тое недавер'е, якое пераходзіла нярэдка ў нянавісць, што адчувалі рэволюцыйныя элементы нашай краіны да буржуазнай інтэлігенцыі старой Расіі.

У першыя-ж дні пасля Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі старая, дарэволюцыйная інтэлігенцыя раскалолася. Найбольш кваліфікаваная і ўплывовая яе частка стала на шлях адкрытай барацьбы з Совецкаю ўладай змагалася супроць народа, імкнулася сабатажам падарваць знутры маладую Совецкую рэспубліку. Сустрэўшы жорсткі адпор ад пролетарскай дыктатуры, гэта частка інтэлігенцыі перамяніла сваю тактыку. Ад адкрытай барацьбы супроць совецкай улады, ад адкрытага сабатажу яна перайшла да контррэволюцыйнага шкодніцтва, шпіянажу, дыверсій, наняўшыся на службу ў замежных разведках. Але ў канчатковым выніку яна была разбіта, рассеяна Совецкаю ўладай, караючым мечам пролетарскай дыктатуры.

Другая частка старой інтэлігенцыі доўга тапталася на адным месцы, а потым рашыла пайсці ў службісты, ужыцца з Совецкаю ўладай. У большасці сваёй гэта частка інтэлігенцыі паспела састарыцца і пачынае выходзіць са строю.

І, урэшце, трэцяя частка старой інтэлігенцыі, у большасці радавая яе частка, менш кваліфікаваная, далучылася да народа і пайшла за Совецкаю ўладай. Гэтай частцы старой інтэлігенцыі прышлося давучвацца ў нашых ВНУ.

Такі канец старой інтэлігенцыі. Гэта быў мучыцельны працэс дыферэнцыяцыі і разлому. Побач з гэтым працэсам ішоў бурны працэс фарміравання, мабілізацыі і збірання сіл новай інтэлігенцыі, якая выйшла з радоў працоўных. У выніку створана новая, совецкая інтэлігенцыя, якая цесна звязана з народам і ў масе сваёй служыць яму верай і праўдай.

Тав. Сталін у сваім дакладзе XVIII з'езду ВКП(б) гаварыў:

«У выніку мы маем цяпер шматлікую, новую, народную, соцыялістычную інтэлігенцыю, якая ў корані адрозніваецца ад старой, буржуазнай інтэлігенцыі як па свайму саставу, так і па свайму соцыяльна-палітычнаму абліччу».

Тав. Молатаў у сваёй прамове на Надзвычайным VIII з'ездзе советаў гаварыў:

«Перада мной выступаў усім вядомы пісьменнік А. Н. Талстой. Хто не ведае, што гэта былы граф Талстой. А цяпер? Адзін з лепшых і адзін з самых папулярных пісьменнікаў зямлі совецкай—таварыш Алексей Нікалаевіч Талстой».

Сталінскі Цэнтральны Камітэт нашай партыі, вялікі Сталін неаднакроць указвалі на тое, што трэба бачыць карэнную розніцу паміж старой і новай інтэлігенцыяй. Яны ўказвалі на недапушчальнасць перанясення старой тэорыі аб інтэлігенцыі на новую інтэлігенцыю, на недапушчальнасць падыходу да новай інтэлігенцыі са старою меркай.

У рашэнні «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», выпрацаваным пры асабістым удзеле таварыша Сталіна, ЦК ВКП(б) канстатаваў:

«Не гледзячы на такую важную ролю інтэлігенцыі ў савецкай дзяржаве, да сучаснага моманту яшчэ не пераможаны пагардлівыя адносіны да нашай інтэлігенцыі, прадстаўляючыя з сябе вельмі шкоднае перанясенне на нашу савецкую інтэлігенцыю тых поглядаў і адносін да інтэлігенцыі, якія былі распаўсюджаны ў дарэвалюцыйны перыяд, калі інтэлігенцыя знаходзілася на службе ў памешчыкаў і капіталістаў».

Аб гэтым таварыш Сталін яшчэ раз напомніў у сваім гістарычным дакладзе на XVIII з'ездзе партыі. Ён указаў на гібельнасць такога тэарэтычнага вывіху, бо нельга пераносіць на новую, савецкую соцыялістычную інтэлігенцыю тыя пачуцці законнага недавер'я, якія рабочы клас адчуваў да старой, буржуазнай інтэлігенцыі. Людзі, якія чапляюцца за гэтыя старыя тэорыі, за гэтыя старыя адносіны, за гэтыя старыя погляды на інтэлігенцыю, рыскуюць дакаціцца да ўслаўлення адсталасці, невуцтва, цемры і мракабесся.

Для нашай савецкай інтэлігенцыі старыя тэорыі, старыя меркі непрымянімы. Адносіны да нашай інтэлігенцыі базіруюцца на дружаственным супрацоўніцтве рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі. Наша партыя, асабіста таварыш Сталін нястомна клапоцяцца аб вырошчванні новай савецкай інтэлігенцыі, аб уздыме ідэйна-палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню савецкай інтэлігенцыі да ўзроўню грандыёзных задач будаўніцтва комуністычнага грамадства.

* * *

Ва ўвесь рост перад намі пастаўлена грандыёзная задача—перагнаць у бліжэйшыя 10—15 год галоўныя капіталістычныя краіны ў эканамічных адносінах. Гэта задача з усёй чоткасцю і ва ўсім аб'ёме пастаўлена ў дакладзе таварыша Сталіна на XVIII з'ездзе партыі.

Задача перагнаць галоўныя капіталістычныя краіны ў эканамічных адносінах і шляхі да яе ажыццяўлення канкрэтна акрэслены ў дакладзе тав. Молатава аб трэцім пяцігадовым плане і ў рашэннях XVIII з'езда ВКП(б):

«Цяпер, калі СССР склаўся як соцыялістычная дзяржава, закончыў у асноўным тэхнічную рэканструкцыю народнай гаспадаркі і па ўзроўню тэхнікі вытворчасці ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы стаіць уперадзе любой капіталістычнай краіны Еўропы,—цяпер мы можам і павінны ва ўвесь рост практычна паставіць і ажыццявіць вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР: **дагнаць і перагнаць таксама ў эканамічных адносінах найбольш развітыя капіталістычныя краіны Еўропы і Злучаныя Штаты Амерыкі,** канчаткова вырашыць гэту задачу на працягу бліжэйшага перыяда часу». (З рэзалюцыі XVIII з'езда ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане).

Такая асноўная і цэнтральная эканамічная задача нашай краіны на бліжэйшы перыяд часу. Практычна гэта азначае, што мы павінны на працягу бліжэйшых 10—15 год узняць прадукцыйныя сілы нашай краіны на такі ўзровень, калі наша прамысловасць і наша сельская гаспадарка будуць даваць на душу насельніцтва прадметаў прамысловай вытворчасці і прадуктаў харчавання больш, чым у любой капіталістычнай краіне.

Ці ёсць у нас гэтыя даныя? Безумоўна ёсць!

Совецкі народ поўны нястрымным жаданнем і гатоўнасцю пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна змагацца за ажыццяўленне грандыёзных задач трэцяй пяцігодкі. Яркім выражэннем гэтага жадання, гэтай гатоўнасці з'яўляецца выключнае маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, яго несакрушальная згуртаванасць вакол пераможнага сцягу комунізма, вакол большэвіцкай партыі, вакол вялікага, мудрага Сталіна.

Гэта задача пасільна нам таму, што партыя стварыла і выпеставала кадры совецкай інтэлігенцыі, беззаветна адданай справе комунізма, здольнай рухаць уперад тэхніку вытворчасці. Гэта задача пасільна нам таму, што партыя, вялікі Сталін выпеставалі магутны стаханаўскі рух, які ўзнімае на небывалую вышыню прадукцыйнасць працы.

Ключ да вырашэння нашай асноўнай эканамічнай задачы—у далейшым значным росце тэхнічнага ўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі, у дасягненні высокай, вартай соцыялістычнага грамадства прадукцыйнасці працы, недасягаемай для краін капіталізма. Усё гэта патрабуе ўсямернага разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху, няўхільнага ўмацавання працоўнай дысцыпліны, павышэння якасці гаспадарчага кіраўніцтва, усямернага развязвання мясцовай ініцыятывы, выкарыстання незлічоных прыродных багаццяў усіх рэспублік, абласцей і раёнаў нашай вялікай радзімы. Баявая задача работнікаў Наркаммясцпрома, промкааперацыі і навукова-даследчых работнікаў БССР—з усёй энергіяй і ініцыятывай узяцца за вышуканне і распрацоўку новых відаў мясцовай сыравіны, каб хутчэй рушыць мясцовую прамысловасць.

Перад нашай совецкай, народнай інтэлігенцыяй у трэцяй пяцігодцы паўстае рад буйных задач, захапляючых праблем, над якімі яна павінна слаўна папрацаваць. Амаль удвая павялічваецца аб'ём прадукцыі прамысловасці. Спажыванне працоўных узрастае больш чым у паўтара раза. Наша тэхніка атрымае далейшы магутны размах. Усямернае развіццё машынабудаўніцтва, вугальнай і нафтавай прамысловасці. Шырокае разгортванне газіфікацыі ўсіх відаў паліва і падземнай газіфікацыі вугаляў. Стварэнне прамысловасці штучнага вадкага паліва. Магутны ўздым электраэнергетычнай гаспадаркі. Ператварэнне хімічнай прамысловасці ў адну з вядучых галін: трэцяя пяцігодка—пяцігодка хіміі. Развіццё вытворчасці спецыяльных сталей: трэцяя пяцігодка—пяцігодка спецыяльных сталей. Пашырэнне вытворчасці каляровых металаў. Стварэнне «Другога Баку». Будаўніцтва Куйбышэўскага гідравузла. Над усім гэтым нашым вучоным і вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі трэба папрацаваць і папрацаваць на-славу.

«Нашай інтэлігенцыі,—сказаў тав. Молатаў на XVIII з'ездзе ВКП(б),—належыць у гэтай гістарычнай справе выключна адказнае месца. Людзі культуры, людзі тэхнікі і навукі, старая

і новая інтэлігенцыя, наша студэнцтва і папаўняемыя моладдзю кадры кваліфікаваных рабочых—усе патрэбны совецкаму народу, каб справіцца з новымі вялікімі задачамі, каб ажыццявіць пастаўленую на чаргу асноўную эканамічную задачу, каб пабеданосна выканаць трэці пяцігадовы план».

Свяшчэнны абавязак нашай совецкай інтэлігенцыі—узорна арганізаваць працу на соцыялістычных прадпрыемствах, ва ўстановах, у калгасах, а таксама ў навучальных установах. Прадукцыйнасць працы самой інтэлігенцыі павінна быць вартай будуючагася комуністычнага грамадства.

У рашэннях XVIII з'езда партыі зусім канкрэтна намечаны мерапрыемствы па ажыццяўленню адной з гістарычных задач—падняць культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа СССР да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы. Гэта—велізарны крок уперад па шляху сцірання граней і канчатковай ліквідацыі розніцы паміж разумовай і фізічнай працай.

Ва ўсім сваім аб'ёме паўстае перад намі і задача комуністычнага выхавання насельніцтва, выхавання ў кожным работніку пачуцця адказнасці і любві да даручанай справы, соцыялістычных адносін да працы, свядомых адносін да сваіх абавязкаў. Мы ўступілі ў новую паласу развіцця нашай радзімы, у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, у паласу, калі рашаючае значэнне набывае справа комуністычнага выхавання працоўных, перамога перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—будаўнікоў комунізма.

У святле ўсіх гэтых гіганцкіх задач, у святле гістарычных рашэнняў XVIII з'езда партыі на велізарную вышыню ўзнімаецца роля совецкай інтэлігенцыі.

«У цяперашніх умовах, калі ў СССР безраздзельна пануюць соцыялістычныя формы гаспадаркі, соцыялістычная ўласнасць, соцыялістычная арганізацыя працы, калі рашаючае значэнне для поспеху нашай справы набывае комуністычная свядомасць у рабоце на карысць нашай дзяржавы, народа і ўсіх працоўных,—гіганцкі ўзнімаецца роля совецкай інтэлігенцыі, якая ўмее па-большэвіцку працаваць, па-большэвіцку змагацца за ўздым культурнасці і комуністычнай свядомасці працоўных. Цяпер, пасля канчатковага ўмацавання палітычных і эканамічных пазіцый соцыялістычнага грамадства ў СССР, рашаюць справу кадры, якія асвоілі тэхніку вытворчасці, рашаюць справу совецкія культурныя сілы, якія ўзначальваюць масы працоўных у іх вялікай барацьбе за поўную перамогу комунізма». (З рэзалюцыі XVIII з'езда ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане).

Совецкі народ з поўнай упэўненасцю глядзіць у будучыню. Совецкі народ ні на мінуту не сумняваецца, што грандыёзная праграма работ трэцяй сталінскай пяцігодкі будзе цалкам выканана, бо будаўніцтвам комуністычнага грамадства кіруе магутная, непераможная партыя Леніна—Сталіна, выкаваная і выхаваная геніяльнымі правадырамі працоўнага чалавецтва—Леніным і Сталіным.

Даклад тав. Жданава і рашэнні XVIII з'езда партыі аб зменах у Статуце ВКП(б) адточваюць усеперамагаючую зброю нашай партыі, яшчэ больш умацоўваюць яе сувязі з найшырэйшымі масамі совецкага народа, робяць яе яшчэ больш боездольнай, яшчэ больш магутнай і непераможнай.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе на XVIII з'ездзе партыі даў выключнай глыбіні аналіз цяперашняга міжнароднага становішча, з едкім сарказмам і знішчаючай іроніяй высмеяў фашысцкіх казявак, якія кваляцца на нашу радзіму, цалкам раскрыў грабежніцкія планы фашысцкіх захватчыкаў і труслівую здрадніцкую палітыку так званых буржуазна-дэмакратычных краін.

Падзеі апошніх дзён у Цэнтральнай Еўропе поўнасцю пацвярджаюць гэты аналіз. Полымя другой імперыялістычнай вайны з кожным днём перакідваецца на ўсё новыя ўчасткі. Імперыялістычныя драпежнікі прабуюць уцягнуць у гэту грабежніцкую бойню Савецкі Саюз, справакаваць нас на вайну. Але мудрая сталінская палітыка савецкага ўрада заўсёды зрывала і будзе зрываць захватніцкія планы фашысцкіх агрэсараў і іх пасобнікаў. Для тых, хто марыць пажывіцца за кошт нашай соцыялістычнай радзімы, у нас заўсёды знойдзецца дастатковая колькасць «смірыцельных рубах». Савецкі Саюз заўсёды вёў і будзе ў далейшым весці няўхільную палітыку міру, добрасуседскіх, дружаственных адносін з усімі краінамі.

Гэта мірная палітыка савецкага ўрада грунтуецца на яго несакрушымай магутнасці, на здольнасці Савецкага Саюза даць знішчаючы адпор ворагу, адкуль-бы ён ні з'явіўся.

Наш інтэлігент—не чэхаўскі «чалавек у футляры», не замкнуты індывідуаліст. Інтэлігенцыя нашай краіны служыць народу, і гэта ўзбройвае яе ўсведамленнем сваёй сілы. Савецкая інтэлігенцыя характарызуецца патрыятызмам, высока развітым пачуццем грамадскага доўгу, творчымі шуканнямі і гераізмам. Лейтэнанты Машляк, Хрысталюбаў, маёр Салёных, урач Дземідаў і многія слаўныя героі Хасана выражаюць рысы савецкай інтэлігенцыі. Усяму свету вядомы прыклады гераічнага служэння народу, якія паказалі папанінцы, гераіні-лётчыцы Грызадубава, Осіпенка, Раскова, перадавікі вытворчасці Стаханаў, Крыванос, Сметанін і інш.

У сваёй выдатнай, бліскучай прамове на XVIII з'ездзе ВКП(б) тав. Варашылаў нарысаваў яркую карціну магутнасці нашай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, яе тэхнічнай аснашчонасці, наяўнасці ў нашай краіне дастатковай колькасці ўсіх відаў зброі. Несакрушальная сіла нашай Чырвонай Арміі, нашага Чырвонага Флота, нашай Чырвонай Авіяцыі відавочна для ўсіх. Яе паспыталі—праўда, у невялікай дозе—японскія самураі ля возера Хасан. І калі гэты ўрок сяго-таго з нашых ворагаў яшчэ не навучыў, калі памяць у іх кароткая, то доза свінца і метала можа быць у сотні раз павялічана. Наша задача—умацоўваць у далейшым Чырвоную Армію, Чырвоны Флот, Чырвоную Авіяцыю.

Партыйныя арганізацыі, профсаюзы, советы павінны ўзяцца за рашучае палепшанне работы Асоавіяхіма і Чырвонага крыжа, за ўздым абароннай работы сярод насельніцтва. Арганізацыя пры гаркомах і райкомах ваенных аддзелаў адыграе каласальную ролю ў справе далейшага ўмацавання абароназдольнасці нашай соцыялістычнай радзімы.

Рашэнні XVIII з'езда нашай партыі—гэта гістарычныя дакументы эпохі будаўніцтва комуністычнага грамадства. Даклад таварыша Сталіна, як магутны пражэктар, асвятліў пройдзены этап гераічнай барацьбы савецкага народа за соцыялізм і сваімі праменнямі ўказвае наш рух уперад, да ззяючых вяршынь комуністычнага грамадства.

Даклад таварыша Сталіна, даклады таварышоў Молатава, Жданава, рашэнні з'езда натхняюць мільёны савецкіх патрыётаў на да-

лейшыя подвігі ў імя таржаства комунізма. Рашэнні з'езда—магутны сродак комуністычнага выхавання шырокіх народных мас, павышэння палітычнага ўзроўню, ідэалагічнай загартаванасці, большэвіцкай свядомасці нашых работнікаў.

На XVIII з'ездзе ВКП(б) таварыш Сталін гаварыў:

«Ёсць адна галіна навукі, веданне якой павінна быць абавязковым для большэвікоў усіх галін навукі,—гэта марксісцка-ленінская навука аб грамадстве, аб законах развіцця грамадства, аб законах развіцця пролетарскай рэволюцыі, аб законах развіцця соцыялістычнага будаўніцтва, аб перамозе комунізма... Ленінец не можа быць толькі спецыялістам аблюбаванай ім галіны навукі,—ён павінен быць разам з тым палітыкам—грамадскім работнікам, які жыва цікавіцца лёсам сваёй краіны, знаём з законамі грамадскага развіцця, умее карыстацца гэтымі законамі і імкнецца быць актыўным удзельнікам палітычнага кіраўніцтва краінай».

У гэтых мудрых указаннях вялікага Сталіна ачэрчан тып савецкага спецыяліста, партыйнага і непартыйнага. Задача ў тым, каб глыбокія веды сваёй справы, сваёй спецыяльнасці спалучаць з марксісцка-ленінскай падрыхтоўкай, упарта і сістэматычна працаваць над авалоданнем рэволюцыйнай тэорыяй. Партыйныя і комсамольскія арганізацыі абавязаны дапамагчы нашай савецкай інтэлігенцыі ў справе авалодвання большэвізмам.

Савецкі народ успрымае рашэнні з'езда, як няўхільны закон, які забяспечвае наш пераможны рух уперад. У гэтых рашэннях увасоблены мыслі, пачуцці і надзеі нашага народа, родныя і блізкія яму. Рашэнні з'езда, прынятыя дэлегатамі з велізарнейшым аднадушшам, з такім-жа аднадушшам успрымаюцца ўсім савецкім народам.

Неадкладная і адказнейшая задача партыйных, комсамольскіх, профсаюзных арганізацый—давесці гістарычныя рашэнні з'езда да свядомасці кожнага працоўнага, каб кожны тружанік нашай краіны ясна зразумеў і засвоіў вялікія задачы, што стаяць перад нашай радзімай.

Велізарная роля ў справе прапаганды рашэнняў з'езда належыць нашай савецкай інтэлігенцыі, цяснейшым чынам звязанай з народам.

Савецкая інтэлігенцыя—гэта перадавы атрад будаўнікоў комунізма, гэта кадры Чырвонай Арміі, гэта цвет народа, соль савецкай зямлі. Савецкая інтэлігенцыя—гэта мільёны прапагандыстаў і агітатараў. Трэба ўмела выкарыстаць гэтую вялікую армію. Савецкая інтэлігенцыя павінна заняць пачэснае месца ў справе прапаганды рашэнняў з'езда і мабілізацыі мас на выкананне яго гістарычных рашэнняў.

---

**М. Гершман.**

Заг. Аддзелам прапаганды і агітацыі
Асіповіцкага райкома КП(б)Б

# Першыя вынікі перабудовы партпрапаганды

З вялікім натхненнем сустрэлі комуністы, комсамольцы і совецкая інтэлігенцыя Асіповіцкага раёна рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Большэвікі, партыйныя і непартыйныя, прымалі актыўны ўдзел у абмеркаванні гэтай баявой праграмы нашай далейшай работы па комуністычнаму выхаванню мас.

З паяўленнем «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» партыя атрымала новую магутную ідэйную зброю, энцыклапедыю асноўных ведаў у галіне марксізма-ленінізма. І мы бачылі сваю задачу ў тым, каб на аснове гэтага выдатнага дакумента перабудаваць усю прапагандысцкую работу, пакласці пачатак новаму размаху марксісцка-ленінскай прапаганды.

> «Трэба прызнаць, як аксіому,—гаварыў таварыш Сталін на XVIII з'ездзе ВКП(б),—што чым вышэй палітычны ўзровень і марксісцка-ленінская свядомасць работнікаў любой галіны дзяржаўнай і партыйнай работы, тым вышэй і пладатворней сама работа, тым эфектыўней рэзультаты работы, і наадварот,—чым ніжэй палітычны ўзровень і марксісцка-ленінская свядомасць работнікаў, тым больш магчымы зрывы і правалы ў рабоце, тым больш магчыма здрабненне і выраджэнне саміх работнікаў у дзяляг-крахабораў, тым больш магчыма іх перараджэнне. Можна з упэўненасцю сказаць, што калі-б мы здолелі падрыхтаваць ідэалагічна нашы кадры ўсіх галін работы і загартаваць іх палітычна ў такой меры, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы здолелі зрабіць іх зусім зрэлымі марксістамі-ленінцамі, здольнымі рашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай, то мы мелі-б усе падставы лічыць дзевяць дзесятых усіх нашых пытанняў ужо вырашанымі. А рашыць гэтую задачу мы безумоўна можам, бо ў нас ёсць усе сродкі і магчымасці, неабходныя для таго, каб вырашыць яе».

У нашым раёне ёсць усе магчымасці для ўзбраення партыйных, комсамольскіх, совецкіх і гаспадарчых кадраў марксісцка-ленінскай навукай, веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы. Партыйныя і непартыйныя большэвікі Асіповіцкага раёна, з вялікім інтарэсам вывучаючы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)»,

даклад таварыша Сталіна і рашэнні XVIII з'езда партыі, прад'яўляюць вялікі попыт на кваліфікаваныя лекцыі, даклады, кансультацыі.

Зараз трэба асабліва ўмела кіраваць партыйнай прапагандай, каб прывіць густ да тэорыі тым таварышам, якія не прывыклі займацца самаадукацыяй і ніяк не могуць самастойна засесці за кнігу. Трэба своечасова прыйсці ім на дапамогу то неабходнымі ўказаннямі, то карыснай парадай, нястомна распальваючы інтарэс да тэарэтычных пытанняў.

Асіповіцкі райком партыі праводзіць лекцыі, інструкцыйныя даклады і кансультацыі ў раённым парткабінеце, лекцыі і даклады на прадпрыемствах і ў сельсоветах, арганізуе тэарэтычныя канферэнцыі і таварыскія дыскусіі па асобных раздзелах «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Вялікую ўвагу райком удзяляе інтэлігенцыі—настаўнікам, урачам, аграномам, служачым,—асабліва пражываючым на сяле, сістэматычна дапамагаючы ім у вывучэнні марксізма-ленінізма.

На кожны месяц аддзел прапаганды і агітацыі райкома партыі распрацоўвае план лекцый і дакладаў для партактыва і інтэлігенцыі раённага цэнтра, прадпрыемстваў і сельсаветаў. У гэты план уваходзяць лекцыі і даклады па гісторыі партыі, міжнароднай палітыцы, паасобных тэарэтычных і палітычных пытаннях, на антырэлігійныя тэмы, а ў апошні час па матэрыялах XVIII з'езда ВКП(б). Зацверджаны на бюро райкома план нашай работы рассылаецца па пярвічных партарганізацыях, вывешваецца ў клубах, дамах соцкультуры і бібліятэках. Можна смела заявіць, што лекцыямі і дакладамі, асабліва на сяле, слухачы застаюцца задаволены.

Кожны месяц у раён прыязджае кваліфікаваны лектар ад Аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. Па курсу гісторыі партыі прачыталі лекцыі тт. Немец, Топаз і Гурэвіч. Прысылае лектароў таксама і абком партыі, ад абкома чыталі лекцыі тт. Папоў і Гозман. Але мы не можам спадзявацца толькі на прысылаемых лектароў. Таму мы стварылі ў раёне групу пазаштатных кансультантаў, якія, акрамя кансультацый, чытаюць лекцыі і даклады на прадпрыемствах і ў сельсоветах.

У групу пазаштатных кансультантаў уваходзяць: сакратар райкома тав. Вайценкоў, які скончыў комвуз і мае вялікі вопыт прапагандысцкай работы, заг. райАНА тав. Аўсяннікаў, які мае вышэйшую адукацыю, тав. Шыёнак—дырэктар лесгаса, таксама з вялікім вопытам прапагандысцкай работы і іншыя таварышы.

На сяле прачытаны лекцыі: аб кнізе Леніна «Што рабіць?», аб рабоце Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне», «Матэрыяльная аснова грамадства», рад лекцый па «Кароткаму курсу гісторыі ВКП(б)».

Спачатку справа з лекцыямі ў нас не зусім ладзілася, былі часам і зрывы. Зараз мы ўжо маем некаторы вопыт. Мы ўпэўнены, што пастаноўка лекцый і дакладаў на перыферыі, дзе працуе многа сельскай інтэлігенцыі, дае вялікую карысць і павінна практыкавацца ў далейшым.

У Лапінскім сельсовеце на адной з лекцый прысутнічала 60 чалавек, сярод якіх былі настаўнікі, медыцынскія работнікі, служачыя лесаўчасткаў, кааперацыі і актыў калгасаў. У мястэчку Свіслач лекцыі наведваюць 70—80 і больш 100 чалавек. У раённым цэнтры аудыторыя даходзіць да 250—300—400 чалавек.

Добра памятаючы ўказанні ЦК ВКП(б) аб тым, што добра падрыхтаваная, змястоўная лекцыя з'яўляецца сур'ёзнай дапамогай самастойна вывучаючым «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і творы класікаў марксізма-ленінізма, мы да кожнай лекцыі старанна рыхтуемся, таму і аудыторыя ў нас не выпадковая.

У асноўным нашы кадры самастойна вывучаюць «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і працуюць над творамі класікаў марксізма-ленінізма. Сур'ёзна працуе над сабой дырэктар леспрамгаса тав. Салаўёў, работнік райземаддзела тав. Альховец, настаўніца тав. Севасцінская, урач тав. Козак, начальнік 13 дыстанцыі пуці тав. Сапелкін. Гэта паказала нядаўна праведзеная тэарэтычная канферэнцыя на тэму аб II з'ездзе РСДРП. Канферэнцыя рыхтавалася парткабінетам амаль паўтара месяцы. Кансультацыі дакладчыкам давалі тав. Вайценкоў і лектар аддзела прапаганды і агітацыі Магілеўскага абкома партыі тав. Гозман. Выдзелены былі 4 дакладчыкі: заг. райпарткабінетам тав. Пікула, дырэктар леспрамгаса тав. Салаўёў, настаўніца тав. Севасцінская і прапагандыст райкома комсамола тав. Каваленак. Асабліва цікавымі былі даклады тт. Салаўёва і Севасцінскай. Дакладчыкам было задана 16 пытанняў. Недахопам канферэнцыі з'яўляецца тое, што па дакладах выступіла толькі 5 чалавек, хоць многія з прысутных мелі канспекты і тэзісы.

Зараз рыхтуецца тэарэтычная канферэнцыя ў пярвічнай партарганізацыі горсовета па тэме: «Вучэнне Леніна і Сталіна аб дзяржаве». Гэтае пытанне ўсебакова абмеркавана на адкрытым партыйным сходзе. Вылучаным дакладчыкам указана літаратура і метады падрыхтоўкі.

Не захапляючыся тэарэтычнымі канферэнцыямі, мы ўсё-ж лічым іх адною з дзейсных форм дапамогі самастойна вывучаючым «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)». У радзе партарганізацый праводзяцца групавыя кансультацыі, нарады і таварыскія дыскусіі, якія дапамагаюць выявіць, каму і ў чым неабходна дапамога.

Як паказвае вопыт, добра падрыхтаваныя тэарэтычныя канферэнцыі, таварыскія дыскусіі, лекцыі, даклады, кансультацыі прывучаюць удзельнікаў іх да сістэматычнай работы над творамі класікаў марксізма-ленінізма, умацоўваюць упэўненасць у тым, што рэволюцыйную тэорыю можна вывучыць самастойна. З другога боку, там, дзе арганізацыя лекцый, дакладаў, кансультацый, таварыскіх дыскусій і падрыхтоўка да іх пушчана на самацёк, там, дзе імі не кіруюць,—вынікі атрымліваюцца іншыя.

Калі кіраўнікі пярвічных партарганізацый па-большэвіцку бяруцца за рэалізацыю пастановы ЦК ВКП(б) аб прапагандысцкай рабоце, партыйныя і непартыйныя большэвікі з вялікім інтарэсам і захапленнем вывучаюць тэорыю і гісторыю большэвіцкай партыі. У тых-жа партарганізацыях, дзе гэта справа ідзе самацёкам, дзе кіраўнікі яшчэ не зразумелі, што ў першую чаргу ім самім неабходна глыбока аўладаць рэволюцыйнай тэорыяй, каб добра кіраваць,—там няма і належных вынікаў.

Нядаўна ў Лапіцкім сельсовеце павінна была адбыцца лекцыя на тэму: «Аб рабоце тав. Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне». Сакратара партарганізацыі тав. Кашыцкага паведамілі аб гэтым за некалькі дзён, але ён безадказна аднёсся да справы. Лекцыю прышлося адкласці, бо сабралася невялікая аудыторыя: 6 настаўнікаў з 22, 5 вучняў сёмых класаў, дзве хатнія гаспадыні, два работнікі сель-

савета і шавец мясцовай арцелі, які выпадкова зайшоў у клуб. У памяшканні было брудна і холадна. У Лапічах увайшло ў правіла, што лектар павінен сам збіраць аудыторыю.

У нашым раёне ёсць яшчэ кіраўнікі, якія самі сур'ёзна не ўзяліся за вывучэнне гісторыі партыі і аб другіх не клапоцяцца. Голант. Г. Халмецкі, Кірпічнікаў, Рутштэйн і іншыя таварышы лічаць, што яны настолькі заняты практычнай работай, што не маюць часу павышаць свой ідэйны ўзровень. У партарганізацыях, дзе яны працуюць, прапаганда знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні.

Значная доля віны за нізкі ўзровень партыйнай прапаганды ў гэтых арганізацыях падае на райком, у прыватнасці на аддзел прапаганды і агітацыі, які яшчэ не паказаў кожнаму кіраўніку пярвічнай партарганізацыі, як ён павінен дапамагаць комуністам, беспартыйнай інтэлігенцыі ў вывучэнні марксісцка-ленінскай тэорыі. Райком партыі яшчэ не здолеў арганізаваць усіх комуністаў на сістэматычную вучобу, дыферэнцыраваць прапагандысцкую работу ў адпаведнасці з узроўнем развіцця паасобных груп комуністаў і беспартыйнай інтэлігенцыі.

Сакратары пярвічных партарганізацый і работнікі райкома партыі павінны часцей гутарыць з комуністамі па пытаннях вывучэння гісторыі партыі, не баяцца, што гэта будзе расцэньвацца імі як кантроль або дробнае апякунства.

Зараз райком КП(б)Б выпрацаваў новы план арганізацыі партпрапаганды. Лекцыі і кансультацыі будуць праводзіцца па магчымасці ў дыферэнцыраваным парадку. Ва ўстановы, у сельсоветы, на прадпрыемствы будуць рэгулярна выязджаць таварышы для правядзення групавых кансультацый і таварыскіх дыскусій.

Работа гурткоў у нас яшчэ не наладжана. Пакуль што працуе толькі адзін гурток сярэдняга звяна пры парткабінеце з 25 комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных. Заняткі ў гуртку праходзяць нядрэнна, практыкуюцца пераважна таварыскія дыскусіі і бяседы па паасобных раздзелах «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

У маі месяцы пачалі працаваць гурткі нізавога звяна на шклозаводзе «Окцябр» і ў Свіславіцкім сельсовеце.

Побач з вывучэннем гісторыі ВКП(б) райком партыі праводзіць вялікую агітацыйна-прапагандысцкую работу па прапагандзе рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б).

У раёне створана 16 агіткалектываў, у якіх працуе больш 300 чалавек. Два разы ў месяц адбываюцца нарады сакратароў пярвічных арганізацый і кіраўнікоў агіткалектываў для абмену вопытам работы і кансультацый.

Створана ў нас таксама і лектарская група антырэлігійнікаў, галоўным чынам з настаўніцтва. Адзін раз у месяц-паўтара яны чытаюць лекцыі на антырэлігійныя тэмы. За апошні час у раённым цэнтры прачытана 4 і на сяле 35 лекцый.

На пасяджэннях бюро райкома партыі сістэматычна ставяцца даклады сакратароў пярвічных партарганізацый аб становішчы партыйнай прапаганды. На спецыяльным пленуме раённага камітэта партыі абмяркоўвалася пытанне, як выконваецца ў раёне рашэнне ЦК ВКП(б) аб партпрапагандзе. Зараз аддзел прапаганды і агітацыі райкома партыі правярае становішча партпрапаганды у пярвічнай арганізацыі Лапіцкага сельсовета. Даклад будзе пастаўлен на чарговым пасяджэнні бюро РК.

У нашым раёне прароблена значная работа па перабудове партыйнай прапаганды. Але гэта толькі пачатак. Нам яшчэ многа трэба папрацаваць, каб палепшыць работу з прапагандыстамі, кансультантамі, максімальна павысіць узровень нашых лекцый, дакладаў, кансультацый, наладзіць заняткі гурткоў. Мы павінны дабіцца, каб кожны сакратар партбюро і пярвічнай партарганізацыі штодзённа дапамагаў нашым кадрам у авалоданні большэвізмам. Многа яшчэ трэба зрабіць, каб паставіць на належную вышыню марксісцка-ленінскае выхаванне нашай інтэлігенцыі.

Рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» прад'яўляе нам вялікія патрабаванні. Асіповіцкі РК КП(б)Б ставіць перад сабой задачу—разгарнуць пачатую работу ўшыр і ўглыб, каб задаволіць узросшыя запатрабаванні таварышоў, якія самастойна вывучаюць тэорыю марксізма-ленінізма. І мы ўпэўнены, што, пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта КП(б), які аказвае нам штодзенную дапамогу, з поспехам вырашым усе пастаўленыя перад намі ў справе марксісцка-ленінскага выхавання нашых кадраў задачы.

---

**Х. Раксін**

Сакратар бюро партыйнай арганізацыі
завода імя Варашылава.

# За большэвіцкае спалучэнне палітычнай работы з гаспадарчай

Станкабудаўнічы завод імя Варашылава—прадпрыемства ўсесаюзнага значэння, самае буйнае ў Беларусі—не выконваў вытворчага плана на працягу трох год. Прычын было многа: дрэнная работа аддзела снабжэння, несвоечасовае забеспячэнне рознымі відамі сыравіны, разрыў у выкананні планаў між паасобнымі цэхамі. Усё гэта не абышлося без шкодніцкай работы ворагаў народа, якія пралезлі да кіраўніцтва завода і свядома зрывалі дастаўку неабходных матэрыялаў, дабіваліся разрыву між працэсамі вытворчасці, тармазілі вылучэнне новых кадраў.

Узброеная ўказаннямі таварыша Сталіна на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б), наша партарганізацыя правяла вялікую работу па выкарчоўцы варожых гнёзд і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва і ўзяла рашучы курс на перабудову ўсёй сваёй работы, паклаўшы ў аснову ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што палітыка і гаспадарка нераздзельны.

У першую чаргу перад намі стаяла задача—умацаваць кіруючымі кадрамі ўсе ўчасткі, цясней згуртаваць перадавых людзей завода, каб, апіраючыся на іх, пачаць барацьбу за выкананне плана. На кіруючую работу былі вылучаны новыя людзі—стаханаўцы, партыйныя і непартыйныя большэвікі, якія добра ведалі сваю справу і жыццё завода. Кожны чэсны работнік знайшоў у партыйнай арганізацыі ўсебаковую дапамогу і падтрыманне. Увагай да людзей, штодзённымі клопатамі аб іх патрэбах была прасякнута ўся работа партыйнай арганізацыі, што адразу ўзняло яе аўтарытэт, аб'яднала вакол яе лепшых рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых.

Да вырашэння важнейшых пытанняў гаспадаркі і вытворчасці партарганізацыя пачала прыцягваць не толькі комуністаў і комсамольцаў, але і беспартыйных большэвікоў—стаханаўцаў, інжынераў і тэхнікаў. Гэта дапамагло яшчэ больш унікнуць у вытворчыя справы завода, вывучыць прычыны, якія тармозяць выкананне плана.

Многія людзі стаялі не на сваіх месцах. Так, напрыклад, начальнікам аддзела снабжэння працаваў комуніст тав. Ключ, які не спраўляўся са сваімі абавязкамі і не забяспечваў завод палівам у патрэбнай колькасці. Партарганізацыя дапамагла дырэкцыі падабраць на яго месца здольнага таварыша, які за кароткі час вывеў аддзел снабжэння з прарыву. Цяпер завод поўнасцю забяспечан палівам. А тав. Ключ пераведзен на іншую работу, дзе ён апраўдвае сябе.

Партыйная арганізацыя штодзённа дапамагала гаспадарнікам у комплектаванні асноўных участкаў завода рабочымі-стаханаўцамі

і лепшымі спецыялістамі. У аддзелы, цэхі і брыгады накіроўваліся такія людзі, якія ведалі не толькі сваю вузкую вытворчую спецыяльнасць, але і былі добрымі агітатарамі, палітычнымі важакамі свайго калектыва.

У выніку партыйная арганізацыя і гаспадарнікі здолелі дабіцца значных поспехаў у выкананні заводам вытворчага плана. План першага квартала 1939 года па вытворчасці ў цэлым выканан на 119,3 процанта, а па станкабудаўніцтву—на 106 процантаў.

Палітычны ўздым, выкліканы прадз'ездаўскім спаборніцтвам, паказаў, якія велізарныя магчымасці мы маем для паспяховага выканання і перавыканання вытворчага плана. У гонар XVIII з'езда ВКП(б) завод даў звыш плана 20 скрэпераў для тарфянай прамысловасці, а да міжнароднага пролетарскага свята 1 Мая выпусціў звыш плана 18 станкоў.

У статуце ВКП(б), прынятым на XVIII з'ездзе партыі, запісана:

> «Для павышэння ролі пярвічных партыйных арганізацый вытворчых прадпрыемстваў, у тым ліку соўгасаў, калгасаў і МТС, і іх адказнасці за стан работы прадпрыемстваў гэтым арганізацыям прадастаўляецца права кантролю дзейнасці адміністрацыі прадпрыемства».

На аснове гэтага статутнага палажэння партыйная арганізацыя за кароткі час здолела ўстанавіць правільныя адносіны да пытанняў гаспадаркі, забяспечыць кантроль за вытворчасцю. На прадпрыемстве значна павысілася авангардная роля комуністаў.

Не парушаючы прынцыпа адзінаначалля, партыйная арганізацыя дапамагае дырэкцыі завода. За апошні час на пасяджэннях бюро і партыйных сходах неаднаразова абмяркоўваліся гаспадарчыя пытанні. Многія з іх былі выкліканы па сігналах комуністаў. Тав. Райцэс заявіў, што для радыяльна-свідравальных станкоў нехапае электраправадоў, з-за чаго зрываецца своечасовы выпуск станкоў. Партыйны камітэт умяшаўся ў гэту справу і дапамог ліквідаваць непаладкі ў цэху.

Значна павышае аўтарытэт партарганізацыі праверка выканання сваіх рашэнняў.

Бюро партыйнай арганізацыі, зацікавіўшыся прычынай адставання слясарна-зборачнага цэха, паставіла на партыйным сходзе справаздачу начальніка гэтага цэха комуніста тав. Мінковіча. Выступіўшыя ў спрэчках па дакладу комуністы ўказалі, што ў цэху недастаткова разгорнута палітычна-масавая работа, не створаны ўмовы для ўкаранення стаханаўскіх метадаў і, акрамя таго, механічны цэх несвоечасова падае дэталі для зборкі.

У сваім рашэнні партыйны сход намеціў рад практычных мер для знішчэння недахопаў і стварэння ўмоў для работы стаханаўцаў. Калі праз некаторы час партбюро правяло праверку, то аказалася, што амаль усе пункты рашэння былі ў асноўным выкананы. Па таварнай прадукцыі цэх выканаў план на 115 проц., значна павысілася колькасць стаханаўцаў і ўдарнікаў.

З дапамогай партарганізацыі наладжана работа механічнага цэха, які зараз перавыконвае свой план і поўнасцю забяспечвае дэталямі іншыя цэхі. 12 комуністаў, якія працуюць у цэху, адыгрываюць авангардную ролю. Яны паказваюць узоры стаханаўскай работы і ўзначальваюць культурна-масавую палітычную работу. У большасці гэта—моладзь, нядаўна вылучаная на адказныя гаспадарчыя ўчасткі.

Тэхнарук тав. Слуцкі раней працаваў кантрольным майстрам. Нядаўна партыйная арганізацыя прыняла яго кандыдатам у члены ВКП(б). Майстар пралёта стаханавец тав. Драгун нядаўна быў токарам.

Комуністы, якія працуюць непасрэдна ля станкоў, перавыконваюць свае нормы. Так, каваль тав. Шмідт выконвае новыя нормы на 250 проц., тт. Піндрык, Батвінік, Коўбан, Салавей, Малейка, Крус, Араноўскі, Васілеўскі перавыконваюць новыя нормы да 200 проц. Акрамя таго, яны з'яўляюцца агітатарамі: праводзяць гутаркі, чытку газет, растлумачваюць рабочым рашэнні партыі і ўрада. вывучаюць геніяльны даклад тав. Сталіна, матэрыялы і рашэнні XVIII з'езда партыі.

Выхаваныя і вылучаныя партарганізацыяй на кіруючыя ўчасткі дзесяткі стаханаўцаў апраўдалі сябе на практычнай рабоце. Каваль тав. Тэйф, вылучаны кантрольным майстрам, былы каваль-інструментальшчык тав. Салавей, вылучаны майстрам цэха, і рад іншых комуністаў-стаханаўцаў з'яўляюцца наватарамі комуністычнай працы, ідуць у авангардзе перадавых байцоў соцыялістычнага будаўніцтва, змагаюцца за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны, за павышэнне прадукцыйнасці працы.

Па прыкладу комуністаў працуюць і беспартыйныя большэвікі-стаханаўцы тт. Кавалеўскі, Івашка, Абрамовіч і інш., якія сістэматычна выконваюць свае нормы больш чым на 200 проц.

Авангардная роля комуністаў адчуваецца на кожным участку работы. На заводзе, непасрэдна ў цэхах і каля станкоў, працуе 70 комуністаў, і ўсе яны стаханаўцы.

Вялікую дапамогу партыйнай арганізацыі аказвае комсамол. Моладзь—энтузіясты соцыялістычнай працы—з'яўляюцца застрэльшчыкамі разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

Уключэнне ў статут ВКП(б) раздзела «Партыя і комсамол» яшчэ больш актывізавала комсамол, узмацніла яго ролю ў дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве. На нашым заводзе працуе 170 комсамольцаў, з якіх значная частка займае адказныя пасады. Інжынер тав. Емельянаў працуе начальнікам рамонтнага цэха, тав. Ражанскі—тэхнарукам, тав. Салавейчык—брыгадзірам кацельнага цэха, тав. Кушыноўскі—інжынерам аддзела механікі.

На бюро партыйнага камітэта ставяцца справаздачы сакратара комсамольскай арганізацыі і асобных комсамольцаў, якія працуюць у цэху. З іх дапамогай партыйны камітэт знішчае недахопы на вытворчасці, праводзіць у жыццё рашэнні партыі і ўрада.

Дапамога і кіраўніцтва партыйнай арганізацыі адчуваецца ва ўсёй рабоце комсамола. Не прайшло ні аднаго пасяджэння комсамольскага камітэта, ні аднаго агульнага схода, на якіх-бы не прысутнічаў і не прымаў актыўнага ўдзелу хто-небудзь з членаў партыйнага бюро. Комсамольская арганізацыя рашае і праводзіць усе пытанні пад кіраўніцтвам і пры дапамозе партыйнай арганізацыі.

Уключыўшыся ў соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, рабочы калектыў завода абавязаўся сустрэць гадавіну выбараў у Вярхоўны Совет СССР поўным выкананнем праграмы выпуску станкоў. Для выканання ўзятага абавязацельства рабочыя разгарнулі спаборніцтва між цэхамі, брыгадамі і пралётамі.

На заводзе з кожным днём расце колькасць стаханаўцаў. Зараз мы маем 500 стаханаўцаў і ўдарнікаў. За ўзорную стаханаўскую

работу саюзны ўрад узнагародзіў ордэнамі «Знак почета» і медаллю «За трудовое отличие» чатырох таварышоў, Грамату прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР атрымалі тры чалавекі.

Натхнёныя гэтай узнагародай, мы будзем па-бальшэвіцку весці яшчэ больш упартую барацьбу за выкананне задач, пастаўленых перад намі партыяй і ўрадам у Трэцяй Сталінскай Пяцігодцы.

Зараз партыйная арганізацыя завода разгарнула вялікую масавую работу, каб дапамагчы дырэкцыі выканаць у тэрмін узятыя абавязацельствы, павысіць прадукцыйнасць працы, палепшыць якасць прадукцыі і дабіцца на кожным участку новых вытворчых перамог. Пытанне аб увядзенні новых норм абмяркоўвалася на партыйным і комсамольскім сходах, на нарадах з начальнікамі цэхаў, стаханаўцамі і на агульным сходзе рабочых.

Першыя поспехі стаханаўскай работы гэтага года, дасягнутыя ў прадз'ездаўскім і першамайскім спаборніцтве, мы замацавалі. Цяпер у нас ужо не адзінкі, а сотні стаханаўцаў. Цэлыя стаханаўскія брыгады, цэхі і пралёты перавыконваюць новыя нормы. Адным з першых вышаў стаханаўскі пралёт т. Харнаса, узнагароджанага ўказам прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР медаллю «За трудовое отличие».

Партыйная арганізацыя не дапушчала аднабаковага захаплення гаспадарчай дзейнасцю. Мы многа працавалі над тым, каб лепшыя работнікі вытворчасці былі адначасова і лепшымі грамадскімі работнікамі. Сярод 50 агітатараў—лепшыя работнікі вытворчасці, стаханаўцы, інжынеры, тэхнікі. Партыйная арганізацыя ўдзяляе многа ўвагі агітатарам: рэгулярна праводзіць для іх семінары, арганізуе лекцыі і т. п. У выніку палітычная агітацыя сярод рабочых і служачых завода значна палепшылася, што выклікала рост партыйнай арганізацыі, якая зусім нядаўна налічвала 60 чалавек. Зараз партыйная арганізацыя завода вырасла да 100 чалавек. За 1938—39 гг. прынята ў партыю 23 чалавекі, пераведзена з кандыдатаў у члены партыі 17 чалавек.

Асабліва вялікі прыліў наглядаецца пасля гістарычнага рашэння XVIII з'езда партыі аб адмене катэгорый. За апошні час прынята ў кандыдаты і пераведзена з кандыдатаў у члены партыі 12 чалавек з інтэлігенцыі.

Але ўсё гэта—толькі пачатак. Нашы першыя поспехі мы замацуем упартай работай над ажыццяўленнем гістарычных рашэнняў XVIII з'езда партыі.

Рашэнні з'езда партыі аб прадастаўленні пярвічным партыйным арганізацыям вытворчага тыпу права кантролю за станам работы прадпрыемства накладае на партарганізацыю завода імя Варашылава яшчэ большую адказнасць. Бальшэвікі нашага завода будуць цвёрда выконваць указанні таварыша Сталіна аб спалучэнні палітыкі і гаспадаркі. Ажыццяўляючы штодзённа правільны кантроль за станам работы завода, яны будуць змагацца за перадавое месца ў радах совецкіх станкабудаўнікоў.

У нашай рабоце яшчэ многа недахопаў. Мы ні ў якім разе не можам супакоіцца на некаторых дасягненнях. Узброіўшыся рашэннямі XVIII з'езда ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна, мы прыкладзем усе сілы, каб па-бальшэвіцку спалучаючы бальшэвіцкую работу з гаспадарчай, не дапушчаючы ніякіх памылак у практычнай рабоце, дабіваючыся ўсё новых і новых дасягненняў, датэрмінова выканаць план Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

Б. Шпітальнік

# Больш чуласці да пісем рабселькораў

## (Аб рабоце з пісьмамі ў рэдакцыі газеты „Звязда“)

Партыя большэвікоў заўсёды надавала вялікае значэнне рабочым і сялянскім карэспандэнтам і іх пісьмам. ЦК ВКП(б) у неаднаразовых сваіх пастановах указваў на неабходнасць сістэматычнай работы па комуністычнаму выхаванню рабселькораў і праяўлення чулых адносін да кожнага пісьма, якое паступае ў рэдакцыю газеты.

Зварачаючыся да «Крестьянской газеты» у 1924 годзе, у дзень яе гадавіны, таварыш Сталін пісаў: «Сялянская газета! Беражы сваіх селькораў, як зяніцу вока,—гэта твая армія». У гэтых словах чуюцца бацькаўскія клопаты аб вялікай арміі рабселькораў. Гэтыя клопаты праяўляліся Леніным і Сталіным, комуністычнай партыяй на працягу ўсёй гісторыі развіцця большэвіцкага друку, яны праяўляюцца і зараз.

> «Мы просім карэспандаваць усіх,—пісаў В. І. Ленін,—а асабліва рабочых. Давайце шырэй магчымасць рабочым пісаць у нашу газету, пісаць аб усім рашуча, пісаць як мага больш аб штодзенным сваім жыцці, інтарэсах і рабоце» *.

Такім чулым і ўважлівым адносінам да рабселькораў павінен вучыцца кожны рэдактар большэвіцкай газеты. Кожны рабселькор павінен на практыцы пераканацца ў тым, што рэдакцыя газеты не пакідае без увагі яго карэспандэнцый, што па кожнаму пісьму і сігналу прымаюцца своечасовыя меры. Кожны рабселькор павінен адчуваць жывую сувязь з рэдакцыяй газеты, яе клопаты аб яго комуністычным выхаванні.

За апошні час рэдакцыя газеты «Звязда» правяла ў радзе раёнаў рэспублікі сходы і нарады рабселькораў, кансультацыі з селькорамі-завочнікамі. Гэта мерапрыемства значна ўзняло актыўнасць рабселькораў, узмацніла іх сувязь з рэдакцыяй.

Аднак і дагэтуль надзвычай слабым месцам рэдакцыі застаецца работа з пісьмамі рабселькораў.

У жніўні 1938 года журнал «Большевистская печать» № 13 рэзка крытыкаваў работу аддзела пісем рэдакцыі «Звязды». Журнал адзначыў, што прыток пісем у рэдакцыю значна паменшыўся, бо ад рабселькораў адмахваюцца, як ад надаедлівых мух, пісьмы іх падоўгу марынуюцца і рэдка пападаюць на старонкі газеты; многія пісьмы пасля доўгага падарожжа з аддзела ў аддзел здаюцца ў архіў.

*) *Ленін*, т. VI, стар. 375.

Ці ёсць зараз якія-небудзь змены? Змен амаль што няма. Адзначанае ў жніўні месяцы мінулага года застаецца нявыпраўленым і па сёння. Даволі звярнуцца да лічбаў. У 1937 годзе рэдакцыя атрымала 38 тысяч пісем а ў 1938 годзе—23 тысячы. На 15 тысяч менш! Тры месяцы 1939 года паказваюць далейшае памяншэнне прытоку пісем: рэдакцыя атрымала за гэты час 4400 пісем, што значна менш сярэднемесячнага паступлення пісем у мінулым годзе.

У чым-жа прычына рэзкага падзення прытоку пісем у рэдакцыю? Прычын тут некалькі, і на іх мы хочам спыніцца.

Вядома, што кожны аўтар, пасылаючы пісьмо ў рэдакцыю, хоча бачыць яго на старонках газеты і ў крайнім выпадку атрымаць ад рэдакцыі ясны і канкрэтны адказ: што прадпрынята па яго пісьму, чаму яно не надрукавана. Калі-ж аўтар доўгі час не бачыць свайго пісьма на старонках газеты і не атрымлівае ніякага адказу, то зразумела, што ў другі раз ён падумае над тым, ці варта пісаць у такую газету.

У рэдакцыі «Звязды» вельмі скупяцца на плошчу для пісем рабселькораў, рабселькораўскае пісьмо—рэдкі госць на старонках газеты. За ўвесь 1938 год газета змясціла толькі 760 пісем, што складае ўсяго 3 проц. да агульнай колькасці пісем, паступіўшых у рэдакцыю. Паляпшэння няма і ў 1939 годзе: за 3 месяцы змешчана толькі 102 пісьмы.

Не меншае значэнне мае своечасовае рэагаванне на пісьмы. За 1938 год з розных арганізацый паступіла ў рэдакцыю 16.167 адказаў, з іх на пісьмы 1938 года—12.174. Гэта значыць, што за мінулы год рэдакцыя не атрымала адказаў ад арганізацый на 5.728 пісем і ў сваю чаргу не можа своечасова адказаць тысячам аўтараў. Праўда, за апошні час рэдакцыя прыняла рад мер з тым, каб арганізацыі, куды пасылаюцца пісьмы на расследаванне, своечасова адказвалі на іх. Аднак, не толькі ў гэтым сутнасць справы. Вельмі важна, каб аўтары з нумара ў нумар маглі чытаць у газеце паведамленні аб выніках рэагавання. Нажаль, у «Звяздзе» і на гэта вельмі часта не хапае плошчы.

У рэдакцыі бываюць і такія факты, калі работнікі аддзела пісем не ведаюць нават, што пісаць аўтару, калі яго пісьмо, прызнанае годным для змяшчэння ў газету, не друкуецца. Звычайна такое пісьмо падрыхтоўваецца да друку і здаецца ў набор. Ну, а потым... месяцамі пралежвае ў якім-небудзь аддзеле або ў сакратарыяце рэдакцыі, паступова траціць сваю вартасць і ўрэшце ўпрыгожваецца рэзалюцыяй: «У разбор». Шрыфт разбіраюць, а пісьмо здаюць у архіў. Вось тут перад работнікамі аддзела пісем якраз і ўзнікаюць вялікія цяжкасці: пісаць аўтару, што яго пісьмо не будзе змешчана як непрыгоднае ніяк нельга, бо яно было ўжо нават набрана, пісаць аб тым, што пісьмо не змешчана з-за бюракратычных, безадказных адносін работнікаў, па віне якіх яно валялася ў рэдакцыі і страціла сваю актуальнасць, нейк нялоўка, не дазваляе «чэсць мундзіра». У такіх выпадках звычайна прымаюць «мудрае» рашэнне: лепш ўжо нічога не пісаць.

Няма патрэбы прыводзіць многа прыкладаў бюракратычных адносін да пісем, даволі адзначыць некалькі найбольш характэрных.

У красавіку 1938 года з калгаса «Ільіч» Крупіцкага сельсовета, Менскага раёна, паступіла ў рэдакцыю пісьмо, у якім ускрываюцца факты раскрадання калгаснай уласнасці. Крупіцкі сельсовет—недалёка ад горада Менска. Работнік рэдакцыі, не трацячы шмат часу, мог-бы

на месцы праверыць указаныя ў пісьме факты і прыняць адпаведныя меры. Рэдакцыя-ж накіравала пісьмо Менскаму райкому партыі, які не палічыў патрэбным паведаміць яе аб прынятых мерах. Тым часам злоўжыванні ў калгасе не спыняліся. Рэдкалегія калгаснай насценгазеты 7 снежня 1938 года ў другі раз пасылае ў рэдакцыю «Звязды» калектыўную карэспандэнцыю, якая ўскрывае рад новых, яшчэ больш паграsevere фактаў.

Вось што пісала рэдкалегія калгаснай насценгазеты:

**«Раскрадвальнікі калгаснай маемасці астаюцца беспакаранымі.**

Доўгі час ў калгасе «Ільіч», Крупіцкага сельсовета, Менскага раёна, пры патуранні старшыні калгаса Русака, праводзіцца раскраданне калгаснай маемасці.

Нядаўна калгаснік Антон Бортнік скраў калгасны ячмень. Нікалай Шакура раскрадае калгаснае сена. Аб гэтых фактах ведае старшыня калгаса Русак. Але ён нічога не зрабіў, каб вінаватых прыцягнуць да адказнасці. Больш таго, праўленне калгаса на адным сваім пасяджэнні абмеркавала пытанне аб прыцягненні да адказнасці Алеся Матрунчыка за раскраданне калгаснай маемасці, а на другім пасяджэнні таго-ж самага Матрунчыка прэміравала.

Да коней у калгасе адносяцца па-драпежніцку. Толькі за бягучы год загінула 11 коней.

Старшыня калгаса Русак наўмысля падоўгу не склікае сходаў калгаснікаў, чым яўна парушае статут сельгасарцелі.

Злачынныя справы, якія творацца ў калгасе «Ільіч», ніколькі не трывожаць менскія раённыя арганізацыі.

Рэдкалегія калгаснай насценгазеты».

Гэтае, другое, пісьмо з канкрэтнымі фактамі, імёнамі і прозвішчамі аддзел пісем падрыхтаваў да друку, яно было набрана, але... на старонкі газеты не трапіла. У сакавіку 1939 года на гранцы была накладзена рэзалюцыя: «У разбор».

Прывядзем другі, не менш абураючы, прыклад. 1 снежня 1938 г. рэдакцыя атрымала пісьмо з торфзавода «Чырвоная Беларусь» Быхаўскага раёна. У пісьме ўказвалася, што ў выніку злачынных адносін дырэктара 300 тон торфу прышло ў нягоднасць (70 проц. вільготнасці); дырэктар торфзавода і яго намеснік зусім не звяртаюць ўвагі на жыллёвыя ўмовы рабочых. Больш таго, намеснік дырэктара скарыстаў загатоўлены на дзяржаўныя сродкі лесаматэрыял, а таксама і рабочую сілу для пабудовы хаты свайму брату. Пісьмо ўскрывала рад злачынстваў у сталовай торфзавода. Аўтары ўказвалі, што з-за абважвання і абкрадвання з 400 рабочых у сталоўцы харчуюцца толькі 20—30. Пісьмо сігналізавала таксама аб наяўнасці грубага зажыму крытыкі на заводзе: варта было каму-небудзь, хоць-бы нават нерашуча, пакрытыкаваць адміністрацыю, як чуўся грозны вокліч: «Зніму з работы!»

Матэрыял надзвычай сур'ёзны. Відаць, зразумеў гэта і загадчык промаддзела рэдакцыі, калі напісаў рэзалюцыю: «Турэцкаму праверыць тэрмінова». Але чамусьці тав. Турэцкі тады не выехаў на праверку. Праўда, праз некаторы час на месца выехаў другі работнік рэдакцыі, тав. Казначэеў. Амаль усе факты пацвердзіліся. 29 снежня матэрыял быў падрыхтован да друку, і... пачалося «хаджэнне па муках». Загадчык промаддзела тав. Рабіновіч заяўляе,

што на рэдакцыйных нарадах ён не раз дабіваўся, каб матэрыял быў змешчан, але яго з дня на дзень адкладвалі, пакуль ён не застраў канчаткова.

За гэты час аўтары пісьма паспелі падвергнуцца ганенню з боку дырэкцыі торфзавода, паспелі паскардзіцца ў ЦК КП(б)Б на «Звязду», на месца ў другі раз выязджаў супрацоўнік рэдакцыі, а матэрыял усё ляжыць і, відаць, дачакаецца, калі на яго накладуць рэзалюцыю: «У разбор».

Гэтыя два факты даволі характэрны і павучальны, як прыклад бяздушных, нячулых адносін рэдакцыі газеты «Звязда» да пісем рабселькораў, дзе ўсё яшчэ не хочуць зразумець, што за кожным пісьмом стаіць жывы чалавек.

Ці можна сказаць, што ва ўсіх адзначаных памылках віна кладзецца выключна на работнікаў аддзела пісем? Безумоўна, не. За работай усіх аддзелаў рэдакцыі, а ў тым ліку і аддзела пісем, павінна сачыць і адказваць рэдактура. Рэдактар павінен добра ведаць, што робіцца ў аддзелах, кожны дзень кантраляваць іх работу, выпраўляць памылкі, заахвочваць лепшыя пачынанні. Нажаль, у рэдакцыі «Звязды» завёўся такі звычай, што не рэдактар падштурхоўвае аддзелы, а наадварот—аддзелы штурхаюць рэдактара.

Рэдактар павінен чытаць пісьмы рабселькораў, каб быць у курсе сігналаў, што паступаюць у рэдакцыю. Могуць сказаць, што рэдактар фізічна не справіцца чытаць усе паступаючыя пісьмы. Але на дапамогу яму прыходзіць аддзел пісем, які штодня складае інфармацыйныя зводкі з кароткім зместам паступіўшых пісем. Прачытаць такую зводку нядоўга. Аднак, рэдактар «Звязды» і на гэта не знаходзіць часу, работа аддзела пісем, відаць, мала яго цікавіць.

У пастанове ЦК ВКП(б) ад 25 сакавіка 1937 года «Аб аўтарскіх кадрах газет «Правда севера» і «Горьковская коммуна» было адзначана:

> «Газеты, як правіла, запаўняюцца пасрэдным матэрыялам штатных рэдакцыйных работнікаў, рэдакцыі надзвычай слаба прыцягваюць да ўдзелу ў газетах новыя аўтарскія кадры, дрэнна працуюць з аўтарскім актывам і не спрыяюць адбору і вырошчванню новых аўтараў, у прыватнасці—з растучых рабселькораў, што прывяло да зніжэння ідэйнага і якаснага ўзроўню ўказаных газет».

Гэтыя словы можна аднесці цалкам і да газеты «Звязда».

Зусім зразумела, што падобныя адносіны да пісем недапушчальны, што трэба неадкладна прыняць адпаведныя меры, каб знішчыць буйныя недахопы ў рабоце рэдакцыі.

Калектыву рэдакцыі неабходна цвёрда ўясніць, што сіла бальшэвіцкай газеты—у сувязі з масамі працоўных, у прыцягненні да супрацоўніцтва і ўдзелу ў газеце тысяч рабочых, сялян, інтэлігентаў, партыйных і непартыйных бальшэвікоў.

Выключна вялікае значэнне надае рабселькораўскаму руху таварыш Сталін. Яшчэ ў 1924 годзе ў гутарцы з супрацоўнікам журнала «Рабочий корреспондент» таварыш Сталін указваў:

> «Рабочыя і сельскія карэспандэнты здольны адыграць у ходзе развіцця друку ролю выразніка і праваднікa пралетарскай грамадскай думкі, аблічыцеля недахопаў савецкай грамадскасці, нястомнага барацьбіта за палепшанне нашага будаўніцтва»*).

*) Журнал „Рабочий корреспондент“ № 6, чэрвень 1924 г.

Мінуўшае пятнаццацігоддзе з часу надрукавання гэтай гутаркі з'яўляецца бліскучым пацверджаннем правільнасці ацэнкі рабселькораўскага руху, данай таварышом Сталіным. Рабселькоры мелі і маюць неацанімае значэнне ў нашым грамадска-палітычным жыцці, у соцыялістычным будаўніцтве, у развіцці і ўмацаванні нашага большэвіцкага друку.

У дакладах тт. Сталіна, Молатава і Жданава, а таксама ў рашэннях XVIII гістарычнага з'езда большэвіцкай партыі намечаны чоткія канкрэтныя задачы ў перыяд завяршэння будаўніцтва соцыялізма і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. У гэтых умовах работы партыі роля большэвіцкага друку становіцца яшчэ больш адказнай.

Усямерна ўмацоўваючы сувязі з масамі, арганізуючы і мабілізуючы іх на выкананне задач Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, газета абавязана выконваць ганаровыя і адказныя задачы, якія стаяць перад усім нашым большэвіцкім друкам. А для гэтага неабходна па-большэвіцку змагацца за палепшанне якасці ўсёй сваёй работы.

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ

Г. Якуб

## Французскія матэрыялісты XVIII века

Напярэдадні французскай буржуазнай рэволюцыі 1789 г. Францыя з'яўлялася цэнтрам передавой навуковай мыслі ўсёй Еўропы Рэволюцыйная французская буржуазія стаяла на парозе свайго палітычнага панавання. Яе ідэолагі—вялікія філосафы XVIII стагоддзя Дзідро, Гольбах, Гельвецый, Ламетры і інш. аказалі велізарны ўплыў не толькі на сучаснікаў, але сваімі бліскучымі працамі спрыялі развіццю той сумы ідэй, да якой прымыкае навуковы комунізм Маркса—Энгельса.

> «Як усякая новая тэорыя,—гаворыць Энгельс,—соцыялізм павінен быў прымкнуць да парадку ідэй, створанага яго бліжэйшымі папярэднікамі, хоць яго карэнні і ляжалі вельмі глыбока ў эканамічных фактах» *).

Працы французскіх матэрыялістаў увайшлі ў скарбніцу культурнай спадчыны ўсіх часоў і народаў, а іх імёны залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю барацьбы за матэрыяльнае і духоўнае вызваленне чалавецтва.

* * *

У XVIII стагоддзі ва Францыі панаваў феадалізм. Уся ўлада ў краіне належала манархіі, якая абараняла інтарэсы феадальнага дваранства. Параўнаўча невялікай колькасці прывілеяваных (270 тыс.)—дваранам і духавенству належала дзве трэці ўсёй зямлі. Яны займалі ўсе адказныя пасады ў дзяржаўным і царкоўным апараце, усе камандныя пасты ў арміі. Яны карысталіся ўсімі правамі і саслоўнымі прывілеямі. Яны складалі першыя два саслоўі. Трэцяе саслоўе, да якога належала ўсё астатняе 25-мільённае насельніцтва краіны, было пазбаўлена палітычных правоў, не дапускалася да кіраўніцтва дзяржавай, несла ўвесь цяжар падаткаў і павіннасцей. Асноўную масу трэцяга саслоўя складала сялянства.

> «Пры феадальным ладзе асновай вытворчых адносін з'яўляецца ўласнасць феадала на сродкі вытворчасці і няпоўная ўласнасць на работніка вытворчасці,—прыгоннага, якога феадал ужо не можа забіць, але якога ён можа прадаць, купіць. Побач з феадальнай уласнасцю існуе аднаасобная ўласнасць селяніна і рамесніка на прылады вытворчасці і на сваю прыватную гаспадарку, аснаваная на асабістай працы. Такія вытворчыя адносіны ў асноўным адпавядаюць стану прадукцыйных сіл у гэты пе-

*) *К. Маркс і Ф. Энгельс*, т. XIV, стар. 17.

рыяд... Эксплуатацыя амаль такая-ж жорсткая, як пры рабстве,— яна толькі крыху змякчона. Класавая барацьба паміж эксплуататарамі і эксплуатуемымі з'яўляецца асноўнай рысай феадальнага ладу *).

Але ў XVIII стагоддзі феадальна-цэхавая гаспадарка ўжо выцяснялася капіталістычнай уласнасцю. Побач з феадальнымі маёнткамі і цэхамі раслі фермерскія гаспадаркі, развівалася мануфактура, фабрыкі, здабываючая і апрацоўваючая прамысловасць. Вялікага развіцця дасягнуў гандаль. Акрамя прыгонных сялян да трэцяга саслоўя належала таксама вялікая маса людзей, занятая ва ўсё больш развіваючыхся тыпах і галінах гаспадаркі: наёмныя рабочыя, сельскія фермеры, падзёншчыкі, інтэлігенцыя, сюды-ж адносілася гандлёва-прамысловая буржуазія. Натуральна, што з развіццём прадукцыйных сіл усё больш і больш абвастралася барацьба класаў унутры феадальнага грамадства.

Дваранства рэўнасна падтрымлівала манархію, а разам з ёю і феадальныя парадкі сваёю шпагай, а духавенства—пропаведдзю. Пануючая ідэалогія ўпаўне адпавядала інтарэсам вышэйшых саслоўяў. Каралеўская ўлада і каталіцкая царква лічыліся непаракаемымі аўтарытэтамі. Усякая крытыка існуючага ладу бязлітасна каралася як бязбожжа, як крамола. Царква мела каласальныя багацці. Яна атрымлівала вялікія падачкі ад каралеўскай улады, «бязгрэшныя даходы» ад манастырскіх мошчаў і іншых каталіцкіх святынь. Сваёй раскошай і распустай духоўная арыстакратыя не ўступала свецкай. Па меры выцяснення феадальнай уласнасці ўласнасцю капіталістычнай дваранства і духавенства ўсё больш ператвараліся ў паразітаў, дармаедаў, што жылі за кошт пагарджанага імі, прыніжанага і бяспраўнага трэцяга саслоўя. Той-жа самы працэс развіцця прадукцыйных сіл, які знішчаў гаспадарчую значымасць дваранства, узмацняў эканамічную магутнасць буржуазіі, яе ролю ў працэсе вытворчасці. Змены-ж у спосабе вытворчасці павінны былі прывесці да змен у грамадскім ладзе.

У асобе сваіх перадавых людзей буржуазія ўжо тады разумела, што справа ідзе аб захваце ўлады, бо эканамічна яна была ўжо мацней дваранства. Найбольш папулярнымі яе лозунгамі былі: свабода і роўнасць, улада народа і грамадскі добрабыт. Існаваўшыя ў зародкавым стане класавыя супярэчнасці ўнутры трэцяга саслоўя не знішчылі агульную нянавісць да вышэйшага саслоўя. Барацьба з феадальнымі парадкамі, знішчэнне ўлады феадальнага дваранства былі першачарговай задачай. Старыя грамадскія парадкі перашкаджалі далейшаму гістарычнаму развіццю, і таму «...патрабаванні, якія абараняла трэцяе саслоўе ў **сваёй барацьбе з дваранствам,** у агульных рысах сапраўды адпавядалі інтарэсам розных слаёў працоўнага насельніцтва таго часу» **).

У барацьбе супроць вышэйшых саслоўяў з асяроддзя рэвалюцыйнай буржуазіі выдзялілася адукаваная, асвечаная інтэлігенцыя, стаўшая ідэолагам гэтай барацьбы. Вольтэр, Русо, Дзідро, Гольбах, Гельвецый, Ламетры, Робінэ і інш. былі тымі вялікімі людзьмі, якія, па выражэнню Энгельса, прасвяцілі французскія галавы для надыходзячай рэвалюцыі. Яны былі выдатнымі вучонымі, філосафамі, публі-

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 119.
**) *К. Маркс і Ф. Энгельс,* т. XIV, стар. 18.

цыстамі, вялікімі рэволюцыйнымі мысліцелямі. Маладая растучая буржуазія перажывала тады сваю вясну. Яна была перадавым класам тагочаснага грамадства. Яна змагалася за больш прагрэсіўны спосаб вытворчасці, за новыя грамадскія парадкі. Яе ідэолагі падверглі бязлітаснай крытыцы феадальныя грамадскія адносіны. Ім здавалася, што разбураючы несправядлівасць існуючага ладу, яны знішчаюць зло наогул, што барацьба ідзе за царства вечнага розуму і вечнай справядлівасці.

У гэтым артыкуле мы спынімся на агульных філасофскіх поглядах толькі некаторых французскіх матэрыялістаў—Дзідро, Гольбаха, Гельвецыя, галоўнай заслугай якіх была прапаганда матэрыялізма і атэізма. Яны напісалі цэлы рад бліскучых прац, захаваўшых сваё значэнне да нашага часу. Свае кнігі аўтары вымушаны былі зачастую выдаваць пад чужымі імёнамі даўно памёршых людзей, як напрыклад, вядомую «Сістэму прыроды» Гольбаха. Выдаўцы вымушаны былі друкаваць іх нелегальна ў Галандыі, перавозячы на радзіму. Аб вялікай сіле гэтых выдатных кніг можна меркаваць хоць-бы па таму, што філасофскія атэістычныя работы гэтых аўтараў урад і царква прыгаварылі да публічнага спалення, а людзі, якія захоўвалі гэтыя кнігі, асуджаліся на шматгадовае турэмнае зняволенне. Дзідро—адзін з найбольш відных французскіх матэрыялістаў, рэдактар вядомай энцыклапедыі, у якой у супрацоўніцтве з лепшымі вучонымі, ён абагуліў навуковыя веды свайго часу,—перанёс за сваю дзейнасць не толькі цкаванне і нападкі, але і турэмнае зняволенне.

## Матэрыялістычная філасофія XVIII века

У «Святым сямействе» Маркс указвае на фізіку Дэкарта і сенсуалізм Локка, як на дзве крыніцы французскага матэрыялізма, якія разам з тым абумовілі ў ім і два напрамкі. Французскія матэрыялісты зыходзілі з матэрыялістычных бакоў філасофіі Дэкарта і Локка таму, што фізічныя погляды Дэкарта і вучэнне аб пазнанні Локка з'яўляліся найбольш навуковымі, перадавымі для свайго часу. Але разам з тым Дзідро, Гольбах і іх аднадумцы рашуча парвалі з метафізічнымі поглядамі і абрушыліся на іх.

У пабудове сваёй філасофіі французскія матэрыялісты зыходзяць з цвёрдых навуковых асноў. У прадмове да «Сістэмы прыроды» Гольбах піша:

> «Чалавек няшчасны толькі таму, што ён не ведае прыроды... Ён захацеў быць метафізікам, перш чым быць фізікам; ён пагардзіў рэальнасцю, каб размышляць над хімерамі... ён не асмеліўся асвячаць свой розум, супроць якога яго настроілі з ранніх год... Адным словам, чалавек адвярнуўся ад вывучэння прыроды і палічыў за лепшае пагоню за зданямі, якія, падобна блукаючым аганькам, што сустракаюцца ўначы падарожніку, застрашылі яго, асляпілі і прымусілі пакінуць тую простую дарогу ісціны, без якой ён не можа дасягнуць шчасця» *).

Не ведаючы сапраўднага свету і не жадаючы яго вывучаць, чалавек палічыў за лепшае жыць у свеце, створаным яго ваабражэннем. Клапоцячыся аб патустароннім свеце, чалавек пагардзіў рэальным

*) *Гольбах* „Сістэма прыроды“, стар. 3.

зямным жыццём. Адзіным выхадам з метафізічнага круга, з улады адурманьваючых забабонаў, а, значыць, і дарогай да чалавечага шчасця, з'яўляецца пазнанне законаў прыроды. Розум, навучаны вопытам, вызваліць чалавецтва ад заблуджэнняў, што з'яўляюцца прычынай палітычнай тыраніі, бясконцых войн, рэлігійнага фанатызма, маральнага падзення чалавека і наогул усіх соцыяльных зол. Мэта гэтай кнігі,—заключае Гольбах у прадмове,—вярнуць чалавека да прыроды, унушыць яму павагу да розуму і любоў к добрачыннасці, рассеяць змрок, які скрывае ад яго адзіны шлях да шчасця.

Асноўнае пытанне філасофіі—адносіны духа да матэрыі, мышлення да быцця—французскія матэрыялісты вырашалі ў матэрыялістычным сэнсе. Асноўным пытаннем, на якім будуецца ўвесь іх светапогляд, з'яўляецца паняцце матэрыі. Уся прырода і чалавек, як яе часціца, з'яўляюцца матэрыяльнымі. Звышнатуральныя істоты ёсць плод чалавечага ваабражэння.

«Прырода, калі яе разумець у самым шырокім сэнсе гэтага слова, ёсць вялікая цэлакупнасць, якая атрымліваецца ад злучэння розных вяшчэстваў, іх розных спалучэнняў і розных рухаў...

Сусвет, гэта каласальнае злучэнне ўсяго існуючага, прадстаўляе нам паўсюды толькі матэрыю і рух; гэта сукупнасць раскрывае перад намі толькі неабдымны і непрарыўны ланцуг прычын і вынікаў» *).

Значыць, вывучаць прыроду—гэта вывучаць рух матэрыі, бо акрамя яе ў свеце нічога не існуе. На пытанне, адкуль з'явілася матэрыя, французскія матэрыялісты адказваюць, што яна існавала заўсёды.

Такім чынам, французскія матэрыялісты лічаць, што прырода не мае патрэбы ў творцы, што ўсе яе змяненні не залежаць ад якой-бы то ні было пабочнай сілы, што прычыну ўсіх змяненняў трэба шукаць у ёй самой:

«Ідэя прыроды заключае ў сабе неабходным чынам ідэю руху. Але, спытаюць нас, адкуль гэтая прырода атрымала свой рух? Мы адкажам, што ад сябе самой, бо яна ёсць вялікае цэлае, па-за якім нішто не можа існаваць. Мы скажам, што рух, гэта—спосаб існавання, які выцякае неабходным чынам з сутнасці матэрыі; што матэрыя рухаецца дзякуючы ўласнай сваёй энергіі; што яе рух утвараецца ад уласцівых ёй сіл; што рознастайнасць яе рухаў і выцякаючых адсюль з'яў утвараецца ад розніцы ўласцівасцей, якасцей, спалучэнняў, якія заключаюцца першапачаткова ў розных пярвічных вяшчэствах, сукупнасцю якіх з'яўляецца прырода» **).

Іменна гэту акалічнасць адзначае Энгельс у «Дыялектыцы прыроды»:

«Трэба лічыць велізарным дастоінствам і чэсцю тагочаснай філасофіі, што яна не паддалася ўплыву абмежаванага пункту погляду тагочаснага прыродазнаўства, што яна—пачынаючы ад Спінозы і канчаючы вялікімі французскімі матэрыялістамі—на-

---

*) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 15.

**) Там жа стар. 23.

стойліва прабавала вытлумачыць свет з яго самога, прадаставіўшы дэтальнае апраўданне гэтага прыродазнаўству будучага» *).

Стала быць, той, хто разумее, што сабою прадстаўляе прырода, хто ведае рознастайнасць яе, той не стане шукаць па-за прыродай адметныя ад яе сілы.

«Калі пад прыродай мы станем разумець груду мёртвых, пазбаўленых усякіх уласцівасцей і чыста пасіўных вяшчэстваў, то, зразумела, мы павінны будзем шукаць па-за гэтай прыродай прынцып яе рухаў; але калі пад прыродай мы будзем разумець тое, што яна ёсць у сапраўднасці, іменна цэлакупнасць, розныя часткі якой маюць розныя ўласцівасці, дзейнічаюць згодна гэтым бесперапынна ўзаемадзеючым паміж сабой уласцівасцям, маюць вагу, цягацеюць да агульнага цэнтра, у той час як другія часткі ўдаляюцца ў напрамку да перыферыі, прыцягваюць і адштурхваюць адна другую, яднаюцца і раз'ядноўваюцца, вытвараюць і разлагаюць сваімі безупыннымі сутычкамі і збліжэннямі ўсе наглядаемыя намі целы,—тады нішто не прымусіць нас прыбягаць да садзейнасці звышнатуральных сіл, каб зразумець утварэнне назіраемых намі рэчаў і з'яў» **).

Выходзіць, што ўсё ў сусвеце знаходзіцца ў руху, што матэрыя не ведае спакою. «Абсалютны спакой»—абстрактная канцэпцыя. Яго няма ў прыродзе. Рух—настолькі-ж рэальная ўласцівасць, як даўжыня, шырыня, глыбіня.

У свеце адбываецца вечны кругаварот матэрыі. Паміж так званымі «трыма царствамі прыроды»—мінеральным, раслінным і жывёльным—існуе цесная сувязь. Адны жывёлы жывяцца другімі жывёламі і раслінамі. Расліны жывуць, беручы неабходныя для сябе вяшчэствы з паветра, вады і глебы. Тая частка матэрыі, якая сёння ўваходзіла ў састаў пэўнай расліны, заўтра стане часткай арганізма жывёлы. З камбінацый матэрыяльных частачак, з розных іх спалучэнняў складаюцца мінералы і жывёлы, расліны і чалавек.

«Ва ўтварэнні, росце і жыцці жывёл, раслін і мінералаў мы знойдзем толькі вяшчэствы, якія камбінуюцца, злучаюцца, накапляюцца, расшыраюцца і якія мала-па-малу ўтвараюць адчуваючыя, жывучыя, празябаючыя істоты, або істоты, пазбаўленыя гэтых уласцівасцей, якія, праіснаваўшы вядомы час у пэўным выглядзе, павінны загінуць, паслужыўшы гэтым для стварэння істот іншага віду» ***).

Вядома, з пункту погляду сучасных дасягненняў, у французскіх матэрыялістаў можна знайсці многа наіўнага. Так, напрыклад, агонь разумеецца імі як вешчаство, якое разглядаецца ў якасці прычыны жыцця; яны сцвярджаюць адвольнае зараджэнне арганізмаў у гніючых настоях. Але ўсё гэта тлумачыцца тагочасным станам навукі. Даследаванні аб працэсе гарэння былі апублікаваны пасля выхаду ў свет асноўнага твору французскіх філосафаў—«Сістэмы прыроды», а работы Пастэра, абвяргаючыя адвольныя зараджэнні ў сучасны момант, з'явіліся толькі ў XIX стагоддзі. Памыляючыся ў адносінах

*) *К. Маркс і Ф. Энгельс* т. XIV, стар. 479—180.
**) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 25—26.
***) Там-жа стар. 36—37.

адвольнага зараджэння жыцця, французскія матэрыялісты правільна падкрэслівалі сувязь усіх з'яў у свеце, адзінства трох царстваў прыроды, правільна адмаўлялі тэалагічны погляд на чалавека, як на вянец тварэння, правільна бачылі адзінства свету ў яго матэрыяльнасці.

Матэрыя здольна не толькі рухацца, яна, пры вядомай арганізацыі, здольна і мысліць. Мышленне не прыўнесена звонку ў цела чалавека. Мысліць матэрыяльны чалавечы мозг. Мышленне ёсць, па думцы французскіх матэрыялістаў, развітая форма адчувальнасці. «Розум з'яўляецца вынікам фізічнай адчувальнасці»,—гаворыць Гольбах. Дзідро меркаваў, што адчувальнасцю, здольнасцю адчуваць уладае ўсякая матэрыя, але ў рознай ступені.

Малекулы якога-небудзь цела, якое не ўладае «дзейнай адчувальнасцю», будучы асіміліраваны чалавекам, зрабіўшыся часткай чалавечага цела, робяцца адчувальнымі, г. зн. пераходзяць, як гаворыць Дзідро, са стану інертнай адчувальнасці ў стан дзейнасці. Значыць, адчувальнасць не з'яўляецца нейкай асаблівай сілай, чуждай матэрыі, а з'яўляецца ўласцівасцю, прысутнай матэрыі.

Дзідро бліскуча даказвае гэта:

> «Але вазьміце яйцо. «Вось што абвяргае ўсе вучэнні тэалогіі і ўсе храмы на зямлі. Што такое гэта яйцо? Маса неадчуваючая, пакуль у яго не ўведзен зародак, а калі ў яго ўведзен зародак, дык што гэта такое? Маса неадчуваючая, бо гэты зародак у сваю чаргу ёсць толькі інертная і грубая вадкасць. Якім чынам гэта маса пераходзіць да другой арганізацыі, да здольнасці адчуваць, да жыцця? З дапамогай цеплыні. А што ўтварае цеплыню? Рух». Жывёла, якая вылупілася з яйца, уладае ўсімі вашымі эмоцыямі, прарабляе ўсе вашы дзеянні. Ці станеце вы сцвярджаць разам з Дэкартам, што гэта—простая машына пераймання? Але над вамі разрагочуцца малыя дзеці, а філосафы адкажуць вам, што калі гэта машына, то вы—такая-ж машына. Калі вы прызнаеце, што паміж гэтымі жывёламі і вамі розніца толькі ў арганізацыі, то вы выявіце здаровы сэнс і разважнасць, вы будзеце правы; але адсюль будзе выцякаць заключэнне супроць вас, іменна, што з матэрыі інертнай, арганізаванай вядомым чынам, пад уздзеяннем другой інертнай матэрыі, затым цеплыні і руху, атрымліваецца здольнасць адчування, жыцця, памяці, свядомасці, эмоцый, мышлення» *).

Адно з двух: або дапусціць нейкі «скрыты элемент» у яйцы, які невядомым чынам пранікае ў яго ў момант пэўнай стадыі развіцця,—элемент аб якім невядома, ці займае ён прастору, ці матэрыяльны ён, ці знарок ствараемы. Гэта супярэчыць здароваму сэнсу і вядзе да супярэчнасцей і да абсурда. Або застаецца зрабіць «простае дапушчэнне, якое тлумачыць усё, іменна, што здольнасць адчування ёсць усеагульная ўласцівасць матэрыі або прадукт яе арганізаванасці» **).

Але Дзідро, няправільна лічачы ўяўленне як гэткае ўласцівасцю ўсякай матэрыі, займаў аднак у гэтым пытанні найбольш правільны пункт погляду сярод французскіх матэрыялістаў. Яго заслуга заключаецца ў тым, што ён атоесамляе адчуванне з матэрыяй і не выво-

*) „Размова Даламбера і Дзідро" цыцірую па XIII т. *Леніна*, стар. 29).
**) Там-жа.

дзіць адчування з руху матэрыі, як гэта рабілі вульгарныя матэрыялісты. Матэрыялістычныя погляды, растлумачвае Ленін, «не ў тым заключаюцца, каб выводзіць адчуванне з руху матэрыі або зводзіць да руху матэрыі, а ў тым, што адчуванне прызнаецца адною з уласцівасцей рухаючайся матэрыі. Энгельс у гэтым пытанні стаяў на пункце погляду Дзідро» *).

Разглядаючы псіхічную дзейнасць, як уласцівасць чалавечага цела, французскія матэрыялісты адмаўлялі, значыць, і душу як самастойную субстанцыю, якая існуе незалежна ад цела. «...Душа ёсць чалавек, разглядаемы ў адносінах да яго здольнасцей адчуваць, мысліць і дзейнічаць пэўным чынам, выцякаючым з яго ўласнай прыроды, г. зн. з яго ўласцівасцей, яго спецыфічнай арганізацыі і працяглых або кароткатэрміновых мадыфікацый, адчуваемых гэтай арганізацыяй з боку дзеючых на яе агентаў» **).

У тым-жа матэрыялістычным сенсе гаворыць аб душы Гельвецый: «Душа ёсць не што іншае як наша здольнасць адчуваць» ***). Калі так званая душа ёсць толькі пэўныя ўласцівасці чалавечага цела, то, стала быць, недарэчна гаварыць аб несмяротнасці душы.

Ці здольны мы пры дапамозе нашых пачуццяў і мышлення пазнаць навакольны свет? На гэта пытанне, якое прадстаўляе другі бок асноўнага пытання філасофіі, французскія матэрыялісты даюць станоўчы адказ. Паколькі навакольны свет матэрыяльны, а матэрыя ёсць усё тое, што ўздзейнічае якім-небудзь чынам на нашы пачуцці, то натуральна, што прырода, свет, наогул, пазнаваемы. Плеханаў і Дэборын адносілі французскіх матэрыялістаў да агностыкаў, да філосафаў, якія адмаўляюць магчымасць пазнання свету.

У творы «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю» Плеханаў пісаў:

> «Гісторыкі філасофіі звычайна процістаўляюць поглядам французскіх матэрыялістаў погляд Канта... Але гэта процістаўленне зусім не грунтоўна, і не цяжка было-б паказаць, што і Кант і французскія матэрыялісты стаялі, па сутнасці, на адным пункце погляду, але карысталіся ім па-рознаму і таму прыходзілі да розных вывадаў» ****).

Падобныя сцвярджэнні Плеханаў паўтарае і ў радзе іншых твораў, напрыклад, у «Нарысах па гісторыі матэрыялізма». Кант, як вядома, быў агностыкам, ідэалістам, сцвярджаўшым, што свет непазнавальны. Дзідро, Гольбах і Гельвецый, будучы ідэолагамі рэволюцыйнай французскай буржуазіі, якая адчувала патрэбу ў навуцы і даследванні і вывучэнні законаў прыроды ў мэтах развіцця прамысловасці, не маглі быць агностыкамі, бо гэта зусім не адпавядала-б гістарычным задачам таго часу. Наадварот, яны былі поўны ўпэўненасці ў магутнасці і сіле чалавечага розуму, высоўваючы яго, як вярхоўнага суддзю ўсяго існуючага. Таму гаварыць аб агульным пункце погляду ў Канта, з аднаго боку, і ў Дзідро, Гольбаха і іх аднадумцаў, з другога, значыць, зусім няверна ацэньваць французскіх матэрыялістаў.

У эпоху, калі ўсякае навуковае адкрыццё і свабоднае слова, што падрывала і абвяргала рэлігію, царква аб'яўляла ерассю і ўрад жорстка праследваў, французскія матэрыялісты рашуча і смела выступілі

*) *Ленін*, т. XIII, стар. 38.
**) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 81.
***) *Гельвецый* „Аб чалавеку", стар. 56.
****) *Плеханаў*, т. VII, стар. 63.

за навуку супроць рэлігіі. Яны заклікалі не да неба, а да зямлі, да фізікі, да вопыту, змагаліся за стварэнне вопытнай навукі, аснаванай на прыродазнаўча-навуковых даных матэрыялістычнай філасофіі. У гэтых адносінах французскія матэрыялісты паслядоўна выражалі погляды сваёй эпохі і найбольш перадавога тады грамадскага класа—буржуазіі.

«Буржуазіі для развіцця яе прамысловасці патрэбна была навука, якая даследавала-б уласцівасці фізічных цел і форм праяўлення сіл прыроды. Да таго-ж часу навука была пакорлівай служанкай царквы, і ёй не было дазволена выходзіць за межы, устаноўленыя верай: карацей—яна была чым угодна, толькі не навукай. Цяпер навука паўстала супроць царквы; буржуазія мела патрэбу ў навуцы і прыняла ўдзел у гэтым паўстанні» *).

### Атэізм французскіх матэрыялістаў.

Асабліва вялікую дзейнасць французскія матэрыялісты праявілі ў барацьбе з рэлігіяй. Іх пяру належыць цэлы рад бліскучых атэістычных работ. У сваёй барацьбе супроць феадалізма буржуазія немінуча павінна была перш за ўсё сутыкнуцца з каталіцкай царквой, бо яна была «... вялікім інтэрнацыянальным цэнтрам феадальнай сістэмы... Яна акружыла феадальны лад свяшчэнным арэолам бажэственнай благадаці. Сваю ўласную іерархію яна ўстанавіла па феадальнаму ўзору, і ў канцы канцоў яна была самым буйным феадалам уладальнікам, таму што ёй належала не менш трэцяй часткі ўсяго каталіцкага землеўладання. Перш чым уступіць у барацьбу са свецкім феадалізмам у кожнай краіне паасобку, неабходна было разбурыць гэту яго цэнтральную, свяшчэнную арганізацыю» **).

Атэізм Гольбаха, Дзідро, Гельвецыя і інш. непасрэдна звязан і абумоўлен іх матэрыялістычнай філасофіяй. Рэлігію французскія матэрыялісты разглядалі як вынік невуцтва, з аднаго боку, і абману народа духавенствам,—з другога. Страх і няўменне вытлумачыць з'явы прыроды—вось асноўная прычына, парадзіўшая рэлігію.

«Невуцтва і страх—піша Гольбах,—вось дзве багатыя крыніцы заблуджэнняў чалавецтва. Не дзіўна, што богі, пароджаныя трывогай і няшчасцямі і стаўшыя яшчэ мярзотней у выніку містыфікацыі і палітыкі, мала-па-малу давялі людзей да поўнага вар'яцтва. Страх, які стаяў ля калыскі багоў, не дазваляў людзям разважаць разумна, няведанне сіл прыроды не дазваляла людзям убачыць у палохаючых іх стыхійных катастрофах немінучае дзеянне гэтых сіл» ***).

Гэты жах карэніцца ў невуцтве, у няўменні вытлумачыць здзіўляючыя чалавека велічныя сілы прыроды, перад тварам якіх чалавек адчувае сваё поўнае бяссілле. Вера людзей у бога «... даказвае толькі тое, што, пагразаючы ў невуцтве, яны адчувалі пачуцце захаплення або страху і што ў сваім спалоху яны прабавалі намаганнямі ваабражэння ўстанавіць як-небудзь невядомую прычыну здзіўляўшых іх або палохаўшых з'яў. У залежнасці ад характару сваёй фантазіі, яны надавалі рознае тлумачэнне гэтай незразумелай для іх прычыне. Усе

*) *К. Маркс і Ф. Энгельс*, т. XVI, ч. II, стар. 296.
**) Там-жа, стар. 295—296.
***) *Гольбах* „Свяшчэнная зараза", стар. 20, ОГІЗ 1936.

сазнаюцца, што не могуць ні пазнаць, ні вызначыць гэтай прычыны; усе, тым не менш, гавораць, што ўпэўнены ў яе існаванні; а калі пачынаюць настойліва дамагацца ад іх адказу, то яны гавораць нам аб нейкім *духу*, слове, якое ўказвае толькі на невуцтва таго, хто вымаўляе яго, не ўмеючы звязаць з ім ніякага пэўнага ўяўлення» *).

Французскія матэрыялісты стаяць на правільным шляху, указваючы на страх і невуцтва, як на прычыны, якія парадзілі рэлігійнае ўяўленне. Але французскія матэрыялісты не дайшлі да разумення сацыяльных карэнняў рэлігіі. Палажэнне, што «страх стварыў багоў», было агульным, абстрактным, пазбаўленым поўнага сацыяльнага зместу. Правільнае разуменне гэтага пытання дае толькі марксізм.

Ленін у сваёй рабоце «Аб адносінах рабочай партыі да рэлігіі» гаворыць, што ў сучасным капіталістычным грамадстве карэнні рэлігіі галоўным чынам *сацыяльныя*.

> «Сацыяльная прыдаўленасць працоўных мас, як-бы поўная бездапаможнасць іх перад сляпымі сіламі капіталізма, які прычыняе штодзённа і штогадзінна ў тысячу раз больш самых жудасных пакут, самых дзікіх мучэнняў радавым рабочым людзям, чым усякія з раду вон выходзячыя падзеі накшталт войн, землетрасенняў і т. д.,—вось у чым самы глыбокі сучасны корань рэлігіі. «Страх стварыў багоў». Страх перад сляпой сілай капітала, якая слепа, бо не можа быць прадугледжана масамі народа, якая на кожным кроку жыцця пралетарыя і дробнага гаспадарыка пагражае прынесці яму і прыносіць «раптоўнае», «неспадзяванае», «выпадковае» разарэнне, пагібель, ператварэнне ў жабрака, у паупера, у прастытутку, галодную смерць,—вось той *корань* сучаснай рэлігіі, які перш за ўсё і больш за ўсё павінен мець на ўвазе матэрыяліст, калі ён не хоча заставацца матэрыялістам прыгатавіцельнага класа» **).

Гольбах вельмі метка і востра падмячае тую акалічнасць, што рэлігія ўзбуджае і дзейнічае на чалавечае ваабражэнне, з'яўляючыся такім чынам сродкам адурманьвання чалавека, дапамагае яму ўцячы ад жахаў і бядот навакольнай рэчаіснасці. Далейшым развіццём гэтага матэрыялістычнага сцвярджэння Гольбаха з'яўляецца геніяльнае палажэнне Маркса, напоўненае канкрэтным сацыяльным зместам і рэвалюцыйным атэізмам: «Рэлігія—опіум для народа».

Іменна ў гэтым сэнсе гаворыць Ленін, што «рэлігія—род духоўнай сівухі». Але Гольбах не даходзіць да разумення класавай сутнасці рэлігійнага дурману. Гэта здолелі зрабіць толькі настаўнікі і творцы пралетарскага светапогляду.

> «Рэлігія,—піша Ленін,—ёсць адзін з відаў духоўнага гнёту, які ляжыць усцяж і паўсюды на народных масах, задушаных вечнай работай на другіх, нястачай і адзіноцтвам. Бяссілле эксплуатуемых класаў у барацьбе з эксплуататарамі гэтак сама немінуча параджае веру ў лепшае загробнае жыццё, як бяссілле дзікуна ў барацьбе з прыродай параджае веру ў багоў, чарцей, у цуды і т. п. Таго, хто ўсё жыццё працуе і церпіць нястачы, рэлігія вучыць смірэнню і цярпенню ў зямным жыцці, уцяшаючы надзеяй на нябесную ўзнагароду» ***).

*) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 341.
**) *Ленін*, т. XIV, стар. 71.
***) *Ленін*, т. VIII, стар. 419.

Французскія матэрыялісты са страснаю сілай нянавісці нападалі на бога, вера ў якога, падтрымліваемая карыслівымі інтарэсамі жрацоў, прыносіць так многа няшчасцяў. Яны называлі бога: хімерай, дзікім тыранам, ідалам, катам, злосным людаедам і т. п. Яны ўлічалі духавенства ў супярэчлівых недарэчнасцях свяшчэнных кніг і самога разумення аб богу.

> «Сапраўды, што гэта за істота, адносна якой нельга сцвярджаць нічога, што не было-б зараз-жа абвергнута? Што гэта за добры бог, які гневаецца без канца; усемагутны бог, якому не ўдаецца ніколі ажыццявіць сваіх планаў; бясконца блажэнны бог, блажэнства якога заўсёды парушаецца; любячы парадак бог, які ніколі не можа захаваць парадку; што гэта за справядлівы бог, які дапушчае, каб нявіннейшыя з яго падданых цярпелі вечна несправядлівасць?.. Што гэта за ўсеведаючая істота, якая лічыць неабходным падвяргаць іспытам свае тварэнні? Што гэта за ўсемагутная істота, якая не можа надаць сваім тварэнням пажаданую ёй дасканаласць? Што гэта за істота, якая ўладае ўсемагчымымі бажэственнымі якасцямі, а трымае сябе заўсёды па-чалавечаму? Што гэта за істота, якая можа зрабіць усё, але не ўспявае ні ў чым і паступае зусім недастойным яе чынам? Яна злобна, несправядліва, люта, зайздросна, раздражальна, помслівa падобна чалавеку,—церпіць, як і апошні, няўдачу ва ўсіх сваіх пачынаннях, валодаючы, аднак, усімі атрыбутамі, здольнымі гарантаваць яе ад чалавечых недахопаў» *).

Барацьба з нябеснай тыраніяй была для французскіх матэрыялістаў барацьбой з тыраніяй абсалютызма і феадальнымі парадкамі. «Я ненавіджу,—гаворыць Дзідро,—усіх памазанікаў божых, як-бы яны ні называліся... і нам не патрэбна ні свяшчэннікаў, ні багоў» **).

Ленін, вельмі высока цэнячы атэістычныя творы французскіх матэрыялістаў і ўказваючы, што Энгельс даўно раіў распаўсюджваць баявую атэістычную літаратуру канца XVIII века, гаварыў:

> «Бойкая, жывая, таленавітая, астраумна і адкрыта нападаючая на пануючую папоўшчыну публіцыстыка старых атэістаў XVIII века скрозь і ўсюды акажацца ў тысячу раз больш падыходзячай для таго, каб прабудзіць людзей ад рэлігійнага сну, чым сумныя, сухія, не ілюстраваныя амаль ніякімі ўмела падабранымі фактамі, пераказы марксізма, якія пераважаюць у нашай літаратуры і якія (няма чаго граха таіць) часта марксізм скажаюць» ***).

### Недахопы французскага матэрыялізма

Няўменне зразумець социяльную сутнасць рэлігіі, «матэрыялізм прыгатавіцельнага класа», тлумачыцца абмежаванасцю, уласцівай усяму дамарксаваму матэрыялізму. Правільна разглядаючы рух як неад'емную ўласцівасць матэрыі, французскія матэрыялісты разумелі, аднак, рух толькі як механічны. «Рух,—гаворыць Гольбах,—гэта—намаганне, з дапамогай якога якое-небудзь цела змяняе або імк-

---

*) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 362—363.
**) *Дзідро*. Выбраныя творы т. II, стар. 27.
***) *Ленін*, т. XXVII, стар. 184.

нецца змяніць сваё месцапалажэнне» *). Разумеючы пад рухам не змяненне наогул, а толькі перамену месца ў прасторы, толькі прыцяжэнне і адштурхванне, французскія матэрыялісты ўсе формы руху матэрыі, усе змены, што адбываюцца ў прыродзе, у грамадстве, у чалавечым мышленні, зводзілі да механічнай формы.

«Можна,—гаворыць Гольбах,—без дапамогі ўсякай хімерычнай прычыны, вытлумачыць усе з'явы аднымі законамі руху, узаемаадносінамі паміж рознымі істотамі, іх зроднасцю, іх аналогіямі, іх прыцяжэннямі і іх адштурхоўваннямі, іх прапорцыямі і іх складаннямі і іх раскладаннямі» **).

Гэты пункт погляду прыводзіў французскіх матэрыялістаў да няправільнага, скажонага разумення рэчаіснасці.

Механістычнасць французскіх матэрыялістаў тлумачыцца тагочасным станам навукі. Найбольшага развіцця к таму часу дасягнула толькі механіка. Гэта быў яе «залаты век», яна зрабіла выдатныя поспехі. Варта толькі ўспомніць адкрыццё Ньютона, які растлумачыў рух нябесных цел, вынаходства тэлескопа, мікраскопа і цэлы рад іншых вынаходак, з дапамогаю якіх былі праведзены велізарныя ўдасканаленні ў галіне тэхнікі, паскорыўшыя развіццё прадукцыйных сіл. Хімія, якая лічыла тады агонь за асобае вешчаство, і, асабліва, біялогія,—рабілі толькі першыя свае крокі. Таму, зразумела, што французскія матэрыялісты апіраліся ў сваёй філасофіі на механіку, як на найбольш перадавую для свайго часу навуку.

Другая абмежаванасць французскага матэрыялізма заключаецца ў яго метафізічнасці ў сэнсе антыдыялектыкі. Свет яны ўяўлялі сабе так, нібы ён складаецца з гатовых не звязаных адзін з другім прадметаў, законы прыроды яны ўяўлялі як вечны, нязменны, раз і назаўсёды ўстаноўлены «кодэкс прыроды». Развіццё, як пераход у новую якасць, яны не дапушчалі, баючыся парушыць паступовасць і адзінства матэрыяльнага свету. Такім чынам прырода з усімі сваімі з'явамі рухалася як па замкнутаму кругу. Усё ў прыродзе, сцвярджалі яны, адбываецца неабходным чынам, выпадковасці няма; выпадковасць—толькі выражэнне нашага няведання. Яны бяссільны былі вытлумачыць крыніцу руху працэсаў, што адбываюцца ў прыродзе і грамадстве, яны адмаўлялі супярэчнасць, як прычыну развіцця, лічылі супярэчнасць неўласцівым свету, ненатуральным станам чалавечага грамадства.

«Другая спецыфічная рыса абмежаванасці гэтага матэрыялізма,—піша Энгельс,—заключаецца ў нездольнасці яго глянуць на свет як на працэс, як на вешчаство, якое знаходзіцца ў беспынным развіцці. Гэтая рыса адпавядала тагочаснаму стану прыродазнаўства і звязанаму з ім метафізічнаму, г. зн. антыдыялектычнаму, метаду філасофскага мышлення. Прырода знаходзіцца ў вечным руху; гэта ведалі і тады. Але, па тагочаснаму ўяўленню, гэты вечны рух адбываўся ў адным нязменным кругу і, такім чынам, заставаўся, уласна кажучы, на адным месцы: ён заўсёды прыводзіў да адных і тых самых нязменных вынікаў. Такое ўяўленне было тады немінуча. Кантаўская тэорыя ўзнікнення сонечнай сістэмы тады толькі што з'явілася і здавалася простым кур'ёзам. Гісторыя развіцця зямлі, геалогія,

*) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 17.
**) Там-жа стар. 514.

была яшчэ зусім невядома. Мысль аб паходжанні сучасных жывых істот шляхам працяглага развіцця, якое вядзе ад простага да складанага, не магла яшчэ тады мець навуковай асновы. Немінучай рабілася таму адсутнасць гістарычнага погляду на прыроду» *).

Вядомы натураліст-класіфікатар таго часу Лінней меркаваў, што відаў жывёлін існуе столькі, колькі іх у пачатку стварыла бясконцая істота, г. зн. бог. У XVIII в. лічылі, што працэс развіцця жывёлы ёсць простае павелічэнне данай у зародку маленькай аднатыпнай істоты; такім чынам, меркавалі, што курыца ў мікраскапічным выглядзе ўжо была ў яйцы. Адзін від жывёл ніяк, па думцы тагочасных даследчыкаў прыроды, не быў звязан з другім відам.

Трэці недахоп французскіх матэрыялістаў заключаўся ў тым, што «яны «сутнасць чалавека» разумелі абстрактна, а не як «сукупнасць» (вызначаных канкрэтна-гістарычна) «усіх грамадскіх адносін» і таму толькі «тлумачылі» свет, тады калі справа ідзе аб «змяненні» яго, г. зн. не разумелі значэння «рэволюцыйнай практычнай дзейнасці» **).

### Соцыяльныя погляды французскіх матэрыялістаў

Матэрыялісты XVIII века, будучы метафізікамі, не бачылі гістарычную абумоўленасць сучаснага ім грамадства.

Гольбах, Гельвецый і іх саратнікі, як і ўсе дамарксавыя матэрыялісты, былі матэрыялістамі толькі знізу (у пытаннях прыроды), зверху-ж, у пытаннях грамадства, яны, не разумеючы законаў гістарычнага развіцця, адступалі ад свайго вучэння і пераходзілі на ідэалістычныя пазіцыі. Матэрыялістычнае разуменне грамадскага развіцця, адзіна навуковае разуменне гісторыі адкрыў толькі Маркс.

Аднак, з'яўляючыся сенсуалістамі, смела развіваючы далей вучэнне Локка, французскія матэрыялісты былі папярэднікамі навуковага соцыялізма. Чалавек ад прыроды не злы і не добры, сцвярджалі яны, і ніякіх уроджаных ідэй ён не мае. Усе людзі роўны па сваіх разумовых здольнасцях, і толькі ўмовы жыцця і выхавання індывідуалізуюць людзей, цалкам вызначаюць увесь змест кожнага паасобнага чалавека.

«Калі чалавек чэрпае ўсе свае веды, адчуванні і інш. з пачуццёвага свету і вопыту, які атрымліваецца ад гэтага свету, то трэба, стала быць, так устроіць навакольны свет, каб чалавек пазнаваў у ім сапраўды-чалавечае, каб ён прывыкаў у ім выхоўваць у сабе чалавечыя ўласцівасці. Калі правільна зразуметы інтарэс складае прынцып усякай маралі, то трэба, стала быць, імкнуцца к таму, каб прыватны інтарэс паасобнага чалавека супадаў з агульначалавечымі інтарэсамі... Калі характар чалавека ствараецца акалічнасцямі, то трэба, стала быць, зрабіць акалічнасці чалавечнымі» ***).

Падобныя сцвярджэнні французскіх матэрыялістаў з'яўляюцца соцыялістычнай тэндэнцыяй, якая непасрэдна прыводзіць,—гаворыць Маркс,—да соцыялізма і комунізма.

Далейшым развіццём гэтай тэндэнцыі з'яўляюцца вучэнні англійскіх і французскіх соцыялістаў-утапістаў.

---

*) *К. Маркс і Ф. Энгельс*, т. XIV, стар. 643.
**) *Ленін*, т XVIII, стар. 10.
***) *К. Маркс і Ф. Энгельс*, т. III, стар. 160.

Соцыяльныя ідэалы французскіх матэрыялістаў былі ідэаламі ўтапічнымі, паколькі пытанне аб спалучэнні асабістага інтарэсу з грамадскім ставіцца імі абстрактна-тэарэтычна. Яны не бачылі, ды ў той час і не маглі бачыць, соцыяльную сілу, якая павінна быць тварцом новага грамадства. Ім здавалася, што асвета прывядзе народ да разумення агульнай карысці. Яны не маглі паказаць рэальныя законы развіцця чалавечай гісторыі, якія з навуковай дасканаласцю даказвалі-б трыумф іх ідэалаў. Практычна іх ідэалы служылі гістарычным задачам свайго часу—разбурэнню феадальна-прыгонніцкага грамадства і ўстанаўленню панавання буржуазных парадкаў.

У якасці метафізікаў французскія матэрыялісты разглядалі чалавечае грамадства не як адзінае цэлае, а як «механічны агрэгат індывідаў» *). У аснову ўтварэння грамадства яны кладуць вельмі папулярны ў XVIII веку «Грамадскі дагавор». Пабуджаемы натуральнымі патрэбнасцямі (голад, смага, патрэба ў адзенні, жыллі), чалавек прыходзіць да мыслі аб карысці аб'яднання. Першапачаткова людзі заключаюць пагадненне аб барацьбе з драпежнікамі, аб рыбнай лоўлі, аб паляванні. Затым заключаюцца новыя пагадненні, якія ахоўваюць жыццё і ўласнасць людзей унутры грамадства. Такім шляхам, па думцы французскіх матэрыялістаў, узнікае «натуральнае грамадства».

> «Людзі, аб'яднаўшыся адзін з другім для жыцця ў грамадстве, заключылі фармальным або маўклівым чынам *дагавор*, у сілу якога яны абавязаліся аказваць адзін другому паслугі і не шкодзіць адзін другому. Але паколькі чалавек, па сваёй прыродзе, схілен шукаць у любы момант свой добрабыт у задавальненні сваіх мімалётных страсцей або капрызаў, не лічачыся зусім са сваімі бліжнімі, то неабходна была сіла, якая ўтрымлівала-б яго ў рамках доўгу... Гэта сіла—*закон*...
>
> Але паколькі грамадства—асабліва, шматлікае—можа збірацца толькі з цяжкасцю, паколькі ў гэтым выпадку выражэнне яго волі суправаджалася-б непарадкамі, то яно вымушана выбіраць грамадзян, да якіх яно мае давер'е. Яно робіць іх тлумачамі сваёй волі і ўручае ім уладу, неабходную для таго, каб прымусіць выконваць яе. Такаво паходжанне ўсякага *ўрада*, які з'яўляецца законам толькі тады, калі ён грунтуецца на добраахвотнай згодзе грамадства, без якога ён з'яўляецца толькі гвалтам, узурпацыяй, разбоем... Паколькі ўрад запазычвае сваю ўладу ад грамадства і ўстаноўлен толькі для дабра яго, то ясна, што грамадства можа заўсёды, калі гэтага патрабуюць яго інтарэсы, скінуць гэтую ўладу, змяніць форму свайго ўрада, расшырыць, або абмежаваць уладу, уручаную ім сваім правадырам, у адносінах да якіх яно захоўвае заўсёды вярхоўны аўтарытэт, у сілу непарушальнага закона прыроды, які патрабуе, каб частка была падпарадкавана цэламу» **).

Але з часам у гэтым натуральным грамадстве ўлада узурпіруецца феадаламі. Трэба звергнуць феадалаў і вярнуць «страчаны рай».

Такім чынам, французскія матэрыялісты антыдыялектычна разглядаюць грамадства. Феадалізм для іх не з'яўляецца гістарычна склаўшымся, акрэсленым этапам развіцця чалавечага грамадства. Феада-

*) *Ленін*, т. I, стар. 62.
**) *Гольбах* „Сістэма прыроды", стар. 110—111.

-лізм яны разглядалі як лад, які ўзнік у выніку парушэння грамадскага дагавора, а таму і ненатуральны, як лад, які нельга ўзгадніць з законамі прыроды. Значыць, адпраўным пунктам сваіх грамадскіх поглядаў французскія матэрыялісты бралі раз назаўсёды даную «прыроду чалавека», разумеючы яе абстрактна.

Чалавек разглядаецца імі па-за грамадствам, як ізаляваны індывід. Гэты-ж погляд быў пакладзен у аснову разумення маралі. Чалавек па прыродзе сваёй імкнецца да шчасця, ён шукае прыемнасцей і ўнікае пакут. Дабро—гэта прыемнасць, бо спрыяе самазахаванню чалавека. Зло—гэта тое, што прычыняе пакуты, прыносіць шкоду. Імкнучыся да прыемнасці і ўнікаючы зла, чалавек дзейнічае з пачуцця самазахавання, зыходзіць са свайго асабістага інтарэсу. Гэты прынцып правільна зразуметага інтарэсу французскія матэрыялісты распаўсюджваюць на ўсе дзеянні чалавека і грамадства. Усё пабудавана на інтарэсе: любоў да дзяцей, дружба, гераізм,—усё прыведзена ў дзеянне інтарэсам. Калі ў аснове чалавека ляжыць асабісты інтарэс, то грамадства таксама кіруецца інтарэсам, але ўжо інтарэсам усяго народа. Адсюль учынкі, накіраваныя на ўзмацненне дзяржавы, з'яўляюцца добрачыннымі, і парочнымі тыя, якія яе аслабляюць.

Разглядаючы ўзаемаадносіны прыватнага і грамадскага інтарэсу, французскія матэрыялісты вучаць, што чалавек можа дабіцца задавальнення свайго інтарэсу толькі ў грамадстве. Грамадскае цэлае складаецца з асабістых інтарэсаў. Кожны чалавек дабіваецца ажыццяўлення асабістага інтарэсу, і такім чынам складаецца грамадская выгада. Асоба не павінна толькі дзейнічаць ва ўшчэрб цэламу, у гэтым сэнсе асабісты інтарэс павінен быць «разумна зразуметым» асабістым інтарэсам. Але чалавек, не з'яўляючыся па сваёй прыродзе ні злым, ні добрым, робіцца тым ці іншым пад уплывам уздзеяння на яго асяроддзя. Уздзеянні грамадскіх умоў выхоўваюць не толькі розум, але і добрачыннасць. Усе людзі пры «разумным грамадскім устройстве» здольны дасягнуць высокай маральнай дасканаласці. Не толькі разумовыя здольнасці, але і маральныя якасці вызначаюцца грамадскімі ўмовамі.

Астрыё маралі французскіх матэрыялістаў накіравана супроць двудушша, ханжаства, царкоўнай маралі феадалізма, якая, прапаведваючы аскетызм, асуджаючы асабісты інтарэс, адцягвала яго помыслы ад «грэшнай зямлі» у патустаронні свет.

Выступаючы з рэзкай крытыкай феадальнага ладу і патрабуючы яго змянення, французскія матэрыялісты не ўзвысіліся да разумення сапраўдных прычын грамадскага развіцця. Яны меркавалі, што грамадскі лад вызначаецца норавамі, поглядамі людзей. Значыць, каб змяніць грамадства к лепшаму, трэба змяніць погляды людзей. Ад чаго-ж залежаць погляды і норавы? Ад сацыяльнага асяроддзя, адказвалі французскія матэрыялісты. Аб'яўляючы погляд вынікам сацыяльнага асяроддзя, а асяроддзе вынікам погляду, Гольбах, Гельвецый і інш. пападалі ў зачараваны круг, з якога не было выхаду. Яны дайшлі такім чынам да ўзаемадзеяння, не здолеўшы ўзвысіцца над ім, дайсці да разумення ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства і галоўнай сілы гэтых умоў—спосабу вытворчасці, які ў канчатковым выніку вызначае форму грамадскага ладу, развіццё грамадства і характар яго ідэй. Не знаходзячы метада вырашэння гэтага пытання, французскія матэрыялісты, упадаючы ў супярэчнасць з уласнымі сцвярджэннямі, бачылі ў ідэях асноўную прычыну развіцця. «Дабра-

чыннасці грамадзян залежаць ад дасканаласці законаў; дасканаласць законаў залежыць ад прагрэса чалавечага розуму» *).

Шлях да разумення агульнага дабра ляжыць, па іх думцы, цераз асвету. Расчышчаючы дарогу ад забабонаў, змагаючыся супроць царкоўна-феадальнай ідэалогіі, французскія матэрыялісты прымаюць, аднак, погляды людзей за аснову грамадскага развіцця.

> «У гістарычнай галіне,—гаворыць Энгельс,—стары матэрыялізм здраджваў сабе, лічачы дзеючыя там ідэальныя пабуджальныя сілы апошнімі прычынамі падзей, замест таго, каб даследаваць, штó за імі крыецца, якавы пабуджальныя сілы гэтых пабуджальных сіл. Не ў тым заключалася яго непаслядоўнасць, што ён прызнаваў існаванне *ідэальных* пабуджальных сіл, а ў тым, што ён спыніўся на іх, не імкнучыся пранікнуць далей, дайсці да прычын, стварыўшых гэтыя сілы» **).

Выступаючы супроць існуючага грамадства, абвяшчаючы такі грамадскі парадак, які быў-бы аснаваны на пачатках розуму, французскія матэрыялісты змагаліся па сутнасці толькі за буржуазны лад, за панаванне буржуазнай уласнасці.

> «Захаванне ўласнасці,—гаворыць Гельвецый,—ёсць маральны бог дзяржавы: яна падтрымлівае тут хатні мір і прымушае царстваваць справядлівасць; таму што людзі аб'ядналіся для таго, каб забяспечыць сабе сваю ўласнасць; таму што справядлівасць, якая змяшчае ў сабе адной амаль усе дабрачыннасці, заключаецца ў тым, каб аддаваць усякаму тое, што яму належыць, а яна зводзіцца, значыць, да падтрымання гэтага права ўласнасці. Нарэшце, таму што розныя законы былі заўсёды толькі рознымі спосабамі забяспечыць грамадзянам гэтае права» ***).

Таксама і асабісты інтарэс, які так папулярызаваўся французскімі матэрыялістамі, які з'яўляўся ва ўмовах XVIII века пратэстам супроць падаўлення асобы феадальнымі парадкамі,—прывёў у сваім далейшым развіцці ва ўмовах капіталізма да карыслівага інтарэсу буржуазіі. Палітычныя патрабаванні французскіх матэрыялістаў роўнасці і свабоды азначалі толькі знішчэнне саслоўных прывілеяў, замены феадальна-абсалютысцкай дзяржавы дзяржавай буржуазнай. Іх разуменне роўнасці азначала толькі фармальную роўнасць усіх перад буржуазным законам, іх мараль азначала буржуазную справядлівасць,—свабода была свабодай для буржуазіі, свабоднай ад усякай уласнасці рабочай сілы.

> «Каб яе ўладальнік (рабочы— Г. Я.) мог прадаваць яе як тавар, ён павінен мець магчымасць распараджацца ёю, значыць, павінен быць свабодным уласнікам сваёй здольнасці да працы, свабоднай асобай. Уласнік рабочай сілы і ўласнік грошай сустракаюцца на рынку і ўступаюць паміж сабою ў здзелку як роўнапраўныя тавараўладальнікі, якія розняцца толькі тым, што адзін купляе, у той час як другі прадае, значыць, як юрыдычна роўныя асобы» ****).

Прадстаўляючы аб'ектыўна інтарэсы буржуазіі і «выдаючы» бур-

---

*) *Гельвецый* „Аб чалавеку", стар. 278.
**) *К. Маркс і Ф Энгельс*, т. XIV, стар. 668.
***) *Гельвецый* „Аб чалавеку", стар. 414.
****) *Маркс* „Капітал", т. I, стар. 119, выд. 1936 г.

жуазны парадак за агульначалавечы, французскія матэрыялісты зусім шчыра памыляліся і не праследавалі ніякіх своекарыслівых мэт.

Аб гэтым папярэджваў Ленін:

«Неабходна агаварыцца, што ў нас зачастую надта няправільна, вузка, анты-гістарычна разумеюць гэтае слова (буржуа.—Г. Я.), звязваючы з ім (*без адрознення гістарычных эпох*) своекарыслівую абарону інтарэсаў меншасці. Нельга забываць, што ў тую пару, калі пісалі прасвяціцелі XVIII века (якіх агульна прызнаны погляд адносіць да важакоў буржуазіі), калі пісалі нашы прасвяціцелі ад 40-х да 60-х годаў, усе грамадскія пытанні зводзіліся да барацьбы з прыгонным правам і яго астаткамі. Новыя грамадска-эканамічныя адносіны і іх супярэчнасці тады былі яшчэ ў зародкавым стане. Ніякай своекарыслівасці таму тады ў ідэолагах буржуазіі не праяўлялася; наадварот, і на Захадзе і ў Расіі яны зусім шчыра верылі ў агульны добрабыт і шчыра жадалі яго, шчыра не бачылі (часткова не маглі яшчэ бачыць) супярэчнасцей у тым ладзе, які вырастаў з прыгоннага» *).

* * *

У 1939 г. совецкая грамадскасць адзначае 150-годдзе французскай буржуазнай рэвалюцыі, ідэйнымі натхніцелямі якой былі французскія матэрыялісты. За прайшоўшыя 150 год капіталізм паспеў не толькі вырасці, устанавіць сваю ўладу над светам, але і ператварыцца ў капіталізм паміраючы, прыйсці да свайго апошняга перыяда—да імперыялізма. Разам з захватам улады і ўстанаўленнем палітычнага панавання закончылася і рэвалюцыйнасць французскай буржуазіі. К часу Парыжскай Комуны адбываецца паварот буржуазіі ў бок рэакцыі і контррэволюцыі.

У эпоху імперыялізма, у час абвостранай класавай барацьбы, калі да крайнасці агаляюцца антаганістычныя супярэчнасці, калі паміраючаму капіталізму процістаіць маладая краіна Советаў—дзяржава соцыялізма, у гэты час фашыствуючая буржуазія хапаецца за найбольш рэакцыйныя, ідэалістычныя погляды, адраджае найбольш варварскі перыяд сярэдневякоўя, супроць якога так бліскуча і бязлітасна змагаліся матэрыялісты XVIII века.

Буржуазная інтэлігенцыя баіцца матэрыялізма. Яна не без падставы лічыць матэрыялізм вучэннем, небяспечным для панавання капіталізма. Яна шукае шляхоў прымірэння навукі з рэлігіяй.

Толькі ў Совецкім Саюзе, у краіне вялікай Сталінскай Канстытуцыі, матэрыялізм у яго паслядоўна навуковай форме—у форме марксізма-ленінізма—з'яўляецца непадзельна пануючым вучэннем. Вось чаму бліскучыя прадстаўнікі матэрыялізма мінулага выклікаюць у нас велізарны інтарэс і жывуць у памяці пакалення будаўнікоў шчаслівага, радаснага жыцця.

---

*) *Ленін*, т. II, стар. 315.

# АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ

І. Лочмель

## Адмена прыгоннага права на Беларусі ў 1861 г.

*У рэдакцыю журнала „Большэвік Беларусі“ звярнуўся т. Еромiхін (г. Менск) з просьбай растлумачыць, як была праведзена на Беларусі адмена прыгоннага права ў 1861 годзе.*

*Адказваем на пытанне.*

У першай палове XIX века ў Расіі ішоў працэс разлажэння феадальна-прыгоннай сістэмы гаспадаркі пад уплывам капіталістычных адносін, якія ў той час развіваліся ў краіне. Капіталістычная прамысловасць у сярэдзіне XIX века амаль канчаткова выцесніла прыгонную дваранскую мануфактуру. У 1825 годзе ў Расіі налічвалася 5.261 прамысловае прадпрыемства з 210.568 рабочымі. К 1850 году колькасць прадпрыемстваў узрасла да 9.848 і рабочых—да 501.639. Памешчыцкая гаспадарка ўсё больш і больш уцягвалася ў сістэму сусветнага рынку. З года ў год павялічваўся вываз хлеба і сельскагаспадарчай сыравіны на еўрапейскі рынак. У 1825 годзе было вывезена 10 071 тыс. пудоў зярна, а ў 1850 годзе—ужо 51.211 тыс. пудоў.

> «Вытворчасць хлеба памешчыкамі на продаж, якая асабліва развілася ў апошні час існавання прыгоннага права, была ўжо прадвеснікам распаду старога рэжыму» *.

На Беларусі таксама адбываўся падобны працэс разлажэння феадальна-прыгоннага ладу. Развівалася, хоць і вельмі марудна, капіталістычная прамысловасць. У 1825 годзе на Беларусі налічвалася 239 прадпрыемстваў з колькасцю рабочых 3.835. К 1861 году колькасць прадпрыемстваў узрасла да 604, а рабочых—да 9.714.

Прыгоннае права затрымлівала развіццё капіталістычнай прамысловасці як у Расіі, так і на Беларусі. Яно з'яўлялася тормазам і ў развіцці сельскай гаспадаркі. Памешчыкі імкнуліся як мага больш вытвараць хлеба для продажу на унутраным рынку і для вывазу за граніцу, але паднявольная праца прыгонных сялян была непрадукцыйнай.

Звязаныя з рынкам памешчыкі імкнуліся падняць даходнасць сваіх маёнткаў. Некаторыя з іх пачалі разумець нявыгаднасць прыгоннага права і перавагу прымянення вольнанаёмнай працы. Паасобныя памешчыкі прабавалі прымяніць больш удасканаленыя спосабы апрацоўкі зямлі, але ўсе іх спробы натыкаліся на прыгоннае права і не ўдаваліся. Большасць памешчыкаў цэпка трымалася за прыгон-

* *Ленін*, т. III, стар. 140.

ныя парадкі і ў пагоні за грашыма павялічвала паншчыну, аброк і іншыя павіннасці прыгонных сялян. Прыгонны гнёт усё больш і больш узмацняўся.

Пры прыгонным праве сяляне былі поўнай уласнасцю памешчыкаў. Уладары маглі прадаваць, закладваць, дарыць і абменьваць сялян на жывёлу. Прыгонныя сяляне не мелі права ўладаць нерухомай маемасцю, без дазволу памешчыка не маглі ўступаць у шлюб.

Асабліва цяжкім было становішча беларускіх сялян. Ненавісныя польскія паны захавалі на Беларусі свае маёнткі і ўладу над сялянамі. Беларускія сяляне прыгняталіся таксама рускімі і беларускімі памешчыкамі.

Магілеўскі губернатар у справаздачы за 1858 год прымушан быў прызнаць, што прыгоннае права «у беларускіх губерніях значна больш мела характару асабістага рабства, чым у губерніях вялікарасійскіх»*.

Памешчыкі тварылі над сялянамі самыя нечалавечыя, зверскія здзекі і гвалты. Жудасцю вее ад апісання страшэнных мук і катаванняў, якім падвяргаліся прыгонныя сяляне памешчыцы Менскай губерніі, Мазырскага павета, Стоцкай.

«Памешчыца гэта,—гаворыцца ў матэрыялах следства,—за зусім малазначную віну... падвяргала оных (сялян) пакаранню да ста і больш удараў розгамі і бізунамі; і пакаранні гэтыя праводзіліся нават такім чынам: яна ўстроіла ў сваім пакоі адзін жалезны прабой у столі, а другі ў процілегласці онага на падлозе; падвесіўшы чалавека на верхнім прабоі за абедзве рукі раменнымі лейцамі і прывязаўшы ногі да прабоя, убітага ў падлозе, раздзеўшы данага вісячага, загадвала караць... Акрамя гэтага, вельмі часта наносіла пабоі палкай, бязменам і якой-бы ні трапіла ёй на вочы цвёрдай прыладай, нават нажом па галаве, спіне, руках і па нагах; не здавальняючыся гэтым, кусала зубамі за цела, душыла рукамі за глотку і ціснула нагамі і каленямі грудзі і жывот... Накладвала на шыю жалезны ланцуг і замыкала яго на прабой, убіты ў сценку, налівала за шыю кіпячую ваду... загадвала есці здохлых п'явак, палячы раскаленым жалезам цела, загадвала ў сваім пакоі танцаваць, гаворачы бесперапынна такія словы: «скачы, уража, як пан кажа» **.

Гэта памешчыца-кат замучыла да смерці 16-гадовую пакаёўку. Цела замучанай дзяўчыны Стоцкая загадала рассячы на кавалкі, зварыць і выкінуць на з'ядзенне сабакам. Гэтак сама замучана была прыгонная дзяўчына Аўдоцця. Цела яе вывезлі ў лес і спалілі. Такіх замучаных афяр было некалькі.

Сяляне, даведзеныя памешчыкамі да поўнага разарэння, пухлі і паміралі ад голаду або ад панскіх бізуноў. Але памешчыкам усё было мала, і яны ўсё больш прыгняталі сялян.

Генерал-губернатар Смаленскай, Віцебскай і Магілеўскай губерній Ігнацьеў у дакладзе цару ў 1855 годзе пісаў:

«Амаль паўсюды існуе звычай—зараз-жа па ўборцы з палёў і гародаў сялянамі хлеба—адбіраць у іх увесь ураджай і звозіць яго на панскі двор, прадастаўляючы сялянам харчавацца гароднінай... Зіма, вясна і лета праходзяць у безупыннай працы і ў галодным пасце. Восенню селянін лічыць сябе шчаслівым, калі яму ўдасца ўкрасці з уласнага поля некалькі снапоў хлеба... Але каб у поўнай меры вы-

* ЛОЦИА, (Ленінградскае аддзяленне цэнтральнага гістарычнага архіва), архіў МВД, спр. № 59, 1859 г.

** ЛОЦИА, МВД, спр. № 982, 1846 г.

разіць ступень уніжэння, да якой дайшоў беларускі селянін, даволі прывесці такі, напаткаўшы мяне, выпадак: даведаўшыся, што ў памешчыцкім маёнтку селянін араў сахою, у якую запрэжаны былі дзве сялянскія жанчыны, я ў той-жа час загадаў правесці строгае следства. Яно пасведчыла... што сапраўды дзве жанчыны былі запрэжаны ў саху, якою кіраваў селянін (муж адной і сын другой з запрэжаных жанчын), што такім спосабам гэтае сямейства апрацоўвала ўласную сваю паласу... за адсутнасцю іншых для гэтага сродкаў»*.

Як ні душылі памешчыкі сялян, але ўзняць даходнасць маёнткаў ім не ўдавалася. Наадварот, даходнасць іх падала, сялянская гаспадарка разаралася, бо палкамі і розгамі немагчыма было ўзняць прадукцыйнасць прыгоннай працы.

Сялянства на Беларусі, як і па ўсёй Расіі, узнімалася на барацьбу за зямлю і волю, супроць прыгоннікаў-памешчыкаў. Сялянскія «бунты» узрасталі з года ў год. Сяляне адмаўляліся выконваць павіннасці і часта разбягаліся, куды вочы глядзяць, іншы раз забіваючы ненавісных памешчыкаў.

Асабліва значныя сялянскія хваляванні адбываліся ў 40-х годах на Віцебшчыне. У 1840—41 гг. узнялі паўстанне сяляне Яновальскай воласці Люцынскага павета. Цар Нікалай I загадаў паслаць для падаўлення паўстання батальён войска. Каля тысячы ўзброеных стрэльбамі і дубінамі сялян уступіла ў бой з царскім войскам. Сяляне былі разбіты. Царскі суд прыгаварыў 116 сялян да пакарання шпіцрутэнамі праз строй 500 салдат. Кожнага дзесятага селяніна высеклі розгамі, па 150 udaраў. Кіраўніка паўстання Матвеева да смерці збілі шпіцрутэнамі.

У 1845 годзе ўспыхнула паўстанне сялян у маёнтку Вацлавава, Лепельскага павета. Сіламі паліцыі і жандармаў паўстанне было падаўлена. Але ні шпіцрутэны, ні розгі не дапамагалі. Сяляне зноў і зноў узнімаліся на барацьбу з памешчыкамі. У 1847 годзе ў некалькіх паветах Віцебскай губерніі рух сялян набыў форму масавага бегства. У той час на будаўніцтва Нікалаеўскай чыгункі вербавалі рабочую сілу. Сярод сялян пайшлі чуткі, што тых, хто прапрацуе на гэтай чыгунцы тры годы, будуць вызваляць ад прыгону. Хадзілі таксама чуткі, што цар дае волю сялянам і загадвае ім перасяляцца на «вольныя землі» у Сібір і іншыя месцы. Сяляне цэлымі сёламі, разам з сем'ямі, зніmaліся з месца і накіроўваліся на ўсход, спадзеючыся атрымаць там зямлю і волю. Пры гэтым яны грамілі памешчыкаў, узбройваліся чым папала, рыхтуючыся ўступіць у барацьбу з мясцовымі ўладамі.

«На людзей, якія прабавалі спыніць хваляванні ўгаворамі або сілай, сяляне глядзелі цяпер як на аслушнікаў царскай волі, падкупленых памешчыкамі. Хваляванне станавілася ўсеагульным і набывала характар абурэння, асабліва ў Дрысенскім павеце. Сяляне пагражалі забойствам памешчыкаў, рыхтуючыся да пабегу, набывалі ружжы, куплялі порах, лілі кулі, перакоўвалі лемяшы на пікі, прыладжвалі косы на кароткія рукаяткі» **.

Цар Нікалай I для падаўлення паўстання паслаў у Віцебскую губернію войска ў складзе аднаго палка, аднаго асобнага батальёна і двух асобных рот. Разам з войскам дзейнічалі шматлікія атрады

* ЛОЦИА, МВД, справа № 18, 1865 г.
** „Памятная кніга Віцебскай губерніі", стар. 110—117, 1866 г.

паліцыі і жандармаў. Сяляне ўступалі ў бой з войскам і паліцыяй. Так, каля сяла Дзерабіхі Невельскага павета атрад войска і паліцыі пераняў дарогу велізарнаму натоўпу сялян у тысячу чалавек. Партыя беглых «у адказ на ўгаворы прыстава кінулася на атрад, забіла 9 чалавек салдат, зламала 15 ружжаў, адбіла затрыманых крыху раней атрадам больш 70 сямей і рушыла следам за першай партыяй» *. Праз некаторы час той-жа атрад сустрэў каля сяла Конашава новую партыю беглых сялян. Угаворы прыстава вярнуцца назад не мелі поспеху. «Спадзеючыся на сваю шматлікасць, узброеныя сякерамі, насаджанымі на колле, сяляне кінуліся на салдат і ўраз забілі унтэр-афіцэра» **. Супроць сялян была прыменена агнястрэльная зброя; чацвёра сялян было забіта і пяцёра ранена.

З дапамогаю ваеннай сілы сялянскі рух удалося цару разграміць. З пабегу вернута было больш 6.000 чалавек. Каля 600 чалавек «не вернута на месца жыхарства, бо невядома, дзе яны знаходзяцца». Больш сотні сялян, прызнаных зачыншчыкамі, адданы былі ваеннаму суду, спецыяльна ўстаноўленаму ў горадзе Себежы. 114 чалавек былі прыгавораны да заключэння ў турму і высылкі ў Сібір, 400 чалавек высечана розгамі.

Сяляне не пераставалі марыць аб волі. У Дрысенскім, Себежскім і іншых паветах працягвалася глухое бражэнне. Хадзілі гутаркі, што ўвосень, пасля Пакрова, не тое яшчэ будзе. «Тады мы не толькі не будзем хадзіць на паншчыну, але ўсіх паноў перарэжам» ***.

Сялянскія «бунты» успыхвалі ў розных месцах Беларусі, моцна трывожачы цара і памешчыкаў. Напалоханы царскі ўрад прымушан быў яшчэ да адмены прыгоннага права прыняць некаторыя меры для супакаення сялян на Беларусі. Яшчэ ў канцы 30-х год урад прызнаў неабходным увесці інвентары ў беларускіх і украінскіх губернiях з мэтай «абмежавання сваявольства прыватных уладальнікаў над прыгоннымі сялянамі».

Інвентары—гэта падрабязнае апісанне кожнага памешчыцкага маёнтка, з поўным улікам сялян, жывёлы, інвентара, пабудоў, з дакладным вызначэннем сялянскіх павіннасцей.

Сялянскія паўстанні 40-х год прымусілі царскі ўрад паспяшыць з увядзеннем інвентарных правіл. У 1844 г. цар Нікалай I выдаў указ аб стварэнні ў губернiях Беларусі інвентарных камітэтаў, якія павінны былі скласці праекты інвентарных правіл. Пры гэтым прапанавалася некалькі паменшыць павіннасці сялян. Але ў склад інвентарных камітэтаў уваходзілі самі памешчыкі. Яны ўсяляк зацягвалі складанне інвентароў, імкнучыся выкарыстаць іх у сваіх інтарэсах. Складанне інвентароў зацягнулася да 50-х год. Уведзеныя ў некаторых маёнтках інвентарныя правілы амаль ніколькі не палепшылі становішча беларускіх сялян. Павіннасці, паншчына і аброк, заставаліся ў асноўным ранейшыя, але затое былі дакладна вызначаны. Некаторай палёгкай было толькі тое, што падводная павіннасць залічвалася ў лік паншчыны, а таксама адмяняліся адвольныя натуральныя пабoры з сялян.

Увядзенне інвентароў не толькі не супакоіла сялян, наадварот—прывяло да яшчэ большага абвастрэння барацьбы з памешчыкамі. Сярод сялян хадзілі чуткі, што быццам цар ужо даўно даў волю,

* „Памятная кніга Віцебскай губерніі", стар. 110—117, 1866 г.
** Там-жа.
*** Там-жа

а памешчыкі скрываюць яе ад народа, уводзячы замест вызвалення інвентары.

К 50 годам унутраныя супярэчнасці ў Расіі абвастрыліся да крайнасці. Капіталістычная прамысловасць развівалася і патрабавала рынкаў і свабоднай рабочай сілы. Сельская гаспадарка, якая грунтавалася на працы прыгонных сялян, прыходзіла ў заняпад. Прыгоннае права было вялікай перашкодай на шляху эканамічнага развіцця краіны. Сялянскія хваляванні па ўсёй Расіі з года ў год узмацняліся і пачалі набываць пагражаючы характар.

Цар Нікалай І імкнуўся ўсімі сродкамі ўтрымаць прыгоннае права. Каб замацаваць устоі самадзяржаўя і адтэрмінаваць падзенне прыгоннага права, ён паспяшыў пачаць вайну з Турцыяй. Крымская вайна пачалася ў 1853 годзе. Англія і Францыя прышлі на дапамогу Турцыі і аб'явілі Расіі вайну. Прусія і Аўстрыя таксама занялі варожую пазіцыю. Прыгонная Расія аказалася зусім непадрыхтаванай да вайны. У гэты час з асаблівай яркасцю выявілася яе эканамічная, тэхнічная, ваенная і культурная адсталасць у параўнанні з капіталістычнымі дзяржавамі Еўропы. Паражэнне рускага царызма ў Крымскай вайне ўсклала новы цяжар на плечы сялянства. Сялянскія «бунты» узмацніліся па ўсёй Расіі.

> «Царскі ўрад, аслаблены ваенным паражэннем у часе Крымскай кампаніі і запалоханы сялянскімі «бунтамі» супроць памешчыкаў, аказаўся вымушаным адмяніць у 1861 годзе прыгоннае права»*.

Такім чынам к 60-м годам у Расіі склалася рэвалюцыйная сітуацыя.

Яшчэ ў 1856 годзе цар Александр II, толькі што ўступіўшы на прастол пасля смерці свайго бацькі Нікалая І, на сходзе маскоўскага дваранства прымушан быў заявіць: «Лепш адмяніць прыгоннае права зверху, чым дачакацца таго часу, калі яно само сабою пачне адмяняцца знізу. Прашу вас, панове, падумаць аб тым, як-бы прывесці гэта ў выкананне. Перадайце словы мае дваранству для абмеркавання» **.

Цар і памешчыкі, улічваючы рэзкую для іх абстаноўку і баючыся сялянскай рэвалюцыі, вымушаны былі прыступіць да адмены прыгоннага права. Але першы памешчык Александр II, пры дапамозе рабалепствуючых дваранскіх і ліберальна-буржуазных публіцыстаў і пісьменнікаў, стараўся прадставіць гэтую вымушаную для яго меру, як вынік «благародных пабуджэнняў» дваранства, як «міласць цара».

Заслугоўвае ўвагі той факт, што памешчыкі літоўскіх і беларускіх губерній першымі выказаліся за адмену прыгоннага права. І гэта зусім зразумела, калі прыняць пад увагу, што асабліва шырокі размах набыла барацьба беларускіх сялян супроць памешчыкаў.

Дваранскія інвентарныя камітэты Ковенскай, Віленскай і Гродненскай губерній, пераканаўшыся, што ўвядзенне інвентароў толькі ўзмацняе сялянскія хваляванні, зрабілі нарэшце вывад, што «прышоў час палажыць канец прыгону, што трэба замяніць яго добраахвотнымі пагадненнямі памешчыкаў з сялянамі» ***. Да такога-ж вываду прыйшла і большасць дваранства гэтых губерній.

Віленскі генерал-губернатар Назімаў у лістападзе 1857 г. далажыў

* „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 5.
** ЛОЦИА. Галоўкамітэт па сялянскіх справах, спр. № 6, 1855—58 гг.
*** ЛОЦИА. Там-жа.

міністру ўнутраных спраў, што дваранства адзначаных вышэй губерній прышло да пераканання ў неабходнасці адмены прыгоннага права «пры недатыкальнасці вотчынных праў памешчыкаў на зямлю»*. Гэта значыць, што памешчыкі прапанавалі «вызваліць» сялян без зямлі. Пры гэтым выказана было меркаванне: «Са знішчэннем прыгону ўладзіць справу так, каб сяляне заўсёды адчувалі над сабой апеку і неабходнасць працаваць» **. Сяляне павінны былі заключаць дагаворы з памешчыкамі на арэнду сядзібы і зямельных участкаў «на магчыма працяглыя тэрміны», накшталт таго, як гэта было ў Курляндыі. Меркаванні дваран беларускіх і літоўскіх губерній прадстаўлены былі цару.

Азнаёміўшыся з прапановамі дваран Беларусі, Александр II 20 лістапада выдаў рэскрыпт на імя віленскага генерал-губернатара Назімава, у якім прапанаваў неадкладна стварыць падрыхтоўчыя камітэты ў Ковенскай, Віленскай і Гродненскай губерніях для абмеркавання ўмоў рэформы і складання адпаведнага праекта. У губернскія камітэты цар прапанаваў увесці: а) па аднаму двараніну ад кожнага павета па выбару дваранства і б) двух «вопытных памешчыкаў» з губерній па прызначэнню губернатара. Таксама прапанавана было стварыць агульную камісію для ўсіх трох губерній, куды, акрамя памешчыкаў, павінен увайсці і член ад міністэрства ўнутраных спраў. Такім чынам справа падрыхтоўкі «вызвалення» сялян перадана была ў рукі саміх памешчыкаў і царскіх чыноўнікаў. Прадстаўнікоў ад сялян у камітэты не дапускалі.

У рэскрыпце былі ўказаны наступныя асноўныя прынцыпы, якімі павінны былі строга кіравацца губернскія камітэты пры складанні праектаў:

> «1) Памешчыкам захоўваецца права ўласнасці на ўсю зямлю, але сялянам пакідаецца іх сядзібная аседласць, якую яны на працягу пэўнага часу набываюць у сваю ўласнасць праз выкуп; звыш таго прадастаўляецца ў карыстанне сялян пэўная па мясцовых выгодах, для забеспячэння іх быту і для выканання іх абавязкаў перад урадам і памешчыкам, колькасць зямлі, за якую яны або плацяць аброк, або адбываюць работу памешчыку.
>
> 2) Сяляне павінны быць размеркаваны на сельскія вобчаствы; памешчыкам-жа прадастаўляецца вотчынная паліцыя і
>
> 3) Пры наладжванні будучых адносін памешчыкаў і сялян павінна быць належным чынам забяспечана сапраўдная выплата дзяржаўных і земскіх падаткаў і грашовых збораў» ***.

Як бачым, цар не мог пагадзіцца з зусім беззямельным «вызваленнем» сялян і ўказаў на неабходнасць пакінуць сялянам сядзібы за выкуп і прадаставіць у іх карыстанне палявыя надзелы за павіннасці, аброк або паншчыну. Цар кіраваўся пры гэтым «дзяржаўнымі» і паліцэйскімі меркаваннямі. Па-першае, пры беззямельным «вызваленні» узнікала небяспека ўсеагульнага сялянскага паўстання, а, падругое, сялянам трэба было прадаставіць зямельны надзел, каб яны маглі выконваць абавязкі перад урадам і памешчыкамі.

Неўзабаве пасля рэскрыпта Назімаву, падрыхтоўчыя камітэты па складанню праектаў рэформы прапанавана было стварыць ва ўсіх

* ЛОЦИА. Галоўкамітэт па сялянскіх справах, спр. № 6, 1855—58 гг.
** Там-жа.
*** Там-жа.

губернiях Расii. З гэтага i пачалася падрыхтоўка адмены прыгоннага права.

У Пецербургу створаны былi рэдакцыйныя камiсii з царскiх саноўнiкаў. На падставе праектаў губернскiх камiтэтаў яны склалi агульны праект i накiравалi яго на абмеркаванне Галоўнага камiтэта, якiм кiраваў сам цар i яго прыблiжаныя.

Уся падрыхтоўчая работа па абмеркаванню праектаў была закончана к пачатку 1861 года. 19 лютага Александр II падпiсаў манiфест аб «вызваленнi» сялян. Адначасова выдана было «Палажэнне аб сялянах, якiя вышлi з прыгону». Але манiфест быў абнародаван толькi ў сакавiку, бо ўрад баяўся паўстанняў сялян, якiя спадзявалiся атрымаць поўную свабоду i ўсю зямлю. Сярод сялян вельмi пашыраны былi чуткi, што цар рыхтуе iменна такi манiфест, а памешчыкi яму перашкаджаюць. Як даносiў цару мiнiстр унутраных спраў, «памiж сялянамi пачалi распаўсюджвацца небяспечныя чуткi, што памешчыкi скрываюць атрыманы нiбыта ўказ аб свабодзе» *.

Сяляне адмаўлялiся выконваць паншчыну i плацiць аброк. З усiх губернiй паступалi данясеннi ад прадвадзiцеляў дваранства, «поўныя змрочнымi чаканнямi будучых народных абурэнняў» **. Такое становiшча было па ўсёй Расii. На Беларусi-ж яно было яшчэ напружаней, бо беларускiя сяляне асаблiва ненавiдзелi польскiх паноў, якiх тут было шмат.

Напярэдаднi абнародавання манiфеста ў Беларусi мабiлiзаваны былi ўсе сiлы палiцыi i войска, а таксама папы i ксяндзы. Оберпракурор сiнода ў спецыяльным пiсьме менскаму епiскапу прапанаваў яму адпаведным чынам праiнструктаваць усiх папоў напамiнаючы, што iх абавязак—«навучаць прыхажан, каб яны захоўвалi вернасць гасудару i паслушэнства начальству, ад яго пастаўленаму, каб няўхiльна i добрасумленна выконвалi законныя павiннасцi i плацiлi пэўныя падаткi i накладзеныя або абумоўленыя аброкi» ***. Папам прапанавана было ў пропаведзях i навучэннях заклiкаць сялян да пакорлiвасцi, а таксама сачыць за асобамi, якiя распаўсюджваюць «чуткi, не спрыяючыя справе i агульнаму спакою», i даносiць аб гэтым каму належыць.

Прыняўшы адпаведныя меры супроць сялян, урад 5 сакавiка 1861 года абнародаваў нарэшце манiфест. Згодна царскаму манiфесту i палажэнню ад 19 лютага, прыгоннае права адмянялася назаўсёды. Але ўся зямля была аб'яўлена ўласнасцю памешчыкаў. Сялянам прадастаўлялася ў карыстанне сядзiба i пэўная для кожнай мясцовасцi норма палявога надзела. За карыстанне сядзiбай i надзелам сяляне абавязаны былi выконваць паншчыну або плацiць аброк. Размер зямельных надзелаў устанаўляўся ў залежнасцi ад мясцовых умоў. Для Беларусi вышэйшая норма надзела складала 4—$5^1/_2$ дзесяцiн на рэвiзскую душу, г. зн. на дарослага мужчыну. Нiжэйшая норма складала $1^1/_3$—$1^5/_6$ дзесяцiны. Для кожнага павета мясцовымi палажэннямi ўстанаўлялася пэўная норма надзела. Калi зямельны надзел селянiна да адмены прыгоннага права перавышаў устаноўленую палажэннем норму, то памешчыку прадастаўлялася права адрэзваць лiшак у сваю карысць. Такiм чынам памешчыкi атрымалi магчымасць грабiць сялян i прысвоiць у выглядзе адрэзкаў ад $^1/_5$ да $^2/_5$ сялянскай зямлi.

---

* ЛОЦИА. Галоўкамiтэт па сялянскiх справах, № 1114, 1857—60 гг

** Там-жа.

*** Магiлеўскi гiст. архiў, спр. № 861, 1861 г.

Па гэтаму поваду Ленін пісаў:

«Праславутае «вызваленне» было самым бессаромным грабяжом сялян, было радам гвалтаў і суцэльным здзекам над імі. З прычыны «вызвалення», ад сялянскай зямлі адрэзалі ў чорназемных губернiях звыш 1/5 часткі. У некаторых губернiях адрэзалі, адабралі ў сялян да 1/3 і нават да 2/5 сялянскай зямлі. З прычыны «вызвалення», сялянскія землі адмяжоўвалі ад памешчыцкіх так, што сяляне перасяляліся на «пясочак», а памешчыцкія землі клінком уганяліся ў сялянскія, каб лягчэй было благародным дваранам кабаліць сялян і здаваць ім зямлю за ліхвярскія цэны»*.

Памешчыкі грабілі такім спосабам і беларускіх сялян. У вёсцы Барышаўцы, Чавускага павета, Магілеўскай губерніі, сяляне да рэформы мелі 290 дзесяцін зямлі, а пасля рэформы памешчык адрэзаў ад іх 106 дзесяцін (36,5 проц.). У мястэчку Чарэі Сенненскага павета ад 1800 дзесяцін зямлі, якой карысталіся сяляне пры прыгонным праве, памешчык адрэзаў 761 дзесяціну (44 проц.). У сяле Новыя Юркавічы Гомельскага павета ад 3177 дзесяцін было адрэзана 697 дзесяцін (25 проц.). Падобных фактаў было безліч.

У выніку «вызвалення» сяляне атрымалі вельмі мала зямлі, ды і то самай дрэннай, бо лепшую памешчыкі забралі сабе. «...Сяляне выйшлі «на свабоду» абадраныя да жабрацтва, вышлі з рабства ў памешчыкаў у кабалу да тых-жа памешчыкаў і іх стаўленікаў» **.

Пасля адмены прыгоннага права сяляне яшчэ доўгі час выконвалі паншчыну за карыстанне зямельнымі надзеламі або плацілі аброк. На Беларусі размер павіннасцей устаноўлен быў наступны: 8 рублёў аброку з душавога надзелу або 70 дзён паншчыны ў год (40 дзён неслі паншчыну мужчыны і 30 жанчыны). У такім становішчы сяляне называліся часова-абавязанымі. Толькі пасля выкупа надзела часова-абавязанныя адносіны спыняліся.

Становішча часова-абавязаных мала чым адрознівалася ад прыгону. Толькі цяпер памешчык не мог прадаваць, мяняць і сячы сялян. Селянін мог выкупіць надзел ва ўласнасць толькі пры згодзе памешчыка. Калі памешчык выказваў такую згоду, то паміж ім і селянінам заключалася выкупная здзелка. Выкупная сума была вызначана ў палажэнні і была абавязковай, калі паміж бакамі не дасягалася добраахвотнай згоды. Выкупная цана надзелу была значна вышэй тагочаснай рыначнай цаны на зямлю. Размер выкупу за душавы надзел у Беларусі складаў 300, 400 і больш рублёў, у залежнасці ад месцапалажэння і якасці зямлі. Пры заключэнні здзелкі селянін павінен быў унесці памешчыку 25 проц. выкупной сумы. Астатнія 75 проц. казна выплачвала памешчыку, а потым спаганяла з селяніна на працягу 49 год. Пры такой растэрміноўцы выкупных плацяжоў казна брала з сялян вялікія проценты, якія складалі мільёны рублёў.

Пасля адмены прыгоннага права сяляне атрымалі асабістую свабоду і некаторыя правы. Яны перасталі быць уласнасцю памешчыкаў, маглі ўступаць у шлюб без іх дазволу, заключаць усякія дагаворы, займацца гандлем, рамесніцтвам, адкрываць прамысловыя і іншыя прадпрыемствы, набываць нерухомую маемасць. Гэта быў, вядома, буйны крок ад феадальнага да буржуазнага права.

Аднак поўнай свабоды селянін не атрымаў і пасля адмены пры-

* *Ленін*, т. XV, стар. 142.
** Там-жа, стар. 109.

гоннага права. На Беларусі, як і ў рускіх губернiях, захавана была поўфеадальная сельская абшчына, якая размяркоўвала землі паміж дварамі. Выганы і пасьбішчы знаходзіліся ў агульным карыстанні абшчыны. Час ад часу праводзіліся агульныя перадзелы зямлі. Сельская абшчына з'яўлялася зброяй у руках царскага ўрада і памешчыкаў для выкалачвання выкупных плацяжоў, падаткаў і павіннасцей. Для гэтага ўстаноўлена была кругавая парука. Селянін быў прывязан да абшчыны і без яе дазволу не мог выйсці з вёскі. Прывязанага да абшчыны селяніна памешчык лягчэй мог закабаліць. Не дзіва, што царскі ўрад да 1905 года ўсякімі штучнымі спосабамі стараўся захаваць абшчыну, утрымаць яе ад распаду.

Для паліцэйска-памешчыцкай апекі над сялянамі, згодна палажэнню 19 лютага 1861 года, створаны былі так званыя «органы сялянскага самакіравання». На сельскім сходзе абіраўся староста, абавязаны падпарадкавацца валасному старшыні і паліцэйскім уладам. Старасту зацвярджала вышэйшае начальства, так званы, міравы пасрэднік з памешчыкаў.

Міравы пасрэднік заўсёды мог змясціць няўгоднага памешчыку старасту і прызначыць новыя выбары. Галоўныя функцыі сельскага старасты заключаліся ў тым, каб выкалачваць з сялян падаткі і сачыць за парадкам. Староста меў права караць сялян за дробныя ўчынкі (штраф да аднаго рубля, арышт да двух дзён і інш.). Па загаду старасты правініўшагася селяніна маглі публічна высечы розгамі.

Некалькі сельскіх абшчын складалі адміністрацыйную адзінку— воласць. На валасным сходзе выбіралі валаснога старшыню і валасных суддзяў. Валасны старшыня абавязан быў выконваць усе распараджэнні паліцэйскіх, выкачваць падаткі, сачыць за парадкам і паведамляць паліцыі аб самавольна адлучыўшыхся з воласці. Павятовыя ўлады сачылі за выбарамі старшыні і маглі іх адмяніць. Валасным старшынёю ў большасці выпадкаў быў вясковы багацей-кулак. У воласці была ўстаноўлена яшчэ і паліцэйская ўлада ў асобе ўрадніка і стражнікаў. Над воласцю непасрэдна стаяла павятовае прысутцтвіе па сялянскіх справах, якое складалася з прызначаных чыноўнікаў.

У 1889 годзе ў воласці ўведзена была новая судова-адміністрацыйная ўлада—земскі начальнік, які прызначаўся з мясцовых дваран. Земскі начальнік меў права арыштоўваць і штрафаваць не толькі сялян, але і сельскіх старост і валасных старшынь. Воласць, такім чынам, была цалкам ва ўладзе памешчыкаў, царскіх чыноўнікаў і паліцыі. Асобы валасны суд мог прысуджваць сялян да пакарання розгамі (да 20 udараў).

> «Сяляне засталіся і пасля вызвалення «ніжэйшым» саслоўем, падатным быдлам, чорнай косцю, над якою здзекавалася пастаўленае памешчыкамі начальства, выкалачвала падаткі, секла розгамі, рукапрыкладствавала і ахайнічала.
>
> Ні ў адной краіне ў свеце сялянства не перажывала і пасля «вызвалення» такога разарэння, такой галечы, такіх уніжэнняў і такіх здзекаў, як у Расіі» *.

Калі сяляне даведаліся аб змесце царскага маніфеста 19 лютага, то па ўсёй Расіі пракацілася новая хваля сялянскіх «бунтаў».

Сяляне адмаўляліся выконваць паншчыну і нярэдка ўступалі

* *Ленін*, т. XV, стар 109

ў сутычкі з паліцыяй і войскам. У 1861 годзе магілеўскі губернатар у сваёй справаздачы цару пісаў, што ў Магілеўскай губерніі «выявіліся... ва многіх месцах паміж сялянамі хваляванні і непарадкі; гэтыя непарадкі заключаліся пераважна ў тым, што сяляне пераставалі служыць паншчыну або патрабавалі ад памешчыкаў іншых уступак з прычыны складанага разумення «Палажэння» *.

У Ашмянскім павеце Віленскай губерніі каля 10 тысяч сялян адмовілася ад паншчыны. Туды былі пасланы тры роты салдат. «Калі было прыступлена да пакарання галоўных віноўнікаў непарадку, то ўсе сяляне кінуліся на салдат і адабралі арыштаваных» **. Тады конны атрад кінуўся ў натоўп і пры садзейнасці пяхоты рассеяў сялян.

Для ўціхамірання сялян Люцынскага павета Віцебскай губерніі паслалі атрад войск. Пры спробе арыштаваць зачыншчыкаў «сяляне сабраліся ў значнай колькасці па-за сяленнем; адмовілі ў выдачы віноўных і пасля зробленых у натоўп халастых стрэлаў кінуліся з коллямі на салдат і змялі іх; калі-ж спраўнікі загадалі страляць у іх баявымі патронамі, то сяляне не адступілі; пры гэтым сярод іх забіта два чалавекі» ***.

У Гродненскай губерніі каля 10 тысяч сялян Беластокскага павета адмовіліся выконваць павіннасці. Батальён салдат падверг сялян масавым поркам розгамі і прывёў у павінавенне.

Паўстанні сялян на Беларусі, як і па ўсёй Расіі, былі стыхійнымі і разрозненымі, а таму лёгка падаўляліся царскім урадам. У Расіі тады яшчэ не было рэвалюцыйнага класа рабочых, не было каму кіраваць барацьбою сялянскіх мас. Але, як указвае Ленін, «былі і тады ўжо ў Расіі рэвалюцыянеры, якія стаялі на баку сялянства і разумелі ўсю вузкасць, усё ўбоства праслаўтай «сялянскай рэформы», увесь яе прыгонніцкі характар. На чале гэтых, крайне нешматлікіх тады, рэвалюцыянераў стаяў Н. Г. Чэрнышэўскі» ****.

Вялікую работу сярод беларускіх сялян вёў рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі. Ён паходзіў з сям'і збяднелага беларускага шляхціча Гродненскай губерніі і атрымаў юрыдычную асвету ў Пецербургскім універсітэце. Жывучы ў Пецербургу, Каліноўскі прымаў удзел у рэвалюцыйных гуртках і знаходзіўся пад уплывам рэвалюцыйных ідэй Чэрнышэўскага, Герцэна і іншых рэвалюцыянераў-дэмакратаў.

У 1862 годзе Каліноўскі прыехаў на радзіму і, паступіўшы на работу валасным пісарам, пачаў падрыхтоўку паўстання. У 1863 годзе ў Польшчы пачалося паўстанне супроць рускага царызма за нацыянальнае вызваленне. У гэты час на Беларусі сялянства разгарнула асабліва моцную барацьбу супроць памешчыкаў і царскіх чыноўнікаў. Барацьбой беларускіх сялян кіраваў Кастусь Каліноўскі. У лістоўцы пад назвай «Мужыцкая праўда» ён заклікаў сялян узбройвацца віламі, косамі, сякерамі і ісці супроць памешчыкаў і цара здабываць зямлю і свабоду. «Гэты маніфест, што цар з сенатам і з панамі для нас напісалі, то такі дурны, што чорт ведае, да чаго ён падобны,—ніякай у ім няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці... Пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды з косамі туды, дзе дабіваюцца волі і праўды» *****.

* ЛОЦИА. МВД. спр. № 8, л. 40, 45, 1862 г.
** З архіва 3-га аддзялення за 1861 год.
*** Там-жа.
**** *Ленін,* т. XV, стар. 143.
***** „Мужыцкая праўда" № 1 і № 5.

Пад кіраўніцтвам Каліноўскага беларускія сяляне грамілі панскія маёнткі, забівалі царскіх чыноўнікаў і разбівалі невялікія атрады царскіх войск.

У Магілеўскай і Віцебскай губернях, як паведамляў губернатар, «распаўсюджваліся па вёсках і дарогах розныя абураючыя сачыненні з мэтай падрыхтаваць і прыцягнуць да паўстання сялянскае насельніцтва» *.

Віцебскі губернатар даносіў, што ва многіх маёнтках сяляне «адмовіліся ад выканання павіннасці ў карысць уладальнікаў» і «можна апасацца, што рух гэты пранікне ў суседнія вялікарасійскія губерніі» **. У Віцебскай губерніі ўшчэнт былі разгромлены 14 маёнткаў і часткова 37.

Для падаўлення паўстання царскі ўрад прыслаў на Беларусь ярага рэакцыянера генерала Мураўёва-Вешацеля з вялікім войскам. Па загаду Мураўёва ў Вільні і іншых гарадах Беларусі амаль штодня вешалі паўстанцаў. У 1864 г. царскімі катамі быў павешан кіраўнік паўстаўшых беларускіх сялян—Каліноўскі. Паўстанне пацярпела няўдачу, таму што рабочы клас яшчэ толькі зараджаўся, не меў ніякай арганізацыі і не мог кіраваць барацьбой сялян, а рэвалюцыянеры-дэмакраты заставаліся адзінкамі і гінулі пад ударамі самадзяржаўя.

Падаўляючы крывавымі мерамі сялянскія паўстанні, царскі ўрад прымушан быў, аднак, пайсці ў 1863 годзе на некаторыя ўступкі сялянству тых беларускіх губерній, дзе барацьба разгарнулася асабліва востра. Царскія чыноўнікі пісалі тады з Беларусі, што яшчэ магчыма «прадастаўленнем новых ільгот утрымаць за сабою сельскае насельніцтва Паўночна-Заходніх губерній... Але трэба спяшацца, сяляне могуць быць спакушаны, і тады нішто акрамя сілы зброі не здолее пераканаць іх у адваротным... Прыцягваючы на свой бок масу насельніцтва, урад адбірае ў рэвалюцыі тую глебу, з якой яна магла-б чэрпаць жыццёвыя для сябе сілы» ***.

Каб адцягнуць сялян ад удзелу ў паўстанні, царскі ўрад правёў на Беларусі некаторыя дадатковыя да рэформы 1861 года мерапрыемствы. Згодна ўказу ад 1 сакавіка 1863 года, у губернях Віленскай, Гродненскай, Менскай і ў паветах Дзвінскім, Люцынскім, Рэжыцкім і Дрысенскім Віцебскай губерніі часова абавязаныя адносіны сялян спыняліся з 1 мая 1863 года, і памешчыкі абавязаны былі пераводзіць сялян на выкуп. Тым часам у рускіх губернях, а таксама ў Віцебскай і Магілеўскай, часова абавязаныя адносіны захоўваліся да 1883 года.

Для пералічаных беларускіх губерній грашовыя павіннасці сялян за надзелы былі зніжаны на 20 проц. і ў адпаведнасці з гэтым на 20 проц. зніжаны выкупныя плацяжы. Акрамя таго, створаны былі праверачныя камісіі для перагляду размераў прадастаўленых сялянам надзелаў і павіннасцей. У выніку сялянскія надзелы ў некаторых месцах былі крыху павялічаны.

Гэтым лоўкім манеўрам царскае самадзяржаўе палегчыла сабе магчымасць падавіць паўстанне 1863 года. Але невялікія ўступкі беларускім сялянам не мелі для іх істотнага значэння. Сяляне па-ранейшаму заставаліся ў бязвыхаднай кабале ў памешчыкаў, якія трымалі ў сваіх руках неасяжныя плошчы самых лепшых зямель. Паводле даных за 1877 год, каля 17 тысяч памешчыкаў уладалі

* ЛОЦИА, МВД, спр. 52, л. 56—62, 1863 г.
** Віцебскі архіў, спр. № 589, л. 261—265.
*** ЛОЦИА Дзяржсовет, спр. 138, л. 45—46, 1863 г.

больш як 200 мільёнамі дзесяцін зямлі, тады як поўмільёна ўсіх сялянскіх двароў мелі толькі 7 мільёнаў дзесяцін. Была на Беларусі невялікая кучка магнатаў, якая ўладала дзесяткамі і сотнямі тысяч дзесяцін зямлі. Зямельныя ўладанні княгіні Гогенлоэ ў Віцебскай, Магілеўскай і Менскай губернiях складалі каля 1 мільёна дзесяцін. Граф Паскевіч меў у Магілеўскай губерніі 84,5 тыс. дзесяцін, граф Чэрнышоў-Круглікаў—75 тысяч дзесяцін, князь Любамірскі—28 тысяч дзесяцін і т. д.

Вакол кожнага буйнага маёнтка туліліся тысячы дробных, змарнелых сялянскіх гаспадарак, прыдушаных памешчыцкай і кулацкай кабалой.

Рэформа 1861 года насіла буржуазны характар і дала моцны штуршок развіццю капіталізма як у Расіі, так і на Беларусі.

> «Пасля падзення прыгоннага права ў Расіі ўсё хутчэй і хутчэй развіваліся гарады, раслі фабрыкі і заводы, будаваліся чыгункі. На змену прыгоннай Расіі ішла Расія капіталістычная»*.

Умовы, у якія рэформа паставіла сялянскую гаспадарку, вялі да хуткага расслаення вёскі. Маса сялян разаралася і ператваралася ў пролетарыяў і поўпролетарыяў, а на другім полюсе вырастаў вясковы кулак-эксплаататар. Сераднякі ледзь зводзілі канцы з канцамі і ў большасці папаўнялі рады беднаты. Вясковыя кулакі высмоктвалі з беднаты апошнія сокі, прыбіраючы да сваіх рук яе надзелы, куплялі і арандавалі землі ў памешчыкаў. Масы беларускага сялянства задыхаліся ад малазямелля і сістэматычных неўраджаяў. Больш мільёна рабочых рук не магло знайсці сабе прымянення ў вёсцы. Сяляне ішлі ў гарады шукаць заработку, наймаліся на будаўніцтва чыгунак, на лесараспрацоўкі, на сплаў і т. д. Карыстаючыся бязвыхадным становішчам сялян, розныя прамыслоўцы і падрадчыкі па-зверску іх эксплаатавалі.

Панаванне памешчыкаў, капіталістаў, кулакоў і царскіх чыноўнікаў асуджала працоўных Беларусі на галечу, голад і выміранне. Толькі вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя, праведзеная пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, вызваліла іх ад цяжкага ярма і забяспечыла заможнае, культурнае і радаснае жыццё ў брацкай, дружнай сям'і народаў СССР.

---

**Ленін*, т. XV, стар. 109.

*АД РЭДАКЦЫІ. У № 4 журнала «Большэвік Беларусі» на стар. 128 у раздзеле «Літаратура» ў 4-м радку зверху трэба чытаць «1933 г.», а ў 8-м радку зверху—«1938 года».*

*Рэдкалегія.*

Уп. Галоўлітбела БССР № 325.
Тыраж 8.960 экз.
337.500 друк. зн. (6 арк.)
Здана ў набор 5/V—39 г.
Падпісана да друку 22/V—39 г.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку. Зак. № 606.






ЦАНА 40 кап.